

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 9 чэрвеня 1989 г. № 23 (3485) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


## Ідзе З'езд народных дэпутатаў СССР



Пасля пасяджэння. Дэпутаты ад Беларусі — навуковец Юрый ВАРОНЕЖЦАЎ і рабочы Віктар КАРНЕЕНКА.



Інтэрв'ю даюць дэпутаты Святаслаў ФЕДАРАЎ і Барыс ЕЛЬЦЫН.



З'ездаўскія знаёмствы. У цэнтры — старшыня калгаса з Віцебшчыны дэпутат Адольф ВАЛАДЗЬКО.
Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

# ВЫБАРЫ, НАЗНАЧЭННІ, ДЫСКУСІІ

**3 чэрвеня** ў Маскве пачаў работу Вярхоўны Савет СССР. На пасяджэнні Савета Саюза дэпутаты выбралі Старшынёй Палаты Саюза Я. М. Прымакова. Савет Саюза ўтварыў пастаянныя камісіі, а таксама разгледзеў прапановы па пытанні ўтварэння камітэтаў Вярхоўнага Савета СССР.

**5 чэрвеня** ў 10 гадзін раніцы народныя дэпутаты СССР сабраліся ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў на чарговае пасяджэнне.

Да дэпутатаў звярнуўся Генеральны сакратар ЦК КПСС, Старшыня Вярхоўнага Савета СССР М. С. Гарбачоў. Ён расказаў аб мерах урада СССР па ліквідацыі вынікаў аварыі на прадуктаправодзе каля ўчастка чыгункі Чэлябінск — Уфа і аказанні дапамогі пацярпеўшым.

Дэпутаты ўшанавалі мінутай маўчання памяць загінуўшых і прынялі рашэнне адлічыць свой дзённы заробак у фонд міласэрнасці дзеля аказання дапамогі сем'ям пацярпеўшых.

У сувязі з аб'яўленай у краіне жалобай пасяджэнне з'езда было перанесена на 6 чэрвеня.

**6 чэрвеня** на З'ездзе народных дэпутатаў працягвалася абмеркаванне даклада Старшыні Вярхоўнага Савета СССР М. С. Гарбачова «Аб асноўных напрамках унутранай і знешняй палітыкі СССР».

Прэзідыум З'езда ўнёс праект заявы аб падзеях у Кітайскай Народнай Рэспубліцы. Большасцю галасоў З'езд прыняў прапанаваную заяву.

Удзельнікі З'езда народных дэпутатаў СССР наведалі Маўзалей Уладзіміра Ільіча Леніна і ўсклалі вянок.

Вянок быў ускладзен таксама да магілы Невядомага салдата.

У той жа дзень у 16 гадзін у Крамлёўскай зале пасяджэнняў палат Вярхоўнага Савета СССР пачалося першае пасяджэнне Савета Нацыянальнасцей.

Дэпутаты выбралі Старшынёй Савета Нацыянальнасцей Р. Н. Нішанава. Было разгледжана пытанне аб утварэнні камісій палаты, а таксама камітэтаў Вярхоўнага Савета СССР.

**7 чэрвеня** ў 10 гадзін раніцы пачалося сумеснае пасяджэнне Савета Саюза і Савета Нацыянальнасцей.

Дэпутаты прынялі да ведама заяву Савета Міністраў СССР аб складанні сваіх паўнамоцтваў перад Вярхоўным Саветам СССР.

Старшыня Вярхоўнага Савета СССР М. С. Гарбачоў у адпаведнасці з Канстытуцыяй СССР унёс прапанову аб назначэнні на пост кіраўніка ўрада Саюза ССР М. І. Рыжкова.

Вярхоўны Савет СССР прыняў пастанову аб назначэнні М. І. Рыжкова Старшынёй Савета Міністраў СССР і 'даручыў яму прадставіць Вярхоўнаму Савету прапановы па складзе ўрада.

Вярхоўны Савет СССР даручыў Савету Міністраў СССР цяперашняга складу працягваць сваю дзейнасць да ўтварэння новага ўрада Саюза ССР.

Вярхоўны Савет СССР выбраў старшынёй Камітэта народнага кантролю СССР Г. В. Колбіна, Старшынёй Вярхоўнага суда СССР Я. А. Смаленцава, назначыў Генеральным пракурорам СССР А. Я. Сухарава і Галоўным дзяржаўным арбітрам СССР Ю. Г. Матвеева.

Былі ўтвораны камітэты Вярхоўнага Савета СССР.

Вечарам 7 чэрвеня на чарговым пасяджэнні З'езда народных дэпутатаў СССР з дакладам «Аб праграме будучай дзейнасці ўрада СССР» выступіў М. І. Рыжкоў.

**8 чэрвеня** на З'ездзе народных дэпутатаў СССР працягвалася агульная дыскусія.

*ПАЭТЫЧНЫ ВОДГУК*

**Мікола КАВАЛЕЎСКІ**

## *Гледзячы і слухаючы З'езд*

Каб не маўчаць, патрэбна
многа ведаць.
Каб сумнявацца, трэба розум
мець.
Інакш ізноў — бяспамяцтва
і беды,
міфічных перамог
бяссэнсавая медзь.

Каб здзейсніць справу,
трэба верыць ў мэту,
Не павучаць, а разумець народ.
Інакш ізноў, як ўжо было
дагэтуль, —
на словах добра ўсё,
ў жыцці — наадварот.

З'яднаць людзей павінен
толькі мужны,
да праўды можа толькі
шчыры йсці...
Інакш, як і раней, няўхільна і
натужна,
старое папаўзе зноў па жыцці.

●

Прыйшоў наш час збіраць
камені,
вяртаць авансы і даўгі —
чаго раней не разумелі,
ці нават бачыць не хацелі —
заныла ранаю на целе,
заныла ранай на душы.
Прыйшоў наш час рабіць
высновы,
прымаць адказнасць на сябе —
каб дух наш малады,
вясновы
быў, як насенне на сяўбе...

Вавілава. Яна ўзбуджана гаварыла:

— Сама я — вясковая і кожную нядзелю езджу да бацькоў у Асіповіцкі раён. Але, як ба-



чыце, за бульбай і мне стаяць даводзіцца. Чаму? А таму, што і ў вёсцы амаль нічога няма. Людзі там працуюць ад цямна да цямна, а не могуць нічога купіць. Акрамя хлеба ды кансерваў, а яшчэ салёнага сала, нічога ў магазінах няма. Зрэдку завозяць каўбасу, але па кааператыўных цэнах. Трэба, каб дэпутаты гаварылі на З'ездзе пра разбітыя дарогі, пра кепскае забеспячэнне сялян палівам, а жывёлы—кармамі...

Нечакана ў гаворку ўмяшалася жанчына, якая прадавала з машыны бульбу:

— Я працую брыгадзірам паляводчай брыгады саўгаса «Гайна» на Лагойшчыне. Прозвішча маё — **Дуброва**, завуць Ядвігай Эдуардаўнай. Сёння я



дванаццаць гадзін прастаяла на санцапёку, за ўвесь дзень толькі шклянку квасу выпіла. Мужчын няма, якія б цягалі мяхі з гэтай самай бульбай. Вёска вымірае, працаваць няма каму. У маёй брыгадзе — пяць чалавек, двое з іх — пенсіянеры. Я адна трыццаць сотак буракоў павінна прапалоць, вырасціць і здаць дзяржаве. Гэта — цяжка. Ну, а куды нашы вяскоўцы могуць пайсці, дзе адпачыць зімой ці восенню, калі работы менш? А нікуды! Клуб заняты пад танцы і вяселлі, а бібліятэкі наогул няма... Пра вёску трэба дбаць на З'ездзе ў першую чаргу.

Паўторымся: рынак багаты на розных людзей. Мы спынілі тут маёра міліцыі. Высветлілася, што ён — супрацоўнік Савецкага РАУС сталіцы. Аляксандру Трафімавічу **Яцкоўскаму** мы задалі канкрэтнае пытанне: «Як вы ацэньваеце дэбаты на З'ездзе наконт указа аб мітынгах і дэманстрацыях?» У адказ прагучала:

— Мітынгі павінны праводзіцца ў адпаведнасці з законам, у месцы, прызначаным для



іх. У Мінску, здаецца, такое месца выбралі — парк 50-годдзя Кастрычніка. Думаю, што гэта — несур'ёзна. Не будуць ездзіць туды людзі, бо далёка ад цэнтра. Гарадскім уладам варта было б паклапаціцца пра такое месца, каб было зручнае для ўсіх. Чаму, напрыклад, не падумаць пра плошчу Парыжскай камуны? Выдатнае месца для такіх мерапрыемстваў... Са З'езда слухаю ўсё. Часам узнікае адчуванне, што там не заўсёды аддзяляюць галоўнае ад другараднага. Да таго ж, мяне абурае, калі дэпутаты зневажаюць адзін аднаго публічна. Асаблівая ўвага дэпутатаў павінна быць скіравана, па-мойму, на супакаенне міжнацыянальнай варожасці ў некаторых рэгіёнах краіны, напрыклад, у Нагорным Карабаху...

Што вынеслі мы з «вандроўкі ў народ»? Думку пра народныя спадзяванні і чаканні, пра ўсеагульную неабыякавасць да таго, што адбываецца на З'ездзе народных дэпутатаў СССР.

**Марыя ГІЛЕВІЧ,**
**Людміла КРУШЫНСКАЯ,**
**спецыяльныя карэспандэнты «ЛіМа».**

---

— Якія, з вашага пункту гледжання, першачарговыя праблемы павінен вырашыць З'езд народных дэпутатаў?

— Безумоўна, галоўнае сёння — эканоміка, другое — міжнацыянальныя адносіны і трэцяе — праблема даверу. Па эканамічных праблемах група маскоўскіх дэпутатаў падрыхтавала, з майго пункту гледжання, арыгінальны праект выйсця з таго складанага, не пабаюся сказаць, перадкрызіснага стану, у якім апынулася наша краіна. Я не эканаміст, я фізік і не магу даць яму вычарпальную ацэнку. Але сказаць, якія ў ім закладзены ідэі, гатовы. Першая, на мой погляд, вельмі важная ідэя, магчыма, і не вельмі арыгінальная, — гэта ідэя ўсямернай эканоміі, акрамя, вядома, становішча найменш забяспечаных груп насельніцтва. Эканомія на капітальным будаўніцтве, на доўгатэрміновых праектах, эканомія на абароне і, вядома ж, на ўтрыманні кіраўнічага, бюракратычнага апарату.

Далей. Глыбокая рэформа сістэмы ўласнасці, якая заканадаўча замацоўвае сапраўднае раўнапраўе розных яе форм як у сельскай гаспадарцы, дзе найбольш востра стаяць гэтыя праблемы, так і ў прамысловасці. Неабходна перагледзець і па магчымасці ўжо на гэтым З'ездзе прыняць новыя законы аб прадпрыемстве, аб кааперацыі і арэндзе. Тыя, што дзейнічаюць цяпер, паказалі сваю нежыццяздольнасць, яны недапрацаваны і таму бяздзейнічаюць. Мне думаецца, неабходны адзіны закон аб прадпрыемстве, у якім будуць агаворany ўсе правы і магчымасці, адзіныя для ўсіх тыпаў прадпрыемства. Акрамя таго, патрэбны заканадаўчыя акты, якія рэзка зменшылі б уладу цэнтралізаваных структур — розных ведамстваў, міністэрстваў, глаўкаў і г. д. Уся ўлада павінна быць аддадзена на месцы, а лёсы прадпрыемстваў, перспектывы іх развіцця павінны быць цалкам у руках працоўных калектываў. І яшчэ аб адным хацеў бы сказаць. Можа, не на гэтым З'ездзе, а на наступных мы павінны распрацаваць меры, якія паступова прывядуць да ліквідацыі прапіскі — гэтага спараджэння сталінскага каманднa-адміністрацыйнага стылю кіраўніцтва. Прапіска, у тым выглядзе, у якім яна існуе сёння, робіць праблему рабочай сілы ў нашай краіне негарманічнай, прымушае планаваць развіццё вытворчасцей адпаведна з тым, як размеркаваны працоўныя рэсурсы. У цывілізаваным свеце на першы план выходзіць свабодная міграцыя працоўных рэсурсаў, што цалкам адпавядае дзеянню эканамічных законаў.

---

**Часам даводзіцца чуць, што законаў нашаму грамадству не бракуе, хай бы толькі ўсе яны выконваліся. На самай жа справе законаў, якія б рэгулявалі па справядлівасці наша жыццё, ахоўвалі б нас ад самавольства, дэспатыі тых, хто мае ўладу,— у нас мала. Ці не таму з такой зацікаўленасцю мы ўспрымаем зараз кожны новы закон, указ, юрыдычны акт, вывяраючы іх з нашым жаданнем жыць, нарэшце, у прававой дзяржаве.**

**Вельмі неадназначную рэакцыю грамадскасці нашай рэспублікі выклікалі Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон СССР «Аб крымінальнай адказнасці за дзяржаўныя злачынствы» і некаторыя іншыя заканадаўчыя акты СССР», Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР «Аб дапаўненнях і змяненнях у Кодэксе БССР аб адміністрацыйных правапарушэннях» і праект Асноў крымінальнага заканадаўства СССР. Гэта і стала прадметам гутаркі карэспандэнта «Літаратуры і мастацтва» М. Замскага з першым намеснікам пракурора БССР У. К. Кандрацьевым.**

# ПА ЯКІХ ЗАКОНАХ ЖЫЦЬ?

**«ЛіМ»: — Карл Маркс пісаў, што сапраўдны заканадаўца не павінен нічога баяцца, акрамя беззаконня. Але ж, як я разумею, можна скрупулёзна захоўваць дух і літару закона і таксама вяршыць зло. Гледзячы, які гэта закон. Успомнім хоць бы сумнавядомы артыкул 58.10 крымінальнага кодэкса, прымяняючы які, сталінскія «суддзі» аказаліся вінаватымі ў знішчэнні соцень тысяч людзей.**

**У. Кандрацьеў:** — Пасля смерці Сталіна артыкул гэты неўзабаве быў скасаваны...

**«ЛіМ»: — Ён трансфармаваўся ў артыкул 7 Закона СССР «Аб крымінальнай адказнасці за дзяржаўныя злачынствы», дзе прадугледжвалася пакаранне «за антысавецкую агітацыю і прапаганду». Праўда, тых, хто парушаў гэты закон, ужо не расстрэльвалі, але ўсё-такі ён даваў прастору для барацьбы з кожным праяўленнем іншадумства. У выніку, як мы ведаем, сотні пісьменнікаў, артыстаў, музыкантаў, мастакоў, вучоных вымушаны былі ад таго «жыцця» эмігрыраваць за мяжу. Нямала людзей, абвінавачаных у «дысідэнцтве», апынуліся за кратамі.**

**У. Кандрацьеў:** — Сёння асуджаных за палітычныя погляды ў нас, як вы ведаеце, няма. З нашага крымінальнага заканадаўства фактычна выключаны такія саставы злачынства, як антысавецкая агітацыя і прапаганда, распаўсюджанне загадзя лжывых выдумак, што ганьбяць савецкі дзяржаўны і грамадскі лад. Справа ў тым, што няпэўнасць гэтых норм часам дазваляла адвольна тлумачыць выказванні, якія ўтрымлівалі крытыку негатыўных з'яў у жыцці нашага грамадства, як злачынныя, і нярэдка служылі юрыдычнай падставай для падаўлення свабоды слова, расправы над іншадумцамі, нагнятання страху і падазронасці.

Трэба адзначыць, што адпаведныя змены і дапаўненні ўнесены ў Крымінальны і Крымінальна-працэсуальны кодэксы Беларускай ССР.

**«ЛіМ»: — У нашай краіне апошнім часам зроблена нямала для дэмакратызацыі грамадства. Тым большае неўразуменне выклікалі ў мяне, ды, пэўна, не толькі ў мяне, асобныя артыкулы Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон СССР «Аб крымінальнай адказнасці за дзяржаўныя злачынствы» і некаторыя іншыя заканадаўчыя акты СССР». Я, напрыклад, не разумею новай рэдакцыі артыкула 7, дзе гаворыцца аб пакаранні за так званыя публічныя заклікі да звяржэння савецкага дзяржаўнага і грамадскага ладу. Што значыць — «публічныя»? Зробленыя на мітынгу? А калі, скажам, на вяселлі, у прысутнасці дзесятка гасцей, ды яшчэ на добрым падпітку? Ці ў цэху ў час перакуру?**

**У. Кандрацьеў:** — Не бачу прынцыповай розніцы, перад якой па велічыні аўдыторыяй выступае чалавек з экстрэмісцкімі заклікамі, накіраванымі супраць савецкага ладу.

**«ЛіМ»: — Юрыдычная кваліфікацыя такога злачынства, як я разумею, вельмі тонкая рэч, пяройдзе суддзя ледзь улоўную грань — і асуджаным акажацца не «экстрэміст», а п'яны балбатун ці пакрыўджаны бюракратам чалавек, які не змог стрымаць сваіх эмоцый... Я аднойчы быў сведкам, як адзін з наведвальнікаў райвыканкома, пажылы ўжо мужчына, пачуўшы ад тутэйшага чыноўніка чарговае «Зайдзіце праз месяц», раззлаваўшыся не на жарт, пачаў у прысутнасці людзей лаяць таго райвыканкомаўскага работніка, а разам з ім і ўлады. Ведаеце, я адразу ўспомніў гэтае здарэнне, прачытаўшы ва Указе новую рэдакцыю артыкула 11[1] «Знявага ці дыскрэдытацыя дзяржаўных органаў і грамадскіх арганізацый». Той скандаліст (а яму выканком, відаць, добра даўся ў знакі) акурат падпадаў пад гэты артыкул, і калі б гэта здарылася ўчора, мог бы, як кажуць, загрымець «пад панпары».**

**У. Кандрацьеў:** — Сапраўды, Закон СССР «Аб крымінальнай адказнасці за дзяржаўныя злачынствы» дапоўнены новым артыкулам 11[1], які ўстанаўлівае адказнасць за абразу ці дыскрэдытацыю дзяржаўных органаў і грамадскіх арганізацый. Пад абразай трэба разумець адмоўныя ацэнкі, выказаныя публічна ў непрыстойнай форме, прыніжаючыя гонар і годнасць дзяржаўных і грамадскіх арганізацый. Значэнне слова «дыскрэдытацыя» — усім зразумелае. Яно праяўляецца ў тым, што праз распаўсюджанне лжывай, паклёпніцкай інфармацыі падрываецца давер да дзяржаўных органаў, грамадскіх арганізацый ці ўказаных у гэтым артыкуле службовых асоб.

**«ЛіМ»: — Але ж пад дыскрэдытацыю можна падвесці любую крытыку. Скажам, канкрэтнага міністра за канкрэтныя недахопы. І што? Журналіста, які напісаў крытычны матэрыял пра міністра або савецкага работніка, прыцягнуць да крымінальнай адказнасці? А як тады разумець артыкул Канстытуцыі, які прадугледжвае пакаранне за праследаванне за крытыку? Ці не атрымаецца, Уладзімір Кандратавіч, што слаба падрыхтаваныя ці проста нядобрасумленныя законавыканаўцы, а такія ў нас ёсць, зараз пачнуць навыперадкі прыцягваць людзей да крымінальнай адказнасці за неасцярожнае слова, злы анекдот, крытыку міністра ці сакратара абкома, заклікі ўдасканальваць нашу Канстытуцыю, грамадскі лад і г. д.? З усяго, аб чым ідзе размова, вынікае яшчэ адна небяспека. Ці не ўспыхне ў нас зараз эпідэмія даносаў: «Даводжу да вашага ведама, што імярэк учора расказваў анекдот, у якім...» Гэта ў нас умеюць.**

**У. Кандрацьеў:** — Трэба разбірацца ў кожным канкрэтным выпадку. Забяспечыць законнасць і справядлівасць — наш абавязак. Што тычыцца даносаў, дык ананімкі, як вы ведаеце, зараз нават не разглядаюцца. А наогул Указ не накіраваны супраць крытыкі. Нельга дапускаць вольнага тлумачэння закона. Артыкулам 49 Канстытуцыі СССР абаронена права кожнага грамадзяніна ўносіць у дзяржаўныя органы і грамадскія арганізацыі прапановы аб паляпшэнні іх дзейнасці, крытыкаваць недахопы ў рабоце. Пра гэта ж сведчаць і рашэнні XXVII з'езда КПСС, XIX партыйнай канферэнцыі. Указ, пра які мы гаворым, на мой погляд, робіць яшчэ адзін істотны крок па шляху стварэння ў нас прававой дзяржавы. Я не лічу, што закон аб крымінальнай адказнасці за дзяржаўныя злачынствы пасля ўнясення дапаўненняў стаў больш жорсткі. Ён стаў больш канкрэтны, абараняе інтарэсы дзяржавы не абстрактна, не наогул, а дэталёва, абмалёўваўшы ўсё кола дзеянняў, што ўваходзяць у паняцце дзяржаўнага злачынства. Цяпер ён праводзіць дакладную мяжу паміж законным і незаконным, накіроўвае свае вастрыё супраць процiпраўных шляхоў змянення дзяржаўнага ладу, падрыву яго палітычнай і эканамічнай сістэм. Кожная дзяржава павінна клапаціцца аб сваёй бяспецы...

**«ЛіМ»: — Гэта аксіёма, але пагадзіцеся, Уладзімір Кандратавіч, клопат аб дзяржаўнай бяспецы не павінен уваходзіць у супрацьдзеянне з дэмакратыяй, правамі чалавека, абвешчанымі перабудовай. Тым больш, што ўпершыню ў Асновы крымінальнага заканадаўства ўнесена вельмі важнае палажэнне аб тым, што ўсе савецкія законы павінны быць прыведзены ў адпаведнасць з прызнанымі міжнароднымі фактамі.**

**У. Кандрацьеў:** — Закон гэты не процістаіць дэмакратыі... Ва ўсіх краінах прыняты акты, якія абараняюць існуючы там лад.

**«ЛіМ»: — У нашай пошце нямала пісьмаў, аўтары якіх не разумеюць неабходнасці з'яўлення некаторых пунктаў Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР аб дапаўненнях і змяненнях у Кодэксе БССР аб адміністрацыйных правапарушэннях, дзе гаворыцца аб прыцягненні да адказнасці асоб, вінаватых у вырабе, карыстанні, распаўсюджанні або нашэнні не зарэгістраваных афіцыйных сцягоў, эмблем, значкоў і да т. п. «Як усё гэта ўвязаць, — піша чытач А. Шпакоўскі,— з Канстытуцыяй БССР, прынятай 14 красавіка 1978 года, якая артыкуламі 9, 48, 52 гарантуе свабоду і недатыкальнасць асобы грамадзяніна БССР». «Незразумела, чаму прыйшліся не даспадобы нашым уладам так званыя «незарэгістраваныя» эмблемы, сцягі, вымпелы і г. д., — пытаецца ў лісце ў рэдакцыю С. Кнырэвіч з Мінска. — Згодна з Канстытуцыяй у нас забаронены прапаганда вайны, нацыянальнай варожасці, антысаветчына, але ж пры чым тут нацыянальная сімволіка?» «Артыкул 167[2] Указа ў частцы, дзе гаворыцца аб вырабе і распаўсюджанні нацыянальнай сімволікі,— пішуць супрацоўнікі аддзела № 40 Мінскага СКБАЛ,— выкладзены неканкрэтна і дапускае яго адвольнае тлумачэнне, у выніку чаго можа быць незаконна выкарыстаны праваахоўнымі органамі». Пра сваю нязгоду з гэтым артыкулам Указа напісалі нам настаўнік Ґудзевіцкай СШ, заслужаны работнік культуры БССР А. Белакоз, ветэран вайны і працы з г. Полацка І. Януковіч і інш. Ваша думка на гэты конт, Уладзімір Кандратавіч?**

**У. Кандрацьеў:** — Указ прыняты Прэзідыумам Вярхоўнага Савета БССР і мае законную сілу, яго трэба выконваць.

**«ЛіМ»: — У прыбалтыйскіх рэспубліках, як вядома з прэсы, шырока ўжываецца нацыянальная сімволіка.**

**У. Кандрацьеў:** — Кожная рэспубліка прымае заканадаўчыя акты, зыходзячы са сваіх умоў.

(Працяг на стар. 14—15).

## З пошты «ЛіМа»

# • Цень «народнага акадэміка»
# • Ёсць вуліца Аграрная...
# • Ці лёгка зарабіць 700 рублёў?

□

**НЯДАЎНА** ў Інстытуце гісторыі АН БССР адбыўся дабрачынны вечар, прысвечаны памяці вучоных-біёлагаў, рэпрэсіраваных у 30—40-я гады. Ва ўступным слове акадэмік Сушчэня сказаў, што нам трэба ведаць праўду аб тых часах, каб мы ніколі не дапусцілі нічога падобнага. У выступленнях на вечары гаварылася аб лёсе буйных беларускіх вучоных Афанасьева, Ганчарыка, Дубаха, Мельніка, а таксама Ракіцкага і Жэбрака. Два апошнія не сядзелі ў турмах ці лагерах, але ў поўнай меры паспыталі на сабе панаванне «ісціны ў апошняй інстанцыі», якой валодаў «народны акадэмік» Т. Д. Лысенка з паплечнікамі.

На жаль, у выступленнях не прагучалі імёны тых, хто ажыццяўляў палітыку Лысенкі на месцах, хто пачаў пагром «буржуазных і нацдэмаўскіх ухілаў у аграбіялогіі», «рэакцыйных вейсманісцка-марганісцкіх тэндэнцый у генетыцы»...

Паказальны лёс акадэміка Жэбрака, які ў 1947 г. быў выбраны прэзідэнтам Акадэміі навук, але ўжо цераз год працаваў... прафесарам Маскоўскага лесатэхнічнага інстытута. Што здарылася восенню 1947 г. Выданне «Акадэмія навук Беларускай ССР», выпушчанае ў свет у 1979 г. з нагоды 50-годдзя АН БССР пра гэта замоўчвае. Між тым, ёсць звесткі аб тым, што не апошнюю ролю ў кампаніі супраць генетыкі ў Беларусі, і асабіста акадэміка Жэбрака, адыграваў цяперашні акадэмік (у той час доктар сельскагаспадарчых навук) М. А. Дарожкін, які ў 1947 г. выступіў у «ЛіМе» з артыкулам «Ганебны ўчынак прафесара Жэбрака». Падзеі, якія адбыліся пасля з'яўлення гэтага артыкула і якія прывялі да разгрому беларускай школы генетыкаў, безумоўна, нанеслі шматмільённыя страты гаспадарцы рэспублікі, не гаворачы ўжо пра згублены прыярытэт у сусветнай навуцы.

Сярод прычын, якія прымусілі нас звярнуцца ў рэдакцыю, — тая, што акадэмік Дарожкін і сёння застаецца, як кажуць, на «хвалі перабудовы». Ён з'яўляецца адным з аўтараў сумна вядомага артыкула «Эвалюцыя палітычнага невуцтва», які з мінскіх газет, здаецца, не надрукавала толькі «Літаратура і мастацтва» (за што, дарэчы, вялікі дзякуй рэдакцыі). Цікава і тое, што пасля надрукавання «Эвалюцыі...» акадэмік Дарожкін стаў саветнікам дырэктара Інстытута эксперыментальнай батанікі АН БССР, членам Вучонага савета гэтага інстытута. Ён з'яўляецца таксама членам Савета па абароне кандыдацкіх дысертацый пры гэтым жа інстытуце...

Дзеля таго, каб ніколі не дапусціць нічога падобнага, нам трэба ведаць факты, якія датычаць падзей у Акадэміі навук БССР у 1947—1948 гадах.

**А. ВЕЧАР, А. ВЯЕЎНІК,**
**Р. ГАНЧАРОВА, Ю. ГІГІНЯК,**
**Е. МАНІНА, І. ОКУНЬ**
**і іншыя супрацоўнікі інстытутаў эксперыментальнай батанікі, генетыкі і цыталогіі, фотабіялогіі, Цэнтральнага батанічнага саду АН БССР (усяго 60 подпісаў).**

□

**ПРАЧЫТАЛІ** ў газеце «Гомельская праўда» ад 18 мая інфармацыю аб перайменаванні некаторых вуліц абласнога цэнтра і былі непрыемна ўражаны, нават абураны. Незразумела, чым кіраваліся адказныя асобы, мяняючы назвы вуліц: з Зялёнай — на Аграрную, з Маладзёжнай — на Моладзі, з Сонечнай — на Надзеі і г.д. А якую інфармацыю ўтрымліваюць у сабе такія найменні вуліц у новых мікрараёнах Гомеля, як Верасковая, Бірузовая, Электронная, Палешукоў, Фізкультурная? На якой падставе атрымала назву «Энтузіястаў» вуліца ў Навабеліцы?

Усяму свету вядомы імёны нашых славутых землякоў Кірылы Тураўскага, Кастуся Каліноўскага, Івана Мележа, Андрэя Макаёнка, Еўдакіма Раманава, Цішкі Гартнага і іншых, аднак іх імёны чамусьці не ўвекавечаны ў назвах вуліц горада. Усё гэта сведчыць аб нізкім узроўні нашай агульнай культуры і аб адносінах да спадчыны, няўменні і нежаданні шанаваць імёны сваіх нацыянальных герояў.

І яшчэ. Хацелася б, каб найменні вуліц былі напісаны па-беларуску, а не на дзвюх мовах, як прапаноўвалася абласным аддзяленнем Фонду культуры. У нас ёсць добры прыклад — напісанне назваў вуліц у Мінску.

**Л. КУЗЬМІЧ,**
**выкладчык філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны,**
**М. ЗАХАРАНКА, А. ЦЕРАБАВА,**
**Л. ЯДЛОЎСКАЯ,**
**студэнты філалагічнага факультэта (усяго 19 подпісаў).**

□

**ПЕРАДА МНОЮ** ляжаць два наборы паштовак: *«Полацк на старых паштоўках»* (Мінск, «Беларусь», 1987 г., 12 штук, тыраж 50 тысяч экземпляраў) і «Стары Віцебск (паштоўкі канца XIX — пачатку XX стагоддзя)» (Віцебск, картанажна-паліграфічны камбінат, 1988 г., 25 штук, тыраж 15 тысяч экземпляраў).

Дваістае пачуццё авалодвае мной. З аднаго боку, хочацца сказаць вялікі дзякуй людзям, якія падрыхтавалі і ажыццявілі выданне гэтых паштовак. Полацк і Віцебск — найстаражытныя гарады рэспублікі, іх саборы і цэрквы пакідаюць уражанне.

Аднак на месцы большасці гэтых збудаванняў сёння пусткі ці панельныя «карабкі», ад чаго робіцца горка і крыўдна. Тым больш, што многія гэтыя помнікі знішчылі не прышлыя варвары, а нашы з вамі суайчыннікі і, у асноўным, у пасляваенны час.

У мяне даўно напрошваецца пытанне: чаму тых, хто разбураў нашы гарады ў час вайны, мы называем варварамі, а сучасных архітэктараў, якія прапаноўваюць знос архітэктурных помнікаў, і чыноўнікаў, якія іх падтрымліваюць, — горадабудаўнікамі? Чаму мы дагэтуль упарта не хочам прызнаць, што разбурэнне помніка архітэктуры з'яўляецца злачынствам перад нацыянальнай культурай, перад сучаснікамі, перад нашчадкамі?! Чаму бульдозеру ў запаведнай зоне процістаяць толькі мясцовыя энтузіясты, якія беззапаветна любяць свае гарады, але не валодаюць рэальнай сілай і таму не здольны папярэдзіць сплanаванае разбурэнне?

Трэба дабівацца, каб кожны з нас стаў у справе аховы помнікаў не назіральнікам, а актыўным змагаром. Набораў паштовак з дарэвалюцыйнымі відамі гарадоў, аб якіх я гаварыў вышэй, для гэтага мала. Яны носяць чыста ілюстрацыйны характар, іх тлумачальны тэкст не нясе неабходнай інфармацыі. Для прапаганды ідэі захавання архітэктурных помнікаў неабходна падрыхтаваць і выдаць вялікім тыражом кнігу «Страчаныя помнікі архітэктуры Беларусі», дзе пералічыць, што, калі і якім чынам страцілі мы за апошнія 70 гадоў сваёй гісторыі. У гэтае выданне павінны ўвайсці фотаздымкі страчаных помнікаў архітэктуры, іх апісанне і планы. Прычым фотаздымкі страчанага мэтазгодна змяшчаць побач з сучаснымі відамі мясцін, і, такім чынам, прадаставіць чытачу магчымасць ацаніць, ці здолелі мы стварыць штосьці больш значнае, чым тое, што знішчылі.

**А. ЮР'ЕЎ.**

г. Нікалаеў.

□

**ШТОДЗЕНЬ** езджу па вуліцах сталіцы і міжволі звяртаю ўвагу на той моўны кангламерат, які яе «ўпрыгожвае».

Нехта надта ж прагматычны можа запярэчыць: колькі сродкаў трэба, каб адразу «перакласці» амаль усе шыльды! Што ж, аргумент сур'ёзны, неразумна з ім не лічыцца. Але ж чым вытлумачыць, што не скарыстоўваюцца магчымасці абысціся без ніякіх спецыяльных затрат? Рана ці позна ўсе вітрыны і шыльды старэюць, замяняюцца на новыя. Вось тут бы іх і перакласці, як зрабілі, напрыклад, на магазіне «Сельскагаспадарчая кніга». Дык не ж. Новымі шыльдамі пасля рамонту заззялі «Первомайский дом торговли», магазін «Природа»... Чакай цяпер наступнага рамонту. Тое ж — і на многіх новых аб'ектах.

Асаблівае неўразуменне выклікае падобны моўны кангламерат на адным і тым жа будынку. Чытаеш на вітрынах: «Молоко», «Мясо», «Жиры», скіроўваеш позірк вышэй — «Гастраном». Так і хочацца выправіць «памылку». Нават на галоўным праспекце сталіцы такое сустракаецца: магазіны «Прадукты» насупраць парку імя Чэлюскінцаў, «Садавіна-гародніна» і «Навукова-тэхнічная кніга» каля філармоніі, кафэ «Світанак» паблізу ГУМа.

Баюся, што рэагаванне (калі яно наступіць увогуле) можа набыць нечаканы паварот: каб не было разнабою, папраўляць на... «Продукты», «Гастроном», «Овощи—фрукты». Ёсць жа свежы прыклад: на праспекце Машэрава новы універсам назвалі «Заслаўль». Пісьменныя людзі заўважылі, што гэта і не па-руску, і не па-беларуску. Рэакцыя была хуткай: папраўілі на... «Заславль». Пэўна, таму, што пераробка на «Заслаўе» патрабавала крышку болей работы...

Ці адказвае хто-небудзь у горадзе за такую самадзейнасць? А сталіца ж — прыклад для іншых гарадоў рэспублікі.

**Я. САХУТА,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

г. Мінск.

□

**ІДЗЕ АБМЕРКАВАННЕ** праекта Закона аб падаткаабкладанні насельніцтва. Выказваюцца наконт гэтага розныя меркаванні. І міжволі заўважаеш адну асаблівасць: фінансісты, супакойваючы грамадзян, гавораць: маўляў, калі ў вас месячны даход не перавышае 700 рублёў (а такіх у нас большасць), вам нічога не пагражае. Прагрэсіўнае падаткаабкладанне закранае кааператараў, пісьменнікаў, мастакоў і інш.

Мяне асабіста падаткаабкладанне таксама «не закране»: настаўнік пра 700 рублёў у месяц нават і марыць не асмеліцца. Але абурае іншае: пісьменніка па даходах прыроўніваюць да кааператара. Ці правамерна гэта? Кааператар штомесяц атрымлівае (вядома, маецца на ўвазе сума, большая за 700 рублёў) зарплату. А пісьменнік? Ён што, кожны месяц выдае кніжку ці друкуецца ў часопісе?

Возьмем самы ідэальны варыянт: два гады пісьменнік піша кнігу, год, а то і два-тры, яна выдаецца. Налічылі яму ганарару, скажам, 5500 рублёў. Цяпер падлічым, які падатак яму трэба заплаціць: за 1500 руб. — 296 руб. 20 кап. плюс 50 працэнтаў ад сумы, якая перавышае 1500 руб. У нас такая сума — 4000 рублёў. Значыць, з яе падатку — 2000 руб. А ўсяго — 2296 руб. 20 кап. Аўтар жа атрымае 3 203 руб. 80 кап.

Ці справядліва гэта? Вядома, не. Справядлівым быў бы, на маю думку, такі шлях: ганарарную суму (5500 руб.) дзелім на тры гады (на 36 месяцаў). Такім чынам, на кожны месяц, як пісалася і выдавалася кніга, выходзіць па 152 рублі з капейкамі. Гэтыя грошы трэба далучыць да пенсіі пісьменніка ці яго зарплаты ў рэдакцыі, выдавецтве, на радыё, і з атрыманай сумы браць падаходны падатак. Думаецца, мала хто з нашых пісьменнікаў патрапіў бы за рысу «700 рублёў». І не было б падстаў параўноўваць іх з кааператарамі.

Цікава, каму выгадна ствараць ілюзію, што ў пісьменнікаў грошай — «куры не клююць»?

**В. ТУРКЕВІЧ,**
**настаўнік Моладаўскай СШ, заслужаны настаўнік БССР.**

Іванаўскі раён.

□

**ЧЫТАЎ** у «ЛіМе» пра неабходнасць вяртання мяккага знака (змякчэння зычных). А не так даўно прачытаў пра новае напісанне па-руску сталіцы Эстоніі Таліна. Вернута адна толькі літара «н», а для эстонцаў — гэта вельмі важна. У мове няма дробязей. Калі мова губляе такія «дробязі», яна перастае быць сама сабой.

На жаль, з нашай мовы такіх «дробязей» выкінулі зашмат. А з дробязей жа складваецца вялікае. Такія «дробязі» робяць мову адметнай ад іншых і непаўторнай. І крыўдна, калі чую ад некаторых, хто выракся роднай мовы: «Ну, отдайте вы им (белорусам) их мягкий знак, пусть успокоятся» (інтанацыя можа быць рознай — пагардлівая, іранічная, з'едлівая, жартоўная).

Вярнуць трэба не толькі мяккі знак, але і шмат што іншае, без чаго беларуская мова не можа быць беларускай.

У Таліне ініцыятарамі выступілі гарвыканком і інстытут мовы і літаратуры. А хіба ў нас няма такіх устаноў? Што думаюць яны наконт «мяккага знака»? Наконт напісання «Мінск» замест ранейшага «Менск»?

**П. ЛУБОЎСКІ,**
**чытач «ЛіМа» з 1976 года, педагог, 38 гадоў.**

□

**НЕАДНОЙЧЫ** на сваіх старонках «ЛіМ» узнімаў пытанне аб нацыянальнай паштоўцы. Здаецца, справа зрушылася з месца. Але жыццё падказвае новыя праблемы: чаму дасюль у рэспубліцы няма беларускамоўных канвертаў? Калі паштоўкі мы адпраўляем родным і сябрам у святы, то лісты пішам значна часцей. Пішам і запячатваем у канверты, якія да Беларусі не маюць ніякага дачынення — ні тэматычнага, ні мастацкага. Калі гаварыць пра нацыянальную прыналежнасць, дык за апошнія два дзесяцігоддзі памятаю канверты, прысвечаныя юбілеям гарадоў (Мінску, Лідзе, Кобрыну), музею ў Гудзевічах, турбазе «Нёман». Лічу, што канверты трэба выкарыстоўваць і для папулярызацыі дзеячаў беларускай гісторыі і культуры, якія былі незаслужана забыты, а таксама помнікаў архітэктуры і г. д.

Ёсць у мяне яшчэ адно пажаданне. Чаму б Беларускаму тэлебачанню па прыкладзе праграмы «120 мінут» не рабіць агляд рэспубліканскіх газет і часопісаў хоць бы пасля перадачы «Раніца рэспублікі».

**В. КАЗЛОЎСКІ,**
**урач.**

г. Ліда.

□

**ЛЕТАСЬ** у выдавецтве «Вышэйшая школа» выйшаў падручнік «Практикум по устной речи для гуманитарных факультетов неязыковых вузов (английский язык)». З пункту гледжання складання вучэбнага матэрыялу падручнік досыць удалы, чаго нельга сказаць пра матэрыял інфармацыйны — тэксты, што падаюцца ў кнізе. У іх выказваюцца погляды і штампы, якія нельга назваць інакш, як застойнымі. Вось, напрыклад, на ст. 62 можна прачытаць (тут і далей пераклад з англійскай. — У. Б.): «Ідэя аб тым, што трэба плаціць грошы за адукацыю і медыцынскае абслугоўванне, здаецца дзіўнай для савецкага грамадзяніна, паколькі аб ім клапоціцца дзяржава. Інфляцыя і сістэматычны рост кошту жыцця таксама не знаёмы савецкаму грамадзяніну. Натуральна, што савецкія грамадзяне не маюць аніякага ўяўлення аб ненадзейнасці альбо турботе пра заўтрашні дзень».

А вось у якім духу падаецца інфармацыя, звязаная з нашай рэспублікай. На 92-й старонцы чытаем: «З мэтай замацаваць валоданне рускімі землямі, і асабліва беларускімі, літоўскія князі з'ядналіся (!) з польскімі панамі ў 1569 годзе, і на працягу наступных 200 гадоў беларускі народ апынуўся пад рабствам палякаў. У канцы XVIII стагоддзя быў пакладзены канец дамінаванню Польшчы над Беларуссю. У 1793—95 гадах Беларусь уз'ядналася з Расіяй».

Апроч гэтых звестак, складальнікі не знайшлі ў гістарычным мінулым Беларусі нічога вартага перакладу на англійскую мову. Іншая інфармацыя тычыцца выключна перыяду ад першага з'езда РСДРП да нашых дзён і падаецца з бадзёрай інтанацыяй застойных часоў.

**У. БАРАНІЧ,**
**студэнт БДУ.**

**18 мая пад старшынствам І. Чыгрынава адбылося чарговае пасяджэнне Камісіі па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета БССР. Дэпутаты — члены камісіі сумесна з прадстаўнікамі грамадскасці вывучылі работу Міністэрства народнай адукацыі БССР па развіццю і павышэнню ролі беларускай мовы ў грамадскім жыцці рэспублікі. На пасяджэнні выступілі дэпутаты З. Азгур, Ю. Смірноў, М. Грынёў, вучоныя і літаратуразнаўцы В. Каваленка, А. Лойка, А. Ліс, М. Лазарук, К. Кабашнікаў, Д. Бугаёў, пісьменнік Б. Сачанка і іншыя.**

**Змяшчаем рашэнне камісіі.**

# РАШЭННЕ

## пастаяннай Камісіі па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета БССР

18 мая 1989 года

На пачатку гэтага года дэпутаты Камісіі па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета БССР сумесна з прадстаўнікамі грамадскасці вывучылі работу Міністэрства народнай адукацыі БССР па развіццю і павышэнню ролі беларускай мовы ў грамадскім жыцці рэспублікі. Рабочыя групы працавалі ў Міністэрстве народнай адукацыі БССР, ва ўпраўленнях народнай адукацыі Мінскіх гарвыканкома, аблвыканкома, у аддзеле народнай адукацыі Салігорскага райвыканкома, у Дзяржкамвыдзе БССР, а таксама ў БДУ імя У. І. Леніна і Мінскім дзяржаўным педінстытуце імя М. Горкага. Праверка паказала, што да апошняга часу становішча з развіццём і павышэннем ролі беларускай мовы ў дзіцячых садах, школах, вышэйшых навучальных установах рэспублікі застаецца нездавальняючым.

Тым часам Камісія Вярхоўнага Савета БССР станоўча ацэньвае практычныя меры органаў народнай адукацыі ў адносінах да вывучэння беларускай мовы, адзначае пэўныя зрухі ў дзейнасці рабочых груп, створаных у міністэрствах народнай адукацыі, культуры і Беларускім фондзе культуры, якія займаюцца распрацоўкай рэспубліканскіх праграм «Родная мова» і «Спадчына». Аднак дзеянні гэтых падраздзяленняў пакуль што раздроблены, іх работа нікім не каардынуецца. А гэта адмоўна адбіваецца на канчатковых выніках. Праблемы развіцця нацыянальна-рускага двухмоўя застаюцца надзённымі, іх практычнае вырашэнне замаруджана, вяртанне да ленінскіх прынцыпаў у моўнай палітыцы праходзіць не адназначна; усё яшчэ значная частка практычных работнікаў на месцах, у тым ліку работнікаў партыйнага, савецкага апарату, кіраўнікоў і педагогаў навучальных устаноў, займаюць вычакальную пазіцыю, не праяўляюць належных ініцыятывы, энергіі і настойлівасці ў правядзенні намечаных мер па пашырэнні сферы ўжывання беларускай мовы. Для стварэння спецыяльных умоў дзеля развіцця нацыянальнай мовы і культуры, пашырэння сфер ужывання беларускай мовы і далейшага развіцця нацыянальнай культуры ў грамадстве пастаянная Камісія Вярхоўнага Савета БССР лічыць неабходным:

1. Захоўваючы ў рэспубліцы прынцып двухмоўя, усямерна паляпшаць вывучэнне і выкарыстанне беларускай мовы, ствараць умовы для таго, каб надаць ёй статус дзяржаўнай мовы; вынесці гэта пытанне на пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР з тым, каб стварыць камісію па падрыхтоўцы Закона аб дзяржаўнасці нацыянальнай мовы; прасіць Прэзідыум паставіць пытанне перад Вярхоўным Саветам БССР пра адмену пункта ў Законе БССР «Аб народнай адукацыі» аб вывучэнні школьнікамі беларускай мовы па жаданню бацькоў.

2. Даручыць Міністэрствам народнай адукацыі і культуры БССР сумесна з Акадэміяй навук БССР і Беларускім фондам культуры каардынаваць усю работу па распрацоўцы і ажыццяўленню рэспубліканскіх праграм «Родная мова» і «Спадчына»; выдзеліць мэтавым парадкам неабходныя фінансавыя сродкі для матэрыяльнага забеспячэння гэтых праграм.

3. Міністэрству народнай адукацыі БССР, Міністэрству культуры БССР прыняць практычныя захады да значнага павелічэння колькасці гадзін на вывучэнне беларускай мовы і літаратуры ў ВНУ і агульнаадукацыйных школах, паступовага пераводу на беларускамоўнае навучанне гуманітарных вышэйшых навучальных устаноў, тэхнікумаў і педвучылішчаў.

Надалей праводзіць актыўную работу па расшырэнні сеткі беларускамоўных дашкольных дзіцячых устаноў.

Паўсюдна арганізоўваць перыядычныя курсы па вывучэнню беларускай мовы для настаўнікаў і выхавацеляў школ і дзіцячых устаноў.

4. Дзяржплану БССР, Міністэрствам народнай адукацыі і культуры сумесна з аблвыканкомамі прыняць тэрміновыя меры па расшырэнні падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, а Міністэрству фінансаў БССР паставіць перад урадам рэспублікі пытанне аб 15-працэнтнай надбаўцы да зарплаты педагогам роднай мовы, так, як гэта зроблена для выкладчыкаў рускай мовы.

5. Дзяржкамвыду кардынальна перагледзець планы выдання беларускамоўнай літаратуры, улічваючы перспектывы паступовага пераходу школ на выкладанне ўсіх прадметаў па-беларуску. З гэтай мэтай поўнасцю задаволіць патрэбы школ, прафтэхвучылішчаў, тэхнікумаў і ВНУ ў праграмных творах, падручніках, слоўніках і вучэбных дапаможніках. Тое ж самае датычыць матэрыялаў і літаратуры для дашкольных дзіцячых устаноў.

6. Міністэрству культуры перавесці на беларускую мову выкладання падведамныя вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя ўстановы; пашырыць колькасць беларускамоўных тэатраў; забяспечыць вытворчасць у рэспубліцы мастацкіх кінафільмаў на беларускай мове; актывізаваць работу па захаванню, вывучэнню і прапагандзе фальклорна-этнаграфічнай спадчыны народа.

7. Разумеючы складанасць пытання, камісія асаблівую ўвагу звяртае на тактоўнасць пры правядзенні ў жыццё будучага Закона аб мове, улічваючы інтарэсы ўсіх нацыянальных груп у рэспубліцы. Толькі паступовымі і паслядоўнымі мерамі, накіраванымі на павышэнне сферы ўжывання беларускай мовы, можна вярнуць ёй тое становішча, якое павінна займаць нацыянальная мова ў нацыянальнай рэспубліцы.

# СВЯТА—ДЛЯ ЧАЛАВЕКА...

**Сучасная культурна-асветніцкая работа ў Беларусі павінна стаць аб'ектам сур'ёзнага аналізу вучоных, асабліва мастацтвазнаўцаў, этнографаў, гісторыкаў культуры. Відаць, наспеў час гэта зрабіць, таму што яна, як галіна культуры, паглынула беззваротна безліч спадзяванняў і незлічоную колькасць народных грошай. Укладанні гэтыя рабіліся дзеля таго, каб нарадзіць на свет нікому не вядомую дагэтуль сацыялістычную культуру. Вось тое, што яна сацыялістычная і «дагэтуль невядомая», відаць, і спыняла даследчыкаў. Няма з чым параўнаць! Але ж у культуры ёсць і павінны заўсёды быць нейкія вызначальныя рысы, дзякуючы якім яна альбо культура, альбо...**

Таму я хачу распачаць гэтую гаворку на старонках «ЛіМа», спадзеючыся, што да яе далучацца многія спецыялісты і даследчыкі. Вельмі патрэбны нам, практыкам культасветработы, меркаванні філосафаў, псіхолагаў, мастацтвазнаўцаў. Усіх, хто заклапочаны ў тым, каб перабудова ў сферы культуры рэальнай, мела пэўную скіраванасць, ішла на карысць народу і кожнаму чалавеку. Я прапаную, у прыватнасці, абмеркаваць пытанне аб неабходнасці распрацаваць і зацвердзіць у рэспубліцы каляндар традыцыйных свят і абрадаў.

Кожная развітая культура мае пэўны набор традыцый і звычаяў, па якіх мы пазнаём і адрозніваем гэтую культуру: старадаўняя яна альбо сучасная, якому народу альбо класу належыць. Кожная дзяржава ганарыцца сваімі традыцыямі, мае свой абавязковы гадавы святочны каляндар, захоўвае яго як сваю нацыянальную адметнасць і сацыяльную каштоўнасць. Праз традыцыі ажыццяўляецца сувязь пакаленняў, выхаванне чалавека грамадствам. Хачу засяродзіць сваю ўвагу на вясковай культуры, якая заўсёды была непарыўна звязана з земляробчым календаром і стагоддзямі паспяхова існавала і развівалася не за кошт нейкіх там капіталаўкладанняў, а за кошт захавання традыцый і, так сказаць, унутраных рэсурсаў.

Дзякуючы народнаму мастацтву чалавек адчуваў сябе асобай і часцінай грамады. Тады, калі разам з усімі прыходзіў у нядзелю ў царкву, калі на свяце станавіўся ў карагод альбо далучаў свой голас да магутнай народнай песні, калі ўсёй вёскай, па спрадвечным абрадзе, праводзіў на могілкі, а потым памінаў свайго сваяка і земляка. Апорай пачуццяў і памкненняў чалавека былі абрады: народныя, рэлігійныя, сямейныя. Чалавек быў падпарадкаваны абраду ўсё жыццё, ад нараджэння і да апошняга дыхання. Такім чынам, як мы цяпер даведваемся, гледзячы на гадзіннік, а якой гадзіне нам уставаць, снедаць, ісці на працу, адпраўляцца ў госці, уключаць тэлевізар ці класціся спаць, так чалавек па гадавым календары ведаў распарадак амаль на кожны дзень і на цэлы год: калі есці бліны з макам, а калі кілбасы, калі распачынаць вячоркі, калі прасці кудзелю, а калі палатно ткаць, што рабіць перад Сёмухай, а што перад Калядамі, калі трэба мыць падлогу ў хаце, а калі чысціць хлеў...

Гадзінамі вымяраліся на гэтым календары вялікія гадавыя святы, а Мінутамі — перадсвяточныя і паслясвяточныя рытуалы. Гэта быў найразумнейшы і найпадрабязнейшы каляндар. Ён ахопліваў і падпарадкоўваў усе чалавечыя, земныя справы, напаўняў іх вышэйшым сэнсам, дапамагаў у цяжкай штодзённай працы не траціць прысутнасць духу, захоўваць фізічнае і душэўнае здароўе.

Да таго ж кожнае свята было багата аздоблена мастацтвам, бо апошняе таксама існавала па календары: адны песні выконваліся толькі на Калядах, другія толькі ўвесну, былі песні «пад капусту» (выконвалі, калі капусту квасілі), былі песні «пад кудзелю» (каб не заснуць, калі пралі позна вечарам), на саломках гралі ў час жніва, карагоды вадзілі вясной, народную драму ставілі на Каляды, яйкі распісвалі на Вялікдзень, каравай упрыгожвалі на вяселле.

Такім чынам, хоць песень у кожнай вёсцы людзі ведалі незлічоную колькасць, усе яны былі прывязаны да нейкага свята, абавязкова раз, два. ці некалькі разоў на год выконваліся. Дзіця ад нараджэння чула гэтыя песні, чула — пакуль расло. І калі наступала яму пара далучыць свой голас да магутнага голасу грамады, яно ўжо добра ведала словы песні, яе мелодыю, усе галасы і падгалоскі. Такім чынам, штодзённае жыццё было найлепшым настаўнікам музыкі, і дрэнных вучняў амаль што не было. Так засвойваліся ўсе народныя мастацтвы і ўмельствы — у жыцці, у дні свят і гадзіны адпачынку. Кожны ўмеў усё, але адзін чалавек вылучаўся ў танцах, другі ў спевах, трэці славіўся як казачнік, музыка і г.д. Каму які жанр быў бліжэйшы, у ім ён імкнуўся спасцігнуць калектыўны вопыт і ўнесці нешта сваё, адметнае, вылучыцца і развіць тым самым традыцыю.

Які-небудзь талент быў у кожнага вяскоўца. Не было чалавека, які б да 40 гадоў не выявіў адметных здольнасцей. Працэс творчага сталення цягнуўся ўсё жыццё. Да адных жанраў душа выспявала к 14—16 гадам, калі прыходзіла каханне, другія жанры станавіліся патрэбнымі, калі пачыналася сямейнае жыццё і з'яўляліся дзеці. Але сапраўдная спявачка выспявала толькі к 35—40 гадам, — тады і голасу і душы хапала. Гэты факт адзначаюць многія фалькларысты.

Так вось магутнае дрэва народнага мастацтва цвіло, гуло побач з чалавекам летам і зімой, ад нараджэння да старасці. І чалавек у свята і ў будзень, ва ўсякім узросце мог зняць чароўны плод з гэтага дрэва і выказаць у песні, танцы, музыцы свой настрой, свае пачуцці і запатрабаванні.

Традыцыйныя святы з'яўляліся спажыўцамі і гарантамі існавання ўсіх народных мастацтваў, як у вёсцы, так і ў горадзе, бо абавязкова мелі ў сваім раскладзе народны танец, музыку, інтэрмедыю, цырк, традыцыйную кулінарыю, адзенне.

У апошнія дзесяцігоддзі, у выніку ажыццяўлення недальнабачнай палітыкі ў галіне культасветработы, склалася становішча, калі народная спадчынная культура, ярчэй за ўсё выяўленая ў святах і абрадах, апынулася ў заняпадзе. Найбольшае бытаванне мелі новыя формы, новыя святы, часцей за ўсё вельмі далёкія ад беларускай мастацкай спадчыны, гісторыі, сімволікі. Новыя святы звычайна рыхтуюцца рэжысёрамі, сцэнарыстамі і мастакамі, бываюць разлічаны на адну пастаноўку і носяць прэм'ерны характар. Вёска перад вёскай, раён перад раёнам, вобласць перад вобласцю, а ў маштабах краіны і рэспубліка перад рэспублікай імкнуцца вызначыцца нейкім новым відовішчам, феерверкам, марш-парадам і г.д.

На такія святы ідуць вялікія сродкі, мясцовыя ўлады і ўсе службы па абслугоўванню такіх свят перажываюць ледзь не стрэсавую сітуацыю ад страху, каб «не ўдарыць тварам у гразь». А людзі часцей за ўсё астаюцца незадаволенымі, таленты і ўмельствы іх не раскрытымі, таму што ў часы адпачынку і свят людзі любяць апынуцца ў звыклай, знаёмай, чаканай абстаноўцы. Тады яны могуць адчуць сябе вольна, праявіць свае здольнасці, памкненні, тады, на свяце, могуць спяваць, танцаваць, знаёміцца адзін з другім, сапраўды адпачыць. Да таго ж у звыклым, чаканым, абавязкова надыходзячым ёсць для чалавека свая патрэба і асалода. У звыклым, вядомым, чалавек адчувае сябе як дома, ён можа падпарадкавацца агульнай плыні, а можа вызначыцца асабіста.

Лічу, што неабходна тэрмінова ўтварыць творчы калектыў аўтараў (этнографаў, фалькларыстаў, псіхолагаў, філосафаў, пісьменнікаў і г.д.) па распрацоўцы беларускага традыцыйнага календара. Мы ў Рэспубліканскім навукова-метадычным цэнтры культуры робім крокі ў напрамку падтрымкі традыцыйных форм культуры. Намі распрацаваны метадычныя парады па адраджэнні свята «Зажынак» у яго традыцыйных формах. Парады выклікалі цікавасць у вясковых культработнікаў. Таксама ствараем зараз цэнтры традыцыйнай культуры ў розных рэгіёнах рэспублікі, у тым ліку і ў горадзе Мінску на Белай Дачы. Арганізуем семінары для культработнікаў па пытаннях адраджэння ў вёсках фальклору і народных форм творчасці і адпачынку.

**Ларыса РЫЖКОВА,**
**загадчык аддзела фальклору РНМЦ культуры.**

г. Мінск.

## Кнігапіс



Я. СІПАКОЎ. Веча славянскіх балад. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1988.

**Выпушчаная ў 1973 годзе, кніга Янкі Сіпакова «Веча славянскіх балад» адразу стала з'явай у сучаснай беларускай паэзіі, атрымала шырокі рэзананс і за межамі рэспублікі. Была адзначана Дзяржаўнай прэміяй БССР. Аўтар працягваў працаваць над новымі творамі, асэнсоўваючы шмат якія падзеі з багатай гісторыі славянства, даючы ім ацэнку з пазіцый сённяшняга дня. Чарговае выданне «Веча славянскіх балад» значна дапоўнена ў параўнанні з першым. Кніга цудоўна афармлена М. Басалыгам, выдадзена на высокім паліграфічным узроўні.**




Х. ЛЯЛЬКО. Белыя брады. Апавяданні. Аўтарызаваны пераклад з беларускай В. Шчадрыной. М., «Молодая гвардия», 1989.

**Змест гэтага зборніка Хрысціны Лялько, які выйшаў у «Бібліятэцы часопіса ЦК ВЛКСМ «Молодая гвардия», склалі творы, што былі прадстаўлены ў першай кніжцы пісьменніцы «Дарога пад гару», выпушчанай выдавецтвам «Мастацкая літаратура» яшчэ ў 1985 годзе. Апавяданні «Груган», «Светлая рунь», «Касцы», «Белыя брады» і іншыя прыцягваюць увагу дакладнай вымалёўкай чалавечых характараў, тонкім спасціжэннем хараства прыроды. Як заўважае Ян Скрыган, які прадстаўляе пісьменніцу ўсесаюзнаму чытачу: «Апавяданні Хрысціны Лялько глыбока гістарычныя, таму што заўсёды будзе значнай высокая мастацкая праўда аб зямлі і земляках».**



Г. ПЯТРОЎСКАЯ. Жывая спадчына. Мінск, «Беларусь», 1988.

**Аўтар кнігі кандыдат філалагічных навук Г. Пятроўская расказвае, як спрадвеку на нашай зямлі святкаваліся каляды, масленіца, пачатак жніва, купалле; як народ адзначаў радзіны, вяселле, гукаў вясну...**

# *Крытыка, бібліяграфія*

**Серыя «Бібліятэка часопіса «Маладосць», якая выдаецца з мінулага года, дала магчымасць многім маладым літаратарам выйсці са сваімі творамі да чытача. За гэты час з'явілася 10 кніжачак паэзіі і прозы, у тым ліку два калектыўныя зборнікі членаў таварыства «Тутэйшыя». Сярод аўтараў не толькі пачаткоўцы, але і члены СП БССР.**

**Некаторыя са зборнікаў — напрыклад, «Жнівеньскі праспект» — рэцэнзаваліся на старонках «ЛіМа». Адгукнуцца на ўсе кнігі гэтай серыі (а яны выдаюцца штомесяц) бадай што немагчыма, аднак запыніцца на паасобных варта. Пра «Вяртанне» Алеся Аркуша і «Горкі вырай» Міколы Мятліцкага, пра зборнік прозы Уладзіміра Саламахі «Кавалёк — лесавая былінка» сёння выказваюцца маладыя крытыкі. Такім чынам, — маладыя пра маладых...**

## У пошуках «Храма святога»

Калі паводле традыцыі апошняга часу пачаць чытаць зборнік Алеся Аркуша «Вяртанне» з выдавецкай анатацыі, то не пазбегнеш расчаравання. Тут і «споведзь маладога сучасніка перад Радзімай», і «імклівыя рытмы веку», і «няпростыя пошукі свайго шляху» — карацей, усе тыя звыклыя азначэнні, што вандруюць апошнім часам па старонках, бадай, большасці паэтычных кніг. І вінаватыя ў гэтым па ўсёй бачнасці не самі аўтары. Відаць, калісьці паводле задумы анатацыі павінны былі дапамагаць чытачу арыентавацца ў моры сучаснай паэзіі. Сёння ж яны не толькі не выконваюць гэтай ролі, але сваёй афіцыйнай аднастайнасцю хутчэй адбіваюць усялякую ахвоту чытаць самі вершы.

А прачытаць зборнік А. Аркуша ўсё ж варта. Хаця б дзеля таго, каб зразумець, што новага нясе ў літаратуру новае паэтычнае пакаленне, пакаленне «тутэйшых». У гэтай сціплай кніжачцы, дзе змешчана каля паўсотні вершаў, вы не знойдзеце звыклых «глабальных» праблем і «болевых кропак веку». Малады паэт публічна не прысягае ў сваёй вечнай любові і адданасці роднаму краю, пакінуў у спакоі зоркі на абеліска і вечны агонь на брацкіх магілах, а задно і нянавісць да тых, хто ўсё яшчэ спадзяецца развязаць новую вайну. І, думаецца, правільна зрабіў, бо ідэалогія — справа палітыкаў. Пройдзе час і, магчыма, малады паэт, набыўшы жыццёвы і творчы вопыт, сапраўды адчуе сваю асабістую далучанасць і адказнасць за тыя глабальныя маральна-палітычныя праблемы часу. І тады ён здолее сказаць пра гэта, не ўжываючы залішне высокіх слоў і зацяганых газетных штампаў.

А сёння А. Аркушу хочацца гаварыць пра іншае. Не пра нейкага абстрактнага «правільнага» лірычнага героя, а пра сябе — такога, як ёсць. Канешне, можна выказаць многа заўваг у адносінах эстэтычнай вартасці вершаў, дасканаласці іх формы, але адно бясспрэчна — малады паэт сышоў з традыцыйнай трыбуны і з прарока і настаўніка ператварыўся ў суразмоўніка для чытача. А ў выніку мы можам даведацца, што ж на самай справе робіцца ў душы нашага маладога сучасніка, што яго хвалюе і па чым баліць яго сэрца.

**Я ніколі ў храме не быў,**
**Я не ведаю храма святога.**
**Толькі сніў каляровыя сны,**
**У якіх нараджалася слова.**

Думаецца, няпроста старэйшаму пакаленню да канца ўсвядоміць трагедыю маладых, пазбаўленых на самым пачатку свядомага жыцця веры ў высокі ідэал сацыяльнай справядлівасці. Але менавіта з тае прычыны элегічныя, журботныя ноткі ў зборніку А. Аркуша і ў творах многіх маладых паэтаў, тых жа А. Сыса, А. Глобуса, У. Сцяпана, В. Куртаніч. І, напэўна, з часам песімізм у паэзіі будзе не пераадольвацца, а ўзрастаць. Бо, з аднаго боку, надта ж доўгі час афіцыйна друкаваная паэзія захлыналася раслінным аптымізмам, які нармальнаму чалавеку неўласцівы, а, з другога боку, жыццё падстаў для аптымізму якраз і не дае. «Свет наш не ведае райскіх мясцін. Мусіць, яны толькі ў кнігах ды песнях...» — сцвярджае А. Аркуш.

Што ж ведае ў такім разе наш свет?

**Я заплюшчваю вочы і бачу**
**ваўка.**
**Ведаю: ён мой вораг.**
**. . . . . . . . . . . . . .**
**Я трызню помстай!**
**Я вар'яцею ад злосці!**
**Воўк валюхаста пабег мне**
**насустрач.**
**Ад гэтага я раз'юшваюся ўдвая.**
**Я сам раблюся падобны**
**да ваўка.**

Яшчэ не так даўно малады паэт у падобным кантэксце ніколі не ўжыў бы займеннік «я». Выкрыкваючы абуджэнне звера ў чалавеку, ён бы абавязкова ўвёў трэціх асоб, а сам, бязгрэшны, застаўся б носьбітам высокай маралі. Але час мяняецца. І замест традыцыйнай фразы аб «непераадоленых перажытках праклятага мінулага» сёння мы ўслых гаворым пра бездухоўнасць грамадства, пазбаўленага ідэалаў і веры.

Маладыя, якіх называюць то гарадской плынню, то нетрадыцыяналістамі, адрозніваюцца ад іншых, відаць, тым, што даследуюць саміх сябе, сябе ў першую чаргу аддаюць на суд. У іх не заўсёды і не ва

## ГОРКІ СУМ РАЗВІТАННЯ

Занадта шмат бед абрынулася на чалавека ў нашым стагоддзі: крыважэрныя войны, бязлітасныя землятрусы, экалагічныя праблемы, нечуваныя хваробы...

**Гэта век мой суровы —**
**адзін — вінаваты,**
**Што пустымі сустрэнуць**
**хаты.**

Такое балючае прызнанне гучыць у паэтычным зборніку М. Мятліцкага «Горкі вырай». З намі гаворыць паэт, у якога жахлівая чарнобыльская трагедыя адабрала самае святое — родную вёску, куток маленства, вечнае прыстанішча бацькоў і прашчураў. Так, гэта той разумны, квітнеючы век НТР, з якім мы зараз настойліва шукаем гармоніі, аказаўся няшчадным і жорсткім да чалавека, да маленькай радзімы многіх людзей, што, як птушкі пасля дбайнай меліярацыі, рассталіся з абжытымі мясцінамі. У горкай жальбе вяртаецца паэт у зону адчужэння — на развітанне з краем трагічнай долі чалавечай. Першыя ж строфы верша «Вяртанне», які адкрывае зборнік, гучаць на мінорнай, драматычна - хвалюючай ноце: прыйшоў час апошніх слоў, бясконцай пахавальнай паніхіды «на згорклай хойніцкай вярсце».

**Запаліце полымя, рабіны,**
**Смутна і трывожна ў галавах.**

Гэты агонь, самотны і заклікальны, патрэбен паэту для ачышчальнай сілы пачуцця, для вызнання найгалоўнейшага ў быцці. Палеская прырода, зямля, кожны камячок якой спаўна змочаны потам селяніна, пазбавіліся спаконвечнай сваёй сутнасці — асяроддзя жыццянараджэння, першароднай чысціні і прыгажосці.

**Век стаяў, пагрозны**
**і раскуты,**
**Як паданні, воблакі плылі.**
**І крыніцы, поўныя атруты,**
**Гаварылі праўду аб Зямлі.**

Ды нашы паэты ў большасці сваёй не спяшаліся слухаць гэтую праўду. Прынамсі, так мне падумалася на пачатку мінулага года, калі перачытваў нешматлікія вершы пра чарнобыльскую трагедыю. Няўжо мы заспакойваемся? Няўжо мінае час болю і пакут? Але тое, што ўжо з'явілася ў друку, а гэта «Зона» У. Някляева і палымянская нізка вершаў М. Мятліцкага «Горкі вырай», абнадзейвала, пасяляла ўпэўненасць, што шырокае мастацкае асэнсаванне чарнобыльскай тэмы наперадзе. Думаецца, без страт перадаўся чытачу напружаны ток эмоцый і думак Г. Бураўкіна, В. Зуёнка, Я. Янішчыц, незаўважнымі не засталіся вершы М. Дуксы, М. Маляўкі, М. Шэлехава, усхвалявала паэма С. Законнікава «Чорная быль». А яшчэ трэба аддаць належнае А. Адамовічу, чыё страснае, усхваляванае слова ў «Новом мире» ўзбударажыла і развярэдзіла нашу свядомасць з новай сілай. Час паказвае, што трэба безупынку звяртацца да душы чалавека, будзіць ягоны розум, каб ні на момант не патухла чуйнасць да сэрцабіцця прыроды, не знікла пільнасць да спраў зямных, якія робяцца не заўсёды на карысць жыццю. «Горкі вырай» — патрэбная ў гэтым сэнсе кніга. Яна згушчае атмасферу балючага напружання і перажыванняў аўтара, што ідзе да чытача з выпакутаванай думкай, шчымлівай ранай сэрца.

«Колер жаўцяны» вясновага абнаўлення і сонечнай прамяністасці страчвае гэтую сэнсавую напоўненасць і, набываючы народную традыцыйна - сімвалічную сутнасць, становіцца колерам смутку і гора:

**Гэта жоўтай жуды**
**Колер самы гарачы,**
**праменны.**
**След атрутнай бяды,**
**Бляск сляпучы, рэнтгенны.**

**Ты, раз'ятраны свет,**
**Замуціўшы свае небасхілы,**
**Гэты жоўты букет**
**Пакладзі на сырыя магілы.**

У мастацкай палітры М. Мятліцкага пераважае змрочнасць, бляклась, панылась фарбаў («тумановы шлях», «сумерак шызы», «шатаў змрок», «чорнае неба» і т. п.), а светлавая дамінанта вызначаецца асляпляльна - балючым, пранікліва-яркім выпраменьваннем колеру («стрэлы — промені агнявыя», «атрутнае ззянне», «сонца сляпучае» і т. п.). Шчымлівыя гукі і пахі, безжыццёвыя вобразы і водбліскі наваколля перамяжоўваюцца ў памяці паэта з натуральна-жывой, адвечнай акрасай зямлі. Паэтаў пагляд нясе адбітак узбуджанага, эмацыянальнага стану чалавека, кожны крок якога тужлівы і цяжкі: паўсюль такія непазбыўныя, непазнавальныя выявы радзімы:

**...Я сіратой пад небам стаю.**
**Чорнае неба цэдзіць**
**З сухмарка**
**на магілу тваю**
**Стронцый і цэзій.**

У адчуванні паэтам жыватворнай, адраджальнай сілы прарастання зярняці чуецца глыбока сялянская, нават язычаская ўзрушанасць: векавечныя зямныя сокі, сагрэтыя сонечным цяплом, пераліваюцца ў новае, маладое, каб рунець і красавацца (верш «Голас страчанага зярняці»). Тым больш сумна ўсведамляць, што атручанае зерне не здольна ўзнавіць глыбінна-прыроднае:

**Я,**
**страчанае зерне.**
**Хто мне спатолю верне?!**

## ВОДБЛІСКІ ПОЛЫМЯ

Агонь... Ён бывае ачышчальным, знішчальным, святым, праклятым. Але ніколі нельга ўявіць яго безаблічным, нейтральным. Бо яго ўспрыманне сведчыць заўсёды пра стан душы чалавечай.

«У яе абарвалася сэрца: яна ўбачыла, як ад лаўжа, ахопленага полымем, матнулася ёй насустрач чалавечая постаць...» На такой ноце завяршаецца аповесць У. Саламахі, па сутнасці кантрастуючы з выразна лірычным загалоўкам «Кавалёк — лесавая былінка». Што ж высвечвае полымя з нашага імклівага жыцця?

Міжволі згадваецца шырокавядомы «Пажар» В. Распуціна. І для гэтага ёсць пэўныя падставы. У Сібіры, у пасёлку **Сасноўка**, жыве па сапраўдных законах чалавечнасці шафёр леспрамгаса Іван Пятровіч Ягораў. На Беларусі, у вёсачцы **Сасноўка**, жыве па тых жа законах звычайны, нікім не прыкметны работнік леспрамгаса Міцька Кавалёк. Такое супадзенне, відаць, не выпадковае.

Бо самая актуальная праблема нашага часу — зберажэнне прыроды. Тым больш, што экалагічныя праблемы непасрэдна звязаны з грамадскімі, што знайшло сваё ўвасабленне ў закліку: экалогія прыроды — экалогія душы. «Цяпер яму (Міцьку. — **І. Ш.**) здавалася, што ўсе лесарубы заадно з Стрынадкам, Гаўрыленкам, Іванам, для іх усё навокал — мёртвае, лес — драўніна, рака — гнілавод, бабры — каўняры і шапкі... І гэта здавалася страшным, такая абязлічанасць прыроды, адчужанасць ад яе чалавека, што яго аж перасмыкнула ад такіх думак, і, нават не ўзяўшы затаптанай у зямлю шапкі, Міцька павярнуўся і моўчкі пасунуўся прэч, далей ад парома, ад гэтых людзей, туды, у Ляскі, гіганцкі забалочаны луг, дзе яму нібы пачулася трывожнае, як перад канцом, курлыканне жураўоў».

Падсвядома разумеючы, што чалавек, знішчаючы прыроду, знішчае нешта святое і неаддзельнае ў самім сабе, герой У. Саламахі ў адзіночку пачынае барацьбу супраць таго, што творыцца на лесасецы. І гэтая барацьба перарастае ў барацьбу за духоўнасць. Бо бездухоўны чалавек лёгка становіцца «архараўцам», які ўжо можа ўзняць руку не толькі на безабароннае дрэва, але і на людзей. І з гэтым нельга не пагадзіцца.

Праблемы, закранутыя ў аповесці У. Саламахі, не новыя і для беларускай прозы. Згадаем глыбока філасофскія творы В. Казько, А. Жука, страсныя публіцыстычныя выступленні В. Якавенкі, дыскусіі аб лёсе Прыпяці, Бярэзінскага запаведніка, аб «парку цудаў» пад Мінскам. Мала новага знойдзем мы і ў мастацкім увасабленні ідэі. Наогул, у творах падобнага плана самай складанай з'яўляецца менавіта задача арганічнага спалучэння мастацкага і публіцыстычнага пачатку. На жаль, і ў аповесці У. Саламахі апошняе выразна дамінуе, што лёгка заўважаецца як у развіцці дзеяння, так і ў прынцыпах стварэння вобразаў галоўных дзеючых асоб, а таксама ў мове твора. Фінал аповесці прадугадваецца якраз з таго моманту, калі падвыпіўшы Іван прапануе Міцьку дапамагчы ўладкавацца вартаўніком брыгады лесарубаў. Бо надта ўжо

ўсім дасканалых творах прысутнічае і ўсведамленне жаху ўсеагульнага «расчалавечвання», і асуджэнне яго, і туга па высокіх ідэалах. Згадайма, да прыкладу, радкі з верша А. Аркуша «Уцёкі»:

**Уначы Вурдалак галасіў.**
**У Мёртвым возеры білі званы.**
**Я з апошніх падманлівых сіл**
**Пілаваў на сабе кайданы.**
**. . . . . . . . . . . . .**
**Што мне жахі твае, Вурдалак?**
**Ты ў памыйныя здрады не ўлез.**

І калі, заблытаўшыся ў ціне «памыйных здрад», чалавек перастае *любіць і паважаць* бліжняга свайго, то дзе яму ўжо дбаць пра «братоў сваіх меншых» — звяроў, птушак, рыб, дрэвы і травы. А. Аркуш ад нараджэння гараджанін. (Дагэтуль, па ўсім вядомых прычынах, большасць паэтаў паходзіла з вёскі). Але, можа, якраз таму, што паэт не вырас ў непасрэднай еднасці з прыродай, яму збоку больш заўважны той незайздросны стан, у якім яна сёння знаходзіцца. І таму паэт расказвае чытачу, як «шукае лекавыя травы сабака *брудны, нехлямяжы*», як «безліч смяротных асцей рэчцы патрапілі ў грудзі» і як «ля пільні ад хвояў кара да зямлі прыстала жыўцом, як да новага цела».

У зборніку «Вяртанне» многа вершаў на гэтую тэму. Праўда, далёка не заўсёды яны сягаюць думкай глыбей звыклай канстатацыі фактаў і горкай шкадобы з іх існавання. Хоць часам, напружыўшы крыху ўяўленне, чытач *і па вершах* А. Аркуша зразумее, што адносіны чалавека да прыроды сёння не вызначаюцца яго асабістай маральнасцю, яго любоўю ці нелюбоўю да яе, а ўсё значна складаней, як, да прыкладу, ў вершы «Пільня»:

**Па звычцы чакаюць бярвення дзядзькі:**
**Працоўныя рукі — нястомныя служкі.**
***І ляды вядуць, як заўжды, напрастні***
**Да пільні, да гвалту, да дошак, да стружкі.**

Калі ж гаварыць не толькі пра змест, але і пра эстэтычныя вартасці зборніка, то нельга не зазначыць, што маладому *паэту нестае цярпення* часам належным чынам «абрабіць верш», як пісаў М. Багдановіч. І таму бывае, што дзеля рыфмы А. Аркуш жывасілам пхне ў верш словы, якія там зусім не да месца. Заўважна ў зборніку і імкненне надаць глыбінную філасафічнасць у прынцыпе банальным выказванням («Каметная свабода», «Я сам убачыў», «Крумкач», «Груган»). Відаць, гэта здараецца таму, што часам *паэту няма* чаго сказаць, і ён пачынае «выдумляць ад пакутлівай дакукі», як сам прызнаецца ў адным з вершаў. А калі ўжо А. Аркуш пачынае выдумляць, то пры яго — будзем спадзявацца — узроставай схільнасці да занадта «мудрых» слоў як іншаземнага, так і старабеларускага паходжання, чытачу прыходзіцца нялёгка.

І ўсё ж таму, хто цікавіцца паэзіяй, зборнік «Вяртанне» пачытаць варта. Бо тут адчуваецца наш час і жывая, «не*забранзавелая» душа* сучасніка.

**Г. КАЗІМІРЧЫК.**

---

Чалавек і Зямля, Чалавек і Сусвет... У дачыненні да аўтара «Горкага выраю» не будзе перабольшаннем сказаць, што ён валодае ярка выяўленай схільнасцю мысліць узбуйненымі вобразамі. І гэта не даніна нейкаму ультрасучаснаму модніччанню, а менавіта спецыфічнасць яго светабачання, ці, інакш кажучы, вышыня ўласнага светаўспрымання, шырыня светапогляду ў пазнанні быційных праблем. Таму, мусібыць, пасля чытання такіх вершаў, як «Вечнасцю неба наліта...», прыходзіла на памяць куляшоўскае: «Мне ў рукі лёс не шпагу даў, не лук, а ўсю Зямлю, з арэнай — Млечным Шляхам». Трэба сказаць, што залішняя гіпербалічнасць вобраза, знарочыста роблены, інертны ход думкі адчуваюцца ў асобных творах М. Мятліцкага з папярэдняга зборніка «Ружа вятроў», але новы зборнік важка сведчыць, што калі паэт абапіраецца на вельмі асабістае перажыванне рэчаіснасці, яго слова атрымлівае даволі арганічную інтанацыйную вылучанасць. Аднак у вершы «Неба вёскі маёй...», думаецца, ад маштабнай захопленасці ракурс бачання паэта ўспрымаецца *адвольным і памылковым*:

**Прад табою з мальбой**
**Чалавечая сутнасць мая:**
**Вынесь вогненны шар,**
**Век мой,**
**З гэтай,**
**Магчымай вайны.**

Сімптомы ранейшай «астранамічнай» хваробы праяўляюцца ў такіх паэтычных радках, як «Сэрцам калышаш планету...», «Зямлю апошнім смерчам разгушкала...» А вось гіпербалізаваныя вобразы і метафары ў вершах «1986», «Спыніцеся! У свеце, бы ў пакоі...» яскрава паказваюць уменне паэта сінтэзаваць канкрэтна-пачуццёвае і буйнамаштабнае:

**Астылы матчын двор,**
**Усплёск самотнай рэчкі,**
**Чароды зязблых зор,**
**Што ўспыхнулі, як свечкі.**

Відавочна, не дзеля прыгоства і кідкасці піша М. Мятліцкі словы «Зямля», «Сонца», «Час», «Жыццё», «Заўтра», «Смерць», «Зло» з вялікай літары. У сэнсавай напоўненасці радка яны ўтрымліваюць глыбокі змест, бо паэт імкнецца зрабіць выхад «у агульначалавечы космас, дзе сыходзяцца ў вузел самыя запаветныя думкі чалавечага роду...» (Ч. Айтматаў). Шырыня светасузірання і свет асобы знітаваны ў кніжцы ўсеабдымным болем чалавечага сэрца, нястрымным жаданнем прыўнесці ў наша жыццё грамадзянскі неспакой, бо ў свеце не выключаны жудасны смяротны канфлікт паміж атамам і людзьмі, грамадствам і прыродай

*Зборнік «Горкі вырай»*, які выйшаў у «Бібліятэцы часопіса «Маладосць», трохі пацясніў на сваім шляху тых, хто толькі ідзе ў паэзію. Але чарговая кніжка М. Мятліцкага мае на гэта права.

**Алесь БЕЛЬСКІ.**

---

палярныя гэтыя героі — наіўны, безабаронны Міцька і самаўпэўнены, самазадаволены Іван. Наогул, У. Саламаха карыстаецца ў асноўным толькі кантрастнай фарбай — белай і чорнай.

Міцька Кавалёк — з галерэі тых шматлікіх герояў беларускай прозы апошніх гадоў, якія павінны ўвасабляць сабой здаровы духоўны пачатак, прычым падчас за кошт фізічнага. Невыпадкова Змітро Кавалёк, нягледзячы на свой сталы ўзрост, для ўсіх проста Міцька, бо ён і аднавокі, і кашчавы, і шчокі праваленыя, апранае раз у дваццаць гадоў бастонавы касцюм, ніколі не быў у рэстаране, але чуў, што «гэта карчма такая, дзе мужчыны сядзяць за сталом, ядуць, п'юць, а другія мужчыны падаюць ім ежу і чакаюць, бы сабакі косткі, капейкі на чай». Але, відаць, не толькі князі Мышкіны павінны абуджаць чалавечае сумленне. Тым больш у тых, у каго яго зусім не было або з-за непатрэбы атрафіравалася, пра што сведчаць вобразы беларускіх «архараўцаў» — Карнея Карнеевіча і Івана Сідорына, злачынства якіх прадбачыш ужо ў час першага знаёмства — хабарнікі, п'яніцы, сквапныя і наогул нікчэмныя людзі.

Выразная зададзенасць зніжае грамадскую значнасць канфлікту. Такія ж недахопы ў пэўнай ступені ўласцівы і апавяданню «Пад грабеньчыкам», што ўяўляе сабой разгорнуты анекдот аб тым, як на грамадскай рабоце чалавек губляе прафесійныя навыкі.

У цэлым кніжачка У. Саламахі — гэта не правал, але і не ўзлёт аўтара, бясспрэчна, здольнага, што засведчыла апавяданне «Зямля, словы, журавы...». Яна не вылучаецца на фоне нашай традыцыйнай прозы.

**Іван ШТЭЙНЕР.**

г. Гомель.

---

# ПАСЛЯ НАРАДЫ

ТРАПІЦЬ на Усесаюзную нараду маладых *пісьменнікаў — было няпроста.* Тым больш, калі ўлічыць, што праводзіцца яна адзін раз на пяць гадоў, і што сёлета на гэтую нараду ад усёй рэспублікі дэлегавалася толькі 7 чалавек (паэты Анатоль Сыс і Сяржук Сокалаў-Воюш, Леанід Пранчак, празаікі Алесь Наварыч і Андрэй Федарэнка, публіцыст Алесь Лукашук і як крытык аўтар гэтых радкоў). Мінулы раз, для параўнання, прадстаўніцтва было ў два разы большым. Натуральна, што адпаведна гэтаму вялікаму гонару ўзнікаюць і адпаведныя патрабаванні да ўзроўню гэтага неардынарнага форуму. Арганізатарамі нарады былі Саюз *пісьменнікаў* СССР і ЦК ВЛКСМ. Відаць, нездарма ў народзе кажуць, што ў сямі нянек дзіця без вока. І таму замест чаканых урачыста-ўзнёслых афіцыйных провадаў, наша дэлегацыя, даведаўшыся ў перадапошні дзень, што ніхто білетаў на Маскву для яе не прыдбаў, дабіралася ў сталіцу хто як мог. Не дзіва, што Сяржук Сокалаў-Воюш так туды і не трапіў. Дзеля справядлівасці *трэба адзначыць, што не толькі ў беларусаў* былі арганізацыйныя непаразуменні. Да прыкладу, у семінары крытыкі на працягу тыдня чакалі прыезду маладога і перспектыўнага літаратара са Свярдлоўска Вячаслава Курыцына, які, на жаль, так і не з'явіўся, бо мясцовы абком камсамола не знайшоў фінансаў на яго паездку.

Увогуле, гэтая нарада, дзевятая па ліку, была не зусім звычайнай, і не толькі таму, што праходзіла ў гістарычны для нашай краіны час. Уплыў перабудовы на творчы лёс маладых пісьменнікаў падкрэсліваўся не толькі ў выступленнях першага сакратара праўлення СП СССР У. Карпава, пісьменнікаў Я. Ісаева, У. Лічуціна, Л. Ірэнкава (Балгарыя), У. Някляева, першага сакратара ЦК ВЛКСМ В. Міроненкі, гэты ўплыў, як аказалася, непасрэдна адлюстраваўся і на прынцыпах адбору дэлегатаў. Упершыню на нараду трапілі не толькі пісьменнікі, якіх рэкамендаваў СП, але і ўдзельнікі-пераможцы ўсесаюзнага адкрытага конкурсу, які спецыяльна быў *абвешчаны напярэдадні* і ў якім мог прымаць удзел кожны. На конкурс было прадстаўлена звыш паўтары тысячы рукапісаў. 250 з іх атрымалі па дзве станоўчыя рэцэнзіі, і аўтары гэтых рукапісаў сталі паўнапраўнымі ўдзельнікамі нарады. Апрача таго, вольнымі слухачамі былі запрошаны яшчэ 30 удзельнікаў конкурсу. Наколькі мне вядома, з нашай рэспублікі дэлегатам па конкурсу прыехаў толькі адзін чалавек — драматург з Глыбокага Уладзімір Сауліч. Такім чынам на нарадзе прысутнічала ўсяго недзе 600 чалавек (каля 300 *прыехала па рэкамендацыі* СП). Калі ўдзельнікаў размеркавалі па жанрах, аказалася, што працавала 14 семінараў паэзіі, 10—прозы, 1—крытыкі і 1 — мастацкага перакладу.

Асабіста мяне ўразіла не толькі вялікая колькасць *паэтаў.* Ад нашай рэспублікі было толькі два — Анатоль Сыс, узровень якога не трэба рэкламаваць, і Леанід Пранчак. Уразіла мяне іншае—колькаснае прадстаўніцтва ад саюзных рэспублік. Яно, бадай, толькі на Украіне перасягнула межы 10 чалавек. Затое вельмі шырока былі прадстаўлены абласныя аддзяленні СП РСФСР. Большыя па колькасці, чым узятыя разам дэлегацыі Беларусі і Літвы, былі прадстаўніцтвы ад такіх гарадоў, як Свярдлоўск, Варонеж, Новасібірск, Чэлябінск, не кажучы ўжо пра Маскву і Ленінград. Таму на нарадзе гучала пераважна руская паэзія, аналізавалася *руская проза,* разглядаліся праблемы рускай літаратуры. Магчыма, гэта ў нейкай ступені вынік усесаюзнага конкурсу, у якім рускамоўныя пісьменнікі знаходзіліся ў больш выгадным становішчы, чым аўтары перакладных твораў, прадстаўнікі нацыянальных літаратур.

Таму ўсесаюзная нарада хутчэй па назве была ўсесаюзнай. Нешматлікія «нацыяналы» пачуваліся тут хутчэй гасцямі, чым удзельнікамі. Ды і сярод кіраўнікоў семінараў надта ж мала было мастакоў слова з нацыянальных рэспублік. У гэтым плане, праўда, Беларусь не была пакрыўджана. У адным з семінараў прозы працаваў Анатоль Кудравец, а ў паэзіі—Уладзімір Някляеў. І хоць для маладых рускамоўных паэтаў, бадай, без выключэння наша беларуская літаратура — суцэльная белая пляма, У. Някляеў карыстаўся ў іх асяроддзі павагай і папулярнасцю. У нейкай ступені, думаецца, дзякуючы сваёй удумлівай і змястоўнай прамове на адкрыцці нарады.

Безумоўна, сярод кіраўнікоў былі вядомыя *пісьменнікі і літаратуразнаўцы,* знаёмства і гутаркі з якімі пайшлі толькі на карысць удзельнікам нарады. Аднак калі зыходзіць з асабістага вопыту, то мне падалося, што сам прынцып вядзення семінараў патрабуе перагляду. У прыватнасці, крытыкі абмяркоўвалі ў асноўным творчасць Б. Пастэрнака і І. Бродскага, спрачаліся пра месца і значэнне іх для рускай літаратуры. З гэтай нагоды хочацца згадаць, што на старонках друку, здаецца, ужо выказвалася думка аб пераглядзе іерархічнага падыходу да вызначэння месца і ролі той ці іншай асобы ў мастацтве. Аднак да сённяшняга дня не толькі пісьменнікаў выстрайваюць у строга па ранжыры вызначаныя шарэнгі, з адной цэнтральнай недатыкальнай фігурай на вяршыні такой сімвалічнай пірамiды, але нават цэлыя літаратуры: вялікія, значныя, малалікіх народаў і г. д. У выніку цалкам разбураецца эстэтычная сістэма ацэнкі тых ці іншых твораў. Да прыкладу, у нас не прэстыжна не прачытаць таго ж У. Набокава, але зусім натуральна не ведаць нават прозвішча Чэслава Мілаша, літаратара-эмігранта з суседняй Польшчы, дарэчы, лаўрэата Нобелеўскай прэміі. Мала хто зганьбіць мяне, калі я не буду ведаць пра існаванне Ліны Кастэнкі ці Яна Кросса, затое, калі я не буду арыентавацца, хто такія, да прыкладу, Бэла Ахмадуліна ці В. Пікуль, рэакцыю нават не бяруся прадказваць.

І таму, калі гаворка на ўсесаюзнай нарадзе заходзіць пра лёс тых літаратараў і твораў, якія па тых ці іншых прычынах толькі-толькі пачынаюць вяртацца на радзіму, хацелася б, каб яна тычылася агульных болевых кропак усіх нацыянальных літаратур. У той час, калі рускія літаратары горача дыскутавалі пра свае праблемы, нешматлікія «нацыяналы» з горыччу ў сэрцы думалі пра невядомыя чытачу забароненыя і забытыя імёны і творы сваёй літаратуры. І гэта цалкам нармальна. Шчыра радуючыся вяртанню «*Доктара Жывага*», твораў І. Бродскага, У. Вайновіча, я не хачу і не магу забыць, што беларускі чытач да гэтага часу не мае мажлівасці прачытаць творы І. Абдзіраловіча, Ф. Аляхновіча, Н. Арсеньевай, М. Сяднёва. (Хай прыхільнікі іерархічнага раду ў мастацтве не жахаюцца, пабачыўшы пералік гэтых імёнаў у адным сказе, размова ідзе не пра вартасныя супастаўленні твораў). Думаецца, падобныя адчуванні былі ў многіх прадстаўнікоў нацыянальных літаратур.

Увогуле, пры такой адналінейнай скіраванасці інтарэсаў справа часам даходзіла да кур'ёзаў. Мне давялося выпадкова трапіць на семінар прозы, дзе аналізавалася творчасць армянскага пісьменніка з Нагорнага Карабаха Кіма Габрэаляна. Разглядаліся падрадкоўныя пераклады апавяданняў. Мы ніяк не маглі разабрацца, дзе сінтаксічныя асаблівасці падрадкоўніка, а дзе асаблівасці творчай манеры пісьменніка.

У нейкай ступені IX усесаюзная была нарадай нечаканасцей і сюрпрызаў. Перабудова, здаецца, закранула *і Саюз пісьменнікаў*, які нарэшце вырашыў рэальна дапамагаць маладым літаратарам. Гэтая дапамога выявілася ў тым, што найбольш таленавітых і актыўных адразу ж прынялі ў члены СП. Праўда, з вызначэннем кандыдатур кіраўнікам семінараў прыйшлося нялёгка. У нашым семінары на адно месца аказаліся ажно два прэтэндэнты: Ірына Вінакурава, якая друкуецца больш 14 гадоў і піша толькі станоўчыя рэцэнзіі, і Павел Гарэлаў, які выступае ў крытыцы нядаўна, але здабыў вялікую папулярнасць палемічнымі артыкуламі. У выніку пасля доўгіх дэбатаў перавагу аддалі І. Вінакуравай, *якая, на думку* большасці, «мае патрэбны ўзровень прафесіяналізму». З нашай дэлегацыі членам саюза *стаў* Леанід Пранчак, кніжка вершаў якога выйшла сёлета ў выдавецтве «Юнацтва». На жаль, больш ніякіх заахвочванняў на долю нашай дэлегацыі не выпала. А сярод іх былі: рэкамендацыі ў члены СП, гадавая грашовая стыпендыя ў суме 100 рублёў штомесяц, рэкамендацыі ў Літаратурны інстытут і Вышэйшыя літаратурныя курсы і яшчэ шмат іншага. Зрэшты, мы і не вельмі на іх спадзяваліся, бо не гэта галоўнае. Нягледзячы на ўсе неўразуменні, думаецца, кожны з нас вывез для сябе многае з гэтай нарады. Кожны сваё, кожны для сябе.

**Галіна ТЫЧКА,**
**ўдзельніца IX Усесаюзнай нарады маладых пісьменнікаў.**

Масква—Мінск.

## Паэзія

**Алег ЛОЙКА**



# Роднаму краю

Сумныя нашы паперы:
Свет, як запоўнен лухтой.
Хто ж не дае жыць і верыць?..
Хто?!

Абуджаных, раскалыханых,
Збыўшых страху чуму,
Зноў нас да здрайцаў паганых
Залічаюць, чаму?..

Вочы звярнуўшых і сэрцы
Да дзедаўскіх ачагоў,
Чаго зноў нас лаюць блюзнерцы,
Льюць памыі, чаго?!.

Не з мюнхенаў, не з-за мора
Плыло на цябе, на народ
Бяспамяцтва чорным морам, —
Плыло каторы год.

Не Мюнхенам і не з-за мора
Тутэйшыя будзяцца тут,
Слабодзячыся ад мору,
Ад камандных пут.

Было! Чарнілі, квацалі —
Уздоўж і ўпапярок, —
Урок рэабілітацыі,
Няўжо больш — не ўрок?

Пужаюць сусвет хімерай,
Аскому набілі лухтой...
Хто ж нам і ў нас паверыць, —
Нарэшце паверыць, хто?..

Краю, любімы, родны,
У бяспамяцтва на краі,
Раі дух горды, свабодны,
Веру ў сябе раі!..

Краю, табой хварэю,
Табой жыву і памру, —
Твайго абнаўленчага рэю
Вітаю маці-зару!..

# Курапаты

1

«Чорны воран», чорны, кляты,
Пад'язджаў пад Курапаты.
Перад ім, як чужаземка,
Фыркала бензінам «эмка».
Ды зусім не чужаземцы
Ехалі ў віхлястай «эмцы».
Бартавы пазвягваў шворан:
Разгружаўся «чорны воран»,
Кат руплівеў на зарплаце
(Норму перавыканае —
ордэн адхваціць);
«Станавіся!..» — роў стакраты
І —
ні слова лішняга,—
Не з міндальнічання калішняга
Курапаты...

2

«А людцы ж мае, а божа!..» —
Людзей не ўспамінаць
калгаснік з-пад Слуцка
не можа,
Ды аглушаны ўшчэнт Курапаты:
Расстрэлы год пяты,
І не да літанняў кату:
«Калі ты — тут, значыцца,—
вінаваты!..»
Вінаваты кожны, хто не баіцца,
У вачах каго — сляза спачування
іскрыцца,
Хто не стукач, не падслухач-падлюга —
Даносаў поўная глюга!..
Жывеш без дрыжання, без страху,
Ды пад уласным дахам?..
Уласнік! Кулак!
Сотаму закажаш, баяцца трэба як...
Цябе падмануўшы,
Зямлю забраўшы, свабоду, —
Ты не баішся, — цябе баіцца
Бацька народаў;
Падманутыя сама,
А што, як запрагнуць адплаты,
Дык лепш — у яму:
Прымайце, Курапаты!
Прымай, зямля,
Калі яны цябе любяць!..
Бо што, як касу назубяць?!
Косы ж кляпаць умеюць,
Рукі маюць,
ходзяць, глядзяць, разумеюць.
Жонак маюць, дзяцей, хату,
Ды яшчэ беларусы...
Вінаваты!
Вінаваты, што рэвалюцыяй, Леніным
хрышчоны,

## Проза

*Леанід Левановіч*



# АНАНІМКА

**Прапаную чытачам «ЛіМа» ўрывак з новага рамана «Паводка сярод зімы». Падзеі, апісаныя ў ім, адбываюцца на пачатку 50-х гадоў. Гэта быў час, калі яшчэ лютаваў сталінскі дэспатызм, людзей душылі падаткі. Не зважаючы ні на што, людзі будавалі новыя хаты, адраджалі разбураныя гарады, спаленыя вёскі, радаваліся мірнаму жыццю.**

**Аўтар.**

СВІДЭРСКІ толькі прыехаў з Мамонаўкі, увайшоў у свой катух-кабінет, распрануўся, павесіў на тоўсты цвік доўгі кажух, як увайшла загадчыца аддзялення сувязі —пошта і сельсавет месціліся ў адным будынку, падзеленым перагародкаю на дзве паловы.

— Раман Піліпавіч, вам тэлефанаграма. З райкома. Толькі што прыняла,—і падала аркуш са школьнага сшытка ў касую лінейку, на якім буйнымі круглымі літарамі было напісана: «Старшыні Белагорскага сельсавета Свідэрскаму і фінагенту Сырадоеву прыбыць заўтра 15 лютага к дзесятай гадзіне на бюро райкома...» Перадала Гаўрыленка.

Хто ў райкоме Гаўрыленка? Загадчык аддзела агітацыі і прапаганды. А чаму ж яна перадае тэлефанаграму і чаму раптам фінагента выклікаюць на бюро? Свідэрскі некалькі разоў перачытаў радкі, напісаныя буйным школьным почыркам. І чым больш чытаў, тым больш паўставала пытанняў. Ніколі за пяць гадоў яго работы не было выпадку, каб фінансавага ці прадуктовага агента выклікалі на бюро. Большасць агентаў былі беспартыйныя, караў і мілаваў іх упаўнаважаны па нарыхтоўках, а фінансавых —і загадчык райфа. Асабліва трывожыла, чаму перадавала тэлефанаграму Гаўрыленка? Свідэрскі прыгадаў, што дзён дзесяць назад яна прыязджала ў Хатынічы, заходзіла ў школу. Гэты візіт не выклікаў падазрэння: у школу вярнуўся былы дырэктар, можа, яна прыязджала праверыць, як ён пачынае работу, бо на плечы дырэктара школы цяпер ляжа і лекцыйная і культурна-асветная дзейнасць.

Не, між тым прыездам Ніны Пракопаўны Гаўрыленкі і гэтым выклікам на бюро сувязі не праглядвалася. Але трывога ўсё мацней забірала Свідэрскага. Здаецца, з лесанарыхтоўкамі пайшла справа. Хатынічане ўжо выканалі план, услед за імі падцягнуліся іншыя калгасы. І тут гэты незразумелы выклік... Ён не мог дачакацца Сырадоева, каб папытаць у яго, можа, ён штосьці ведае.

Нарэшце ўвайшоў Сырадоеў, як заўсёды ў форме: цёмна-зялёным шынялі, у фуражцы, нягледзячы на мароз, малады, расчырванелы. Свідэрскі падсунуў яму тэлефанаграму і, пакуль той чытаў, не зводзіў вачэй з ягонага твару, нібы спрабаваў адгадаць, убачыць, прачытаць што-небудзь. Сырадоеў хуценька прабег вачамі радкі тэлефанаграмы, ніводзін мускул не здрыгануўся на ягоным твары, ні ценю заклапочанасці не прамільгнула. Ён паціснуў плячамі, зірнуў на Свідэрскага:

— А чаму мяне? Якое там пытанне?

— Я ў цябе хачу спытаць. Можа, нашкодзіў дзе?

— Ды не. Нікога не прыбіў, не аблаяў. План за мінулы год выканалі. Мо якія новыя інструкцыі? Але чаму на бюро? Не разумею. Можа, новая падпіска на пазыку?

— Ну, не будзем гадаць. Трэба значыць трэба,—заключыў Свідэрскі, нібы адсеяў і свае сумненні.—Выедзем раней. Каб гатовы быў...

Калі б цяпер Свідэрскі ўважліва зірнуў на Сырадоева, то мог бы ўбачыць устрывожанасць і непакой у маладых і ясных вачах фінагента. «Няўжо дазналіся пра Вольгу?»—апякла яго думка.

...Пачалося гэта мінулым летам, пачалося нечакана. Неяк адвячоркам пайшоў Іван да Бесядзі, цалюткі дзень скародзіў у полі бульбу, наглытаўся пылу—пясок аж храбусцеў на зубах, напякло гарачае сонца. Ён з асалодаю кінуўся ў ваду. Ласкавая, мяккая вада роднай рачулкі люляла яго на сцішанай плыні.

Іван плаваў, ныраў, адчуваючы, як знікае стома, цела наліваецца бадзёрасцю, сілай. Ён вылез на бераг, са смакам выцерся льняным ручніком, азірнуўся вакол, убачыў жанчыну ў белай кофце, якая мыла каля перахода бялізну. Захацелася прайсці паўз Бесядзь, бо вельмі ж прыемна было ступаць босымі нагамі па мяккай, халаднаватай ад расы, траве.

Здалёк ён пазнаў Вольгу, падышоўшы бліжэй, гукнуў: «Здароў, Вольга!»—«Ой, напалохаў ты мяне, Іван. Каб ты здароў быў»,—яна разагнулася, загарэлаю, паўнаватаю, прыгожаю рукой адкінула з твару пасмачку валасоў, зірнула на яго. У другой руцэ трымала мокрую кашулю. Спадніцу падаткнула вышэй, былі відаць яе белыя круглыя калені. «Давай паплаваем, Вольга...»—«Я ж не ўмею плаваць. Ды і няма ў мяне етага... кусцюма купальнага, як у гарадскіх дзевак...»

Тым часам сонца ўжо зайшло, над вадою падняўся бялёсы туманок, сцішана сплываў уніз па цячэнні. Вольга склала бялізну ў вядро, але не спяшалася ісці дамоў. Іван зноў пачаў угаворваць пакупацца. «Хіба вунь там, каля ручая. Там хоць кусты ёсць... Ты пасядзіш на беразе, а я трохі акунуся». Іван кіўнуў у знак згоды, узяў вядро з бялізнаю, яны пайшлі берагам ракі. Туман гусцеў, нібы кужалёвым покрывам захінуў увесь поплаў. Ля канюшні чуліся галасы, іржалі коні. У вадзе плёхалася рыба.

Ля ручая Вольга хуценька скінула з сябе адзенне, асцярожна ўвайшла ў ваду, узмахваючы рукамі, нібы баялася ўпасці. У густым, белым, як малако, тумане, Іван бачыў толькі яе цёмныя рукі. Ён таксама распрануўся і ціха-ціха пайшоў следам за ёй. «Якая вада! Цёплая, што сырадой!»—усклікнула Вольга. «Ага, цёплая»,—ціха адазваўся Іван, падышоў да Вольгі, якая па грудзі стаяла ў вадзе. «Ну, чаго ж ты сюды...» Дагаварыць яна не паспела—Іван закрыў ёй рот прагнымі губамі, потым падхапіў яе на рукі і панёс на бераг.

Цішыня стаяла вакол. Дзесьці падала голас перапёлка, за ракой азваўся драч: драп-драп, быццам прадзіраў праз асаку сабе сцежку...

Пасля таго купання ў тумане ўсё і пачалося. Для адводу вачэй, Іван у адкрытую пачаў заляцацца да Валі, маладой дзяўчыны з Мамонаўкі, пляменніцы Свідэрскага. Старэйшы брат Свідэрскага, Хвядос, загінуў на фронце, засталося тры дачкі, Валя была старэйшая. Невысокая, танклявая, з доўгай русай касой, яна даўно прыглянулася Івану, ён зрэдку праводзіў яе пасля танцаў і раней, але жаніцца не збіраўся. Цяпер ён рашуча браў яе за руку і вёў на пасёлак. Пастаяўшы хвіліну-другую, сонна пазяхаў, маўляў, стаміўся за дзень. «Дабранач, Валюха, пацягнуся дахаты»,—таропка цмокаў яе ў шчаку. Валя не затрымлівала яго, толькі яе вялікія вочы быццам маўкліва пыталіся: чаму ты так спяшаешся, чаму не хочаш пабыць са мной?..

Што б ні рабіў Іван у той вечар перад паездкай на бюро райкома, усё думаў пра Вольгу, усё мацней брала трывога. «Калі што-якое, скажу, што ажанюся з ёй. Я ж вольны, яна бязмужняя... Усынаўлю сына...» І тут жа адганяў гэтую думку: а Цімох? А яго, Іванава маці, якая заўсёды асуджае Вольгу... «От, дурань, чаму не напісаў ёй з фронту хоць бы пару слоў... Як бы хораша жылі! Яна такая ласкавая, такая жаданая... А мо таму такая, што не муж я... А што рабіць з Валяй?»

Выехалі з Хатыніч цёмначы. Ля Белай Гары развіднела, калі дабраліся да Баравухі, выкацілася з-за лесу чырвонае настылае сонца. Свідэрскі захутаўся ў кажух, адчуваў, як мароз лезе за пазуху, хапае за нос, пакасіўся на Сырадоева, які сядзеў збоч у фуражцы, у шыняльку з паднятым каўняром, абшлагі якога пакрыліся белаблакітным інеем. Свідэрскі згадаў, як сам тыя гады скрозь усю зіму хадзіў у жоўтым англійскім шынялі, бо другога не меў нічога, сёлета ўзбіўся на кажух, а як пацяплее, зноў давядзецца апранаць шынель.

— Ну, як марозік, прабірае?—выдыхнуў пару Свідэрскі.

— Хапае, каб яго ліха,—Сырадоеў сцепануў плячамі.—Прабягуся трохі, сагрэюся...

Ён саскочыў, хрумстаючы снегам, бег услед за санямі. Задыханы, расчырванелы, зваліўся, нібы куль, на сена ў вазок.

У Лабанаўку прыехалі акурат перад пачаткам бюро, але ім сказалі пачакаць, бо першае пытанне іх не датычыць. Чакаць давялося з гадзіну. Сядзелі ў катуху прыёмнай, хадзілі па цемнаватым калідоры, бо акно на вуліцу замураваў мароз тоўстым слоем шызаватага інею-моху. Нарэшце з кабінета першага сакратара выйшлі тры чалавекі, апранаючыся працягвалі размову, не зважаючы на іншых.

— Таварыш Свідэрскі і таварыш Сырадоеў, заходзьце,—высунулася з кабінета Гаўрыленка, прапусціла іх наперад і зачыніла дзверы.

Што ўвогуле нараджоны,
Кожны — вораг народа свайго закляты,
Вінаваты!
Ці хопіць яшчэ на іх Курапатаў?!

3

З прабітых патыліцаў, скроняў,
З пустых далоняў і рамёнаў
Налета зацвілі тут з макам чырвоным
Чырвоныя васількі і чырвоны рамонак.

А дзе крутыя гарбаціў гарбы
Суглінак перавільгочаных крывёй ямаў,
Прасыналіся грыбы
Усе чырвоныя таксама.

У кошыкі пад перазоў зязюль
Не бралі грыбоў тых добрыя людзі.
Як не было тых грыбоў датуль,
Няхай ні ў нас і нідзе не будзе!..

## *Прайшлі мы паміж берый...*

А. В.

Не з міласці ж крыжа
Хрыстовага, імперый,
Як па лязе нажа,
Прайшлі мы паміж берый.

Не ёгі, а прайшлі
Без драпінаў і ранаў,
Ні шоры, ні шляі
Былі нам не дабраны.

У ценях ад турмы,
Маны, ілжы парадней
Былі, аднак жа, мы
Не паслушэнства кадры.

Глыналі крыўдаў ком,—
Не пераможцы ж бою,—
На людзях—маўчаком,
Ды не паміж сабою.

Паклонімся ж зямлі—
Бацькам, што спяць пад крыжам,
Што нам чуццё далі
Падлюгі, стаўшай віжам.

Падпіхвалі ў мех
Між сесій і вакацый,—
Пагардлівы наш смех
Крыў ніцасць правакацый.

Ды моц была віжа:
Няроўная карыда,—
Як па лязе нажа—
Між Сцылай і Харыбдай;

Як па лязе нажа
Нямелі сэрцы маці:

Галгофа без крыжа,
Распяцці без распяцця;

Нібы не ў барацьбе,
Ды і не на каленях:
Экзамен на сябе,
На вернасць і сумленне.

## *Машкара*

Хімбыт працуе нездарма:
Націсну, пырсну раз,
І следу ад цябе няма,
Нямая машкара.

Шкло—чыстае. У шлях—пара.
І далі ўсе відны,
І ў тым, што гіне машкара,
Ні кары, ні віны.

Шуміць асфальт, матор—шуміць,
Пяе наўзбоч жаўрук...
Адмыю шкло, ды не адмыць
Ад хіміі злых рук!..

## *Рэквіем сэрцу*

Ніхто ж нідзе ніяк не браў, не краў,
як гадзіна,
Ні пушчаў, ні лясоў, ні рэк..
Абкрадзены!..
Ні кроквау, падвалінаў, перакладзінаў,
Зярняці, бульбы, кволае рассадзіны,
Ні пеўня, ні ласіны-аграмадзіны,
Ні «Жыгулёў», ні цюбіка памадзіны,—
Абкрадзены, абкрадзены, абкрадзены!..
Ні з ашчадкніжак, ні з-за пазух,
ні з шуфлядзінаў,—
Ні метрамі-аршынамі, ні пядзямі,
Ні ў дождж, ні ў спёку, ні ў мароз
ачадзены—
Абкрадзены, нібы бабыль,
абкрадзены!..
Абкрадзены, і ўцехай і журбою—
Без гаманы, літання і разбою,
Без кленічаў, без яраснага бою,—
Абкрадзены не кімсь, самім сабою!..
І не сабака хоць, не вецер з хіжым
пошчакам,—
Сядай і вый, нібыта над нябожчыкам;
І не бабёр хоць, а з бабрамі
пад адрынамі
Сядай, дакоры лі слязьмі бабрынымі;
І хоць не самаед, рві сэрца тузскае,
Дажры паследам мовы беларускае!..
І хай аплёўвае ўвесь свет цябе
ў сядзьбе,
Хай пальцамі пагардлівымі тыча!..
Ніхто больш, сэрца безгалосае, цябе
На фестывалі моваў не пакліча!..

У кабінеце сядзела чалавек сем—членаў бюро. За сталом, накрытым зялёным сукном, схілўшы кучаравую, пасівелую, бы прыхопленую інеем, галаву, нешта пісаў Акапян. Ён зірнуў на Свідэрскага, кіўнуў яму:

— Праходзьце, таварышы, сядайце. Ну што, Раман Піліпавіч, мароз вас там не памарозіў у Белай Гары?

— У нас цяплей. Мы ж на пятнаццаць кіламетраў на поўдзень,—пажартаваў Свідэрскі, узрадаваны, што Акапян, здаецца, у добрым настроі.

— Праўду кажаш, душа любезны. Белая Гара—бліжэй да маёй Арменіі...

— Трэба туды райцэнтр перанесці. Белагорскі раён—гучыць,—падаў голас упаўнаважаны па нарыхтоўках Жмуроўскі, які сядзеў ля акна на вуліцу поплеч з Пракапенкам.—Белагорская крэпасць, як у Пушкіна.

— Лепей не трэба. А то ў нашых лясах і Пугачоў знойдзецца,—усміхнуўся Пракапенка.

— А Пугачоў некалі быў у Беларусі. Хаваўся ў лесе на Гомельшчыне ад царскіх улад,—аўтарытэтна засведчыў рэдактар газеты, лысаваты мужчына ў акулярах, які сядзеў паблізу Акапяна, за сталом, прыстаўленым упрытык да акапянаўскага. Напроці рэдактара сядзела хударлявая, бледнатварая Гаўрыленка.

Свідэрскі прымасціўся на крэсле ў кутку, побач з ім на краёк стула прысеў Сырадоеў.

— Ну што, таварышы, пачнём?—Акапян зірнуў на Свідэрскага, потым на Сырадоева, затым павярнуў галаву да загадчыка аддзела агітацыі і прапаганды Гаўрыленкі, якая рыхтавала гэтае пытанне.—Давайце, Ніна Пракопаўна, дакладвайце.

Ніна Пракопаўна паднялася, трымаючы канверт з прыколатым да яго лістком са школьнага сшытка.

— У райком паступіла заява з вёскі Хатынічы. Подпіс—грамадзянін Энскі. Па сутнасці—гэта ананімка. Напісаў яе вучань ці вучаніца, бо почырк дзіцячы. Але стыль паперы даволі казённы. Відаць, напісаны пад дыктоўку дарослага...

— Прачытайце заяву,—нецярпліва перапыніў яе Акапян.

Пачуўшы пра заяву, Сырадоеў увесь наструнціўся, падумалася, што паскардзіцца мог Апанас Шкурдзюк, але ж не ён тут вінаваты, а прадагент Драздоў Парфір.

Між тым Гаўрыленка чытала заяву, у якой гаварылася, што фінагент камуніст Сырадоеў Іван Ягоравіч верыць рэлігійным забабонам, нядаўна быў за кума на хрэсьбінах у грамадзянкі Петрачэнкі Пёклы, муж яе прыходзіцца родным пляменнікам былому старасту, нямецкаму прыхвасню Ахрэму Куцаёву, які цяпер сядзіць у турме, што па вёсцы Сырадоеў ходзіць задраўшы галаву—так ганарыцца сваёй формай, што фінагент-партыец часта бывае п'яны і ў такім відзе можа згубіць сумку з казёнымі грашамі...

Сырадоеў пачырванеў, як вараны рак. Чаго-чаго, а гэтага ён не чакаў, бо хрэсьбіны былі яшчэ летась, ужо і забыліся, у глыбіні душы мільганула радасць: пра Вольгу ні слова, і тут жа ўспыхнула і раздражненне, злосць на яе, бо гэта яна, Вольга, угаварыла яго пайсці кумам да сваёй сяброўкі Пёклы. Сырадоеў ёрзаў на стуле, яму хацелася ўсхапіцца, крыкнуць, што гэта няпраўда...

А Свідэрскі наадварот супакоіўся, зразумеў, што яму нічога не пагражае, ну, наківаюць трохі, і нават са зларадствам ён падумаў: «А, даскакаўся, галубок. Цяпер я цябе прыцісну...» Ён рэкамендаваў Сырадоева на пасаду фінагента: хацелася яму, каб быў свой, хатыніцкі чалавек, малады, рухавы, паўплывала і тое, што Іван заляцаўся да пляменніцы Валі. Апошнім часам Свідэрскага злавала, што фінагент быццам бы не хоча парадніцца, не збіраецца ажаніцца з Валяй. Як толькі Гаўрыленка скончыла чытаць, Сырадоеў усхапіўся:

— Таварышы, ета не так было...

— Сядайце, Сырадоеў!—строга сказаў Акапян, і яго густыя чорныя бровы сышліся на пераноссі.—Мы дадзім вам слова... Вы ездзілі правяраць, Ніна Пракопаўна. Усё пацвердзілася?

— Хрэсьбіны былі. Таварыш Сырадоеў у якасці кума...

— Але ж у царкву я не ездзіў!—зноў вытыркнуўся Сырадоеў.

Акапян пагразіў яму пальцам, а Ніна Пракопаўна гаварыла далей:

— Праўда, п'яным Сырадоева ніхто не бачыў. Усе гаварылі пра яго, што ён ветлівы, акуратны, працавіты... І па службе ў яго заўваг няма...

— Усё ў вас, Ніна Пракопаўна? У каго пытанні да таварыша Сырадоева?—Акапян абвёў вачамі членаў бюро і раптам нібы спахапіўся, зірнуў на Свідэрскага:—А дзе ваш парторг сельсавета?

Свідэрскі не чакаў гэтага пытання, не спяшаўся адказваць, і Гаўрыленка апярэдзіла:

— Парторгам у іх завуч Белагорскай школы. Яна хварэе зараз.

— Дык як наконт гарэлкі, таварыш Сырадоеў? — адарваў галаву ад папер рэдактар газеты. — Можа, вы зусім не п'яце? Можа, тут няпраўда напісана?

— Калі сказаць, што зусім не бяру, то і будзе няпраўда,—адкрыта і шчыра сказаў Сырадоеў і ўбачыў, як некаторыя члены бюро заўсміхаліся.—Ну, свята калі якое, госці... Ну, жывыя ж людзі...

— Гэта, канечне, правільна. Усе мы жывыя людзі,—спакойна, нетаропка загаварыў Пракапенка.—Але да камуніста патрабаванні асаблівыя. Вы павінны быць узорам і на службе, і дома. Увогуле ва ўсім жыцці... Дзе вы ўступалі ў партыю? І калі?

— Пад Берлінам. Вясною сорак пятага,—ціха сказаў Сырадоеў і дадаў:—Акурат перад наступленнем.

— І ўзнагароды ў вас ёсць?—зноў спытаў рэдактар газеты.

— Ёсць. Ордэн Славы трэцяй ступені, медалі...

— Вы сказалі, што не былі ў царкве. Вы лічыце, што гэта здымае вашу адказнасць за гэтыя хрэсьбіны?—спытаў упаўнаважаны па нарыхтоўках, Жмуроўскі, кашлянуў у далонь, закінуў нагу на нагу, бліснуўшы новымі хромавымі ботамі.

— У царкве я не быў. Яны там без мяне хрысцілі... А ў хату зайшоў. Прасіла маці малога... Ну, бацька яе загінуў на фронце. Два браты ваявалі...

— А дзядзька мужа быў старастам?—зноў спытаў Жмуроўскі.

— Старастам-то ён быў, але шкоды людзям не рабіў. Невядома, каб другога паставілі каго, мо і горш было б.—Іван сказаў гэта з упэўненасцю, рэдактар падняў галаву і пільна зірнуў на яго. Гэты позірк і стрымаў Івана, каб не дадаць, што і яго выратаваў былы староста, інакшай паліцай Варонін прыкончыў бы, замест гэтага ён сказаў:—Старасту ж не расстралялі. Людзі ўсе за яго...

— Ну, таварыш Сырадоеў, вы зараз пачняце тут усіх паліцаяў, усіх нямецкіх прыслужнікаў апраўдваць,—жорстка сказаў Акапян.—Вам было пытанне, як вы самі расцэньваеце свой учынак?

— Я лічу, што паступіў няправільна. Ну, як вам сказаць? Не падумаў... Па нявопытнасці,—чырванеў, заікаўся, бы школьнік, Сырадоеў.—Болей такога не будзе...

— Будзем лічыць, што вы асазналі сваю памылку. І ўсё ж вы заслугоўваеце суровага пакарання,—Акапян зірнуў на гадзіннік.—У каго якія прапановы?

— Дайце мне слова,—падняўся Чэпікаў, загадчык райфа, які дагэтуль маўчаў, як вады ў рот набраўшы. —Прашу мяне зразумець правільна. Не думайце, што я кідаюся абараняць свайго падначаленага, ці абараняю гонар мундзіра. Але я павінен сказаць, што таварыш Сырадоеў—адзін з лепшых нашых работнікаў. Энергічны, патрабавальны. За кароткі час навёў парадак у Белагорскім сельсавеце. Цяпер там няма нядоімшчыкаў, сельсавет датэрмінова выканаў план. Сырадоеў мае ўзнагароды, баявы ордэн...

— Тое, што сельсавет выканаў план, заслуга не толькі фінагента,—перапыніў Чэпікава Акапян.

Свідэрскі з удзячнасцю зірнуў на першага сакратара райкома, бо лічыў, што яго заслуга ў выкананні плана большая, чымся фінагента. Ён згадаў той далёкі вечар, калі выступаў на калгасным сходзе і як пасля таго Акапян папрасіў яго зайсці ў райком, прапанаваў выбраць Свідэрскага старшынёй сельсавета.

— Я згодзен, што гэта заслуга членаў выканкома, старшынь калгасаў, дэпутатаў сельсавета. Але калі б план быў не выкананы, то ў першую чаргу мы б спыталі з фінагента і пакаралі б яго. Значыць, калі ёсць поспехі, то і хваліць...

— Сцяпан Ігнатавіч, душа любезны, мы выклікалі сюды таварыша Сырадоева не для таго, каб хваліць,—павысіў голас Акапян.

— Я разумею гэта, Сяргей Хачатуравіч. Але і караць на падставе дзіцячай ананімкі... Мы будзем пладзіць ананімшчыкаў,—Чэпікаў свядома зрабіў упор на ананімшчыкаў, бо помніў, што і сам Акапян атрымаў некалі вымову за аднаўленне Дома культуры пасля ананімкі.

— Што вы прапануеце? Якое пакаранне?—нецярпліва спытаў Акапян.

— Гэта хай вырашаюць члены бюро.

— Ну, а ваша думка як непасрэднага кіраўніка таварыша Сырадоева?

— Думаю, што вымову трэба даць,—развёў рукамі Чэпікаў, маўляў, нічога не папішаш, вінават...

— Дазвольце мне,—апіраючыся на кульбу, падняўся Даўгалёў.

— Яшчэ адзін адвакат,—усміхнуўся Акапян.—Слухаем вас, Міхаіл Касьянавіч, давай, душа любезны...

— Я не збіраюся абараняць і хваліць таварыша Сырадоева. Але я таксама родам з Хатыніч. Ведаю іхнюю сям'ю і яго помню, калі ён без портак бегаў. Вымову за гэтыя хрэсьбіны яму, канечне, трэба даць. Але на гэты выпадак варта паглядзець, як на сігнал трывогі, што нам трэба палепшыць атэістычную работу. Бібліятэкі і хаты-чытальні вельмі рэдка і някваліфікавана займаюцца такой прапагандай. Ну, мяркуйце самі, якая-небудзь дзяўчынка пасля школы... Што яна можа? Выдаць і прыняць кнігу. А ў царкве служэнне... Уявіце сабе Саковіцкі сабор. Велічная будыніна. Поп, які скончыў духоўную семінарыю, хор пеўчых. Тут цэлы спектакль, добра пастаўлены. У ім усё прадумана, стагоддзямі адпрацавана...

Акапян слухаў Даўгалёва і зноў падумаў са шкадаваннем: дарэмна не настояў тады, каб выбраць Даўгалёва сакратаром райкома па ідэалогіі, паслухаўся Пракапенкі і Лугаўцова. Ён, канечне, на месцы і як намеснік старшыні райвыканкома: і культура, і асвета ў ягоных руках, але такога работніка варта мець у райкоме.

Потым выступала Азарава. Яна нібы адчула думкі Акапяна і таксама гаварыла аб паляпшэнні атэістычнай і ўсёй ідэалагічнай работы, што царква актывізуе сваю дзейнасць, што на ўсяночную ў Саковічы ідуць з усёй акругі, гаварыла аб ролі сельскіх інтэлігентаў, асабліва настаўнікаў у асветніцкай рабоце, аб вучобе кадраў, што і Сырадоеву пажадана вучыцца, раіла паступіць завочна ў тэхнікум...

— Ну што, будзем заканчваць, таварышы? А то зацягнулася наша пасяджэнне,—рашуча сказаў Акапян. —Значыць, ёсць прапанова аб'явіць таварышу Сырадоеву вымову. Другіх прапаноў няма?

— Я лічу, што трэба аб'явіць суровую вымову,—рэдактар газеты папраўіў акуляры і дадаў:—А то мы тут спіхнулі на актыўнасць царквы, на розныя аб'ектыўныя фактары. А дзе актыўнасць камуніста? Яго персанальная адказнасць, ідэйная перакананасць?

— Слушная прапанова,—ухваліў Акапян.—Тады галасуем. Хто за тое, каб аб'явіць таварышу Сырадоеву суровую вымову і запісаць яе ў картку, прашу галасаваць,—і сам падняў руку...

*Надзённая размова*

# Памяркуем разам...

«ТРЫ НЕБЯСПЕКІ знішчэння чалавецтва існуюць сёння ў свеце — ядзерная, экалагічная і небяспека, звязаная з разбурэннем культуры. Пры ядзернай — пагібель наступае ўмомант, пры экалагічнай — пакутліва, калі бацькі атрымліваюць магчымасць назіраць, як нараджаюцца дзеці, усё менш і менш падобныя да людзей. Пры бескультурнай — калі маральная дэградацыя прыводзіць да грамадства дзікуноў, якія не захочуць трываць адно аднаго...» — піша Валянцін Распуцін. Міжволі задумваешся, учытваючыся ў гэтыя радкі: ці ўсё зроблена намі, вялікімі і малымі служыцелямі Музы (і, чаго грэх утойваць, — табою асабіста, які сціплы ні быў бы твой уклад у мастацтва), каб адвесці гэтую пагрозу не толькі ад свайго парога, а ўвогуле — ад дома, імя якому — Зямля...

**Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў гаварыў пра неабходнасць сцвярджаць у свеце такую маральную атмасферу, пры якой гонка ўзбраенняў, канфрантацыя і нагнятанне ваеннай небяспекі, мілітарызацыя грамадства і грамадскай свядомасці будуць, безумоўна, успрымацца як выклік сусветнай садружнасці, самім асновам сучаснай цывілізацыі, як замах на асноўнае права чалавека — права на жыццё. Гэтыя думкі як ніколі актуальныя менавіта цяпер, калі мы вітаем канвенцыю ЮНЕСКА «Аб ахове сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны», калі актыўную падтрымку з боку СССР атрымала ініцыятыва ЮНЕСКА, што аб'явіла сусветнае дзесяцігоддзе культуры, калі з асаблівай вастрынёй паўстае пытанне пра «адзіную экалогію духоўнасці, маралі і інтэлекту».**

НАКОЛЬКІ ж наша творчая арганізацыя ва ўмовах перабудовы, галоснасці і дэмакратыі адпавядае гэтым высокім прынцыпам палітыкі нашай партыі і дзяржавы? Якім павінен быць маральна-этычны статус асобы мастака, здольнага ў сваёй працы ўвасобіць тое «нямногае», дзеля якога ёсць сэнс жыць?

Мае рацыю Васіль Быкаў: самае страшнае — адабраць памяць у народа. У майго народа ёсць гэтая памяць і мой «родны кут» не пусты на імёны, якімі можа ганарыцца. Ваенная тэматыка вогненнай паходняй Незабыўнага асвятліла партытуры беларускіх кампазітараў усіх пакаленняў, выклікаўшы незвычайны ўзлёт і адухоўленасць творчай думкі. Тым больш невытлумачальнай здаецца тая антытворчая «генерал-паўза», якая павісла ў апошнія гады над духоўна-інтэлектуальным мікракліматам нашай кампазітарскай арганізацыі. Балюча гаварыць пра гэта, маючы «за плячамі» Саюза кампазітараў БССР саліdны паўвекавы этап развіцця. Але і маўчаць нельга, тым больш цяпер, у час галоснасці.

Пра нашы нягоды шмат гаварылася і пісалася (значна менш было спраў!) — з трыбуны з'ездаў і пленумаў СК БССР, у рэспубліканскім і саюзным друку. Канечне, было б неразумным перабольшваць маштабы тых ці іншых адмоўных з'яў, чаго б яны ні датычыліся, але, па-мойму, было б яшчэ больш неразумна не зважаць на іх увогуле...

Сёння вельмі трывожаць (прынамсі, мяне) стан музычнага выхавання і асветы; складанасць разумення масавай музычнай культуры, перадусім рок-музыкі з пункту гледжання яго ідэйна-выхаваўчых функцый; пытанні, звязаныя з прапагандай сур'ёзнай музыкі і г. д.

Асабліва вострая праблема оперна-балетнага тэатра. Артыкул Я. Глебава «Спроба быць шчаслівым» («ЛіМ» за 28.10.88 г.) у досыць завостранай форме пазначае праблемы Дзяржаўнага тэатра оперы і балета і Дзяржаўнага тэатра музычнай камеды БССР у галіне беларускага нацыянальнага рэпертуару. Побач можна паставіць і такое пытанне: ці ж толькі кіраўніцтва згаданых музычна-тэатральных калектываў вылучаецца «шырынёй і адзінствам» поглядаў на адметнасць нашага мастацтва? Ці ж, дапусцім, фестываль мастацтваў «Беларуская музычная восень» цалкам пацвярджае сваё імя?

**У Мінску пад час гэтага фестывалю гучыць музыка розных народаў, але толькі не беларускага (хоць у філарманічных канцэртах бяруць удзел і выканаўчыя сілы нашай рэспублікі). Не першы год праўленне Саюза кампазітараў БССР дарэмна спрабуе адстаяць свае правы ў гэтым фестывалі, звяртаючыся ў Міністэрства культуры БССР, якому падпарадкавана рэспубліканская філармонія. Ні для каго ж не сакрэт, што канцэртная праграма музычнага фестывалю «Мінская вясна» не здатна ўключыць у сябе ўсе новыя опусы сучасных беларускіх аўтараў, тым больш, што ў апошні час, на мой погляд, намячаецца тэндэнцыя (з боку кіраўніцтва філармоніі) скараціць і гэтую адзіную для такога шырокага паказу беларускую праграму, далучыўшы, зноў жа, музыку нашых гасцей. Тым больш, чаму б не ўвесці ў восеньскую фестывальную афішу творы тых беларускіх кампазітараў, якія не прагучалі ўвесну?**

ЁСЦЬ ЯШЧЭ АДЗІН аспект прапаганды беларускай музыкі, які таксама выклікае пытанне: а ці заўсёды кампазітар ідзе насустрач музыканту-выканаўцу? Часам нават не ўспадзе на думку — які нязручны для выканання той альбо іншы опус, хоць ён і добра гучыць на фартэпіяннай клавіятуры, але зусім не прыдатны для ўзнаўлення, па чыста тэхнічных прычынах, на духавым, струнным ці народным інструменце!

**Прыгадваю сваю працу над інструментальнай сюітай «Дафніс і Хлоя» для габоя сола. Яе можна назваць супольнай, разам з выканаўцам, салістам Дзяржаўнага камернага аркестра БССР А. Прыходзькам — настолькі сталіся карыснымі і павучальнымі заўвагі вопытнага музыканта!**

**А ці часта мы задумваемся пра тыя цяжкасці ў справе прапаганды беларускай музыкі, з якімі сутыкаюцца нашы выканаўцы? Чаму б не наладзіць спецыяльны музычны форум, намаганнямі СК БССР пры падтрымцы Міністэрства культуры рэспублікі, па праблемах музычнага выканальніцтва ў галіне прапаганды беларускага мастацтва? Было б, думаю, не лішне абмяняцца думкамі за «круглым сталом», выслухаць заўвагі і пажаданні выканаўцаў, тут жа аформіць шэраг заказаў-дагавораў на напісанне асабліва дэфіцытнага музычнага рэпертуару (і не толькі для музычных калектываў, а і для канкрэтных салістаў-канцэртантаў).**

Пажадана, каб у гастрольнай праграме выканаўцаў былі творы кампазітараў той рэспублікі, якую музыкант прадстаўляе. Гэта ведаюць і ў нас. Ды, на жаль, не заўсёды знаходзіцца такі твор. Што рабіць, напрыклад, вядомаму ўжо не толькі ў Беларусі арганісту К. Шараву? Нашы ж кампазітары не пішуць для аргана, і ўсё! Даволі дзіўным падаецца такое стаўленне беларускіх аўтараў да аргана, гэтага сапраўды цудоўнага інструмента! І гэта пры наяўнасці даўняй арганнай культуры, асабліва ў заходняй частцы Беларусі; пры наяўнасці такіх «арганных пунктаў», як Сафійскі сабор у Полацку, касцёл Святога Роха — камерная зала філармоніі на Залатой горцы ў Мінску. (Дарэчы, зала арганнай музыкі можа быць абсталяваная і ў Верхнім горадзе ці ў царкве на Нямізе, дзе зараз месціцца Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР). Я ўжо не кажу пра арган у канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

Арганная музычная літаратура нашых калег з прыбалтыйскіх рэспублік (не ў прыклад нам!) такая багатая і разнастайная. Відаць, там ёсць духоўная патрэба звяртацца да гэтага надзвычай магутнага і шматфарбнага па гучанні інструмента. Застаецца спадзявацца, што канцэртны рэпертуар такога цудоўнага музыканта-выканаўцы, як К. Шараў, папоўняць адметныя творы і нашых кампазітараў.

У той жа час не магу не ўспомніць творчую ініцыятыву М. Крывашэева, таленавітага і працавітага музыканта-кантрабасіста Акадэмічнага сімфанічнага аркестра БССР. Дзякуючы гэтай ініцыятыве, у сумеснай нашай працы была напісана Саната для кантрабаса сола «Слуцкія пісьмёны». З ёю на леташні Усесаюзны конкурс кантрабасістаў паехаў вучань М. Крывашэева — кантрабасіст Дзяржаўнага камернага аркестра БССР У. Байдаў.

АСАБЛІВАЙ УВАГІ вымагае «маладзёжнае» пытанне ў СК БССР. Ці лёгка кампазітару да 35 гадоў (я ўжо не кажу — музыказнаўцу!), члену СК БССР, «выбіцца ў людзі», калі ў маладога аўтара фактычна няма магчымасці нават «чуць сябе», г. зн. свае работы? Фінансаванне (з боку СК БССР) такіх праслухоўванняў (якія, дарэчы, прадугледжаны статутам СК СССР) крайне беднае, а ў апошні час (у сувязі з фінансавымі цяжкасцямі) увогуле прыпынілася.

**З другога боку, ці можна гаварыць пра творчы рост маладога (і не толькі!) члена саюза, калі ён ізаляваны як ад замежных паездак на міжнародныя музычныя фестывалі (практыка апошніх гадоў паказала, што такія камандзіроўкі за свой кошт не па кішэні не толькі маладым!), так і ад больш кароткіх унутрысаюзных вандровак? А ўсё таму, што камандзіровачныя сродкі, якія адпускаюцца Беларускаму аддзяленню Музфонду (па лініі Музфонду СССР), не павялічваюцца адпаведна з колькасным ростам членаў СК БССР.**

**Ёсць і праблема стымулявання творчых пошукаў і актывізацыі музычна-грамадскага жыцця творчай моладзі нашага саюза. Чаму б кіраўніцтву СК БССР пры падтрымцы Міністэрства культуры, іншых кіруючых органаў культуры не прапанаваць такую форму заахвочвання (што існуе пры Фондзе культуры СССР), як стыпендыяцтва найбольш перспектыўных і творча таленавітых маладых кампазітараў, сярод якіх ёсць яркія, шматабяцаючыя таленты: А. Бандарэнка і В. Кузняцоў, А. Елісеенкаў і У. Кур'ян, крыху старэйшы ад іх У. Солтан? Ці варта згадваць тут і пра тое, што быў толькі адзіны выпадак за ўсю гісторыю Саюза кампазітараў БССР, калі было нададзена высокае званне заслужанага дзеяча мастацтваў рэспублікі кампазітару ў маладым узросце (28-гадоваму А. Багатырову ў 1941 годзе!).**

Хочацца спадзявацца, што закранутыя пытанні будуць вырашацца разам, сумеснымі намаганнямі Саюза кампазітараў і Міністэрства культуры БССР пры актыўным удзеле партыйнага кіраўніцтва.

**Людміла ШЛЕГ,**
**член праўлення**
**Саюза кампазітараў БССР.**

*Кіно*

# СЕЗОН ЦЯЖКІХ УСХОДАЎ

**Рэспубліканскі «кінамарафон», які адбыўся ў канцы красавіка, уразіў бязлюддзем глядзельнай залы Дома кінематаграфістаў. На заключнай канферэнцыі было значна больш членаў разнастайных журы, якія прадстаўлялі прафесіяналаў, гледачоў, кінапракатныя арганізацыі, чым творчых работнікаў нашай кінастудыі...**

Чарговы—XVII па ліку—агляд-конкурс, якім звычайна завяршаецца каляндарны год на кінастудыі «Беларусьфільм», адкладаўся некалькі разоў. Ужо прайшлі на масавым экране многія мастацкія і дакументальныя фільмы, кінематаграфісты распачалі рэалізацыю новых творчых планаў, а пытанне наконт правядзення агляду заставалася адкрытым. Адчувалася, што страсці, якія кіпелі вакол праблем беларускага кіно ўвесь мінулы год, не аціхлі. Агляд з'явіўся па сутнасці працягам прынцыповых спрэчак, толькі ўжо не ў «жанры» папрокаў і абвінавачанняў, а з аргументамі-фільмамі.

Што ж адбываецца ў нашым кінематографе? Ці бясконцыя спрэчкі на шматлікіх пасяджэннях, сходах, нарадах так стамілі кінематаграфістаў, што яны рады кожнай магчымасці не сустракацца адзін з адным? Ці вырашылі прыберагчы сілы для дыскусіі з больш высокай трыбуны? Тады навошта трэба было траціць гэтулькі сродкаў, каб у прафесійнае журы запрасіць гасцей—кінематаграфістаў суседніх рэспублік?

Магчыма, ёсць тут і іншая прычына—пачуццё незадаволенасці зробленым, адчуванне, што не ўдалося належным чынам адлюстраваць у мастацтве новы час, заявіць важкія тэмы, стварыць яркія экранныя вобразы?..

Агрэсіўны настрой, які неўпрыкмет запанаваў на кінастудыі «Беларусьфільм», здаецца, вызначае сёння адносіны не толькі паміж асобамі і групамі, але і паміж творцамі і... мастацтвам. «Апаратнай» хваробай, як выявілася, пакутуюць не толькі чыноўнікі, але і людзі творчыя. Чым даводзіцца ахвяраваць, калі гэта цягнецца не год і не два, таксама вядома мастакам. Зрэшты, пра гэты аспект жыцця нашага беларускага кіно ў розных танальнасцях напісана ўжо нямала...

Баюся, аднак, што і ў цэнтральным, і ў рэспубліканскім друку не сказалі яшчэ пра галоўнае: якімі незваротнымі стратамі абярнуліся для беларускага кіно гады застою, колькі губляецца нашым кінематографам ужо сёння.

З асаблівай вастрынёй гэта бачыш у абліччы сучаснай нашай экраннай публіцыстыкі—чулым барометры творчага клімату. Здавалася б, дэмакратызацыя і галоснасць адкрылі перад кінематаграфістамі такую прастору, пра якую толькі марылася. Але з горыччу даводзіцца канстатаваць, што крызіс дакументальнага кіно, пра якое ў пачатку перабудовы мы загаварылі адкрыта, аказаўся значна глыбейшы, чым падазравалі самыя прынцыповыя з нас.

Будучыя гісторыкі кіно, дастаўшы з архіва нашы сённяшнія фільмы, перш за ўсё, відаць, здзівяцца, убачыўшы бесхарактарных герояў без унутранай—адмоўнай ці станоўчай—энергіі, жывой іскры; спрошчаныя сацыяльныя сітуацыі—без другога плана, без аналітычнай глыбіні. Такой анемічнай убачана сучаснасць у фільмах мінулага года: «Гэтыя незразумелыя старыя людзі» — пра старога бальшавіка Арэхву (рэжысёры П. і І. Пікманы), «Пачасавікі»—аб праблемах «наменклатуры» (рэжысёр В. Сіпягін), «Без канспекта» — пра канфлікт у Віцебскім тэхналагічным інстытуце (рэжысёр В. Цяслюк), «Пасля апладысментаў» (рэжысёр Ю. Аксанчанка)

*На музычнай сцэне*

# СВЯТЛО КЛАСІКІ

**Справаздачны канцэрт**

**Беларускага харэаграфічнага вучылішча**

**Гэтыя канцэрты, што звычайна адбываюцца вясной, у канцы мая, заўсёды маюць сваю аўдыторыю, досыць падрыхтаваную і зацікаўленую. Гэтыя канцэрты — заўсёды свята. Свята музыкі, танца, маладосці. Свята, якое ствараюць хвіліны душэўнага ўздыму і прасветленасці. І не толькі таму, што на сцэне, як гавораць у такіх выпадках, «юныя таленты».**

**Сёлетні справаздачны канцэрт Беларускага харэаграфічнага вучылішча, які адбыўся нядаўна на сцэне Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР, меў свае асаблівасці.**

**Па-першае, шмат нумароў выконвалася ў суправаджэнні аркестра тэатра. Пагадзіцеся, гэта зусім розныя рэчы: фанаграма, акампанемент раяля і жывое гучанне аркестра. Імкненне педагогаў наблізіць умовы выступлення сваіх выхаванцаў да ўмоў сапраўднага тэатральнага спектакля заслугоўвае ўсялякай падтрымкі.**

**Па-другое, у праграме гэтага года, як ніколі, шмат танцавальных нумароў масавых, групавых, якія вымагаюць дакладнага выканання сцэнічнага малюнка, сінхроннасці, «вывучкі». Зразумела, што за кожным такім выступленнем стаіць вялікая і старанная праца выкладчыкаў. Рамантычнае, настраёвае «Скерца» на музыку Ф. Мендэльсона, строгая па малюнку, стрыманая ў пачуццях «Пасакалія» Г. Гендэля, паэтычнае «Запрашэнне да танца» К. Вебера, пяшчотны «Вальс» на музыку Ф. Шапэна, мазурка і паланез з балета Л. Мінкуса «Пахіта», — усе гэтыя нумары можна аднесці да «абавязковай» праграмы, «школы», калі ўжыць тэрмін фігурнага катання. Відаць, не варта патрабаваць ад выканаўцаў у такіх выпадках вялікіх мастацкіх адкрыццяў, тут задачы больш сціплыя — свабоднае валоданне харэаграфічным тэкстам, тэхнічная чысці-**

—аб скарачэнні штатаў у міністэрствах і ведамствах.

У гэты нярадасны шэраг станнуць перад нашчадкамі і стужкі пра людзей, чый асабісты ўклад у гісторыю і культуру беларускага народа агульнапрызнаны. Але гэтыя людзі не натхнілі кінематаграфістаў ісці далей за сумленную фіксацыю фактаў асобных біяграфій. Аб гэтым сведчаць стужкі: «Куфэрак старажытнасцей» В. Моракавай—пра беларускага гісторыка XIX стагоддзя Д. Струкава, «Адам і Марыля» Ю. Марухіна—штрыхі жыцця А. Міцкевіча, «Цішка Гартны» і «Быў, ёсць буду» (пра У. Караткевіча) Ю. Цвяткова, «Язэп Драздовіч» С. Гайдука...

Дакументалістам, відавочна, замінае рацыяналістычнасць у падыходзе да матэрыялу: загадзя ясна, што ва ўмовах інфармацыйнай «смагі» кожная такая тэма можа стаць выбуховай. Знаёмы почырк. Успомнім нашы звыклыя дэфініцыі дакументальнага кіно: падзейныя, праблемны, канфліктны, сацыяльны, гістарычны і іншыя «віды» і «разнавіднасці». Дакладны пратакол, расклад цягнікоў у дзень учарашні.

Не стану тут разважаць пра тое, на якім этапе сапраўдны сэнс паняцця «публіцыстычнасць» пачаў атаясамлівацца з «сацыяльнасцю». У абодвух выпадках гэта азначае—грамадскі, грамадзянскі. З той розніцай, што ў першым—для грамадства, для людзей, з мэтай служэння ім. Розніца гэтая інтуітыўна ўлоўліваецца ў сучасным дакументальным кіно, і но імкліва паварочваецца ў лепшых сваіх узорах насустрач чалавеку і агульначалавечаму.

У сувязі з гэтым мне ўяўляюцца надзвычай важнымі і важкімі фільмы «Боль» рэжысёра С. Лук'янчыкава, «Не плачце па мне» А. Алая, «Вяртанне ў дзесяты «А» В. Сукманава і Р. Ясінскага, «Пейзаж пасля бітвы» У. Дашука і «Тэатр часоў перабудовы і галоснасці» А. Рудэрмана. Апошні фармальна не існуе, але ён ужо атрымаў пэўную аўдыторыю і грамадскі рэзананс, і выключыць яго з кінематаграфічнага працэсу нельга.

Што характэрна для гэтых работ, выкананых на розных якасных узроўнях? Спроба пранікнуць у псіхалагічную падапёку жыццёвых з'яў.

Калі ў фільме «Боль» свяшчэннік Віктар Радамысленскі гаворыць пра наша «аперэтачнае жыццё», у якім «свечка жыцця чалавечага» згарае ўдаечыні ад роднага дома на голых камянях Афганістана, і я бачыў ледзь не страціўшых ад гора розум мацярок, якім наканавана лёсам перажыць сваіх сыноў, я думаю не толькі аб тым, каб гэты кашмар больш не паўтарыўся. «Правалы» ў нашай агульнай духоўнасці зрабілі нас духоўна чэрствымі, і тэндэнцыя гэтая жывучая. Зусім нядаўна—увосень мінулага года—у маскоўскім кінатэатры «Зараддзе» прагучаў на абмеркаванні гэтага фільма голас адказнага вайскоўца: «Плач гэтых няшчасных жанчын—гэта яшчэ не думка народа. А сам фільм шкодна ўплывае на ваенна-патрыятычнае выхаванне моладзі!» Цяпер вайна ў Афганістане—гісторыя, якая паступова ідзе ў мінулае. Але той афіцэр прадаўжае недзе выхоўваць моладзь...

На абмеркаванні фільма «Не плачце па мне» рабілася трывожна ад таго, як многа слоў патрацілі крытыкі на высвятленне праблемы: «кіч» альбо не «кіч» мастацтва мастака-самавучкі А. Ісачова. І мала хто гаварыў аб тым, што рэжысёр імкнуўся раскрыць драму чалавечага жыцця, дарэмна страчаных кароткіх гадоў, адпушчаных лёсам. І ўжо зусім выпала з поля зроку лінія трагічнай віны маці перад сынам, слепа ўпэўненай у тым, што пасмяротная персанальная выстаўка — гэта і ёсць тое шчасце, якога яна чакала ўсё сваё жыццё. На мой погляд, фільму не хапае не вызначэння якасці жывапісу, а чысціні псіхалагічнага аналізу—камера збіваецца на хроніку, рэпартаж, агрубляючы такую далікатную матэрыю.

З гэтага ж пункту гляджу і на карціну А. Рудэрмана. абвінавачанага ў парушэнні прафесійнай этыкі ў адносінах да аднаго з персанажаў—А. Петрашкевіча. Працягваючы этычную тэму, чаму б не распаўсюдзіць яе на другі вобраз—І. Шалянкову?. Мараль жа «сей сатиры» ў тым, каб абараніць слабага, аднавіць у правах чалавека, несправядліва зволненага з пасады. І, дарэчы, калі ўжо гаворка ідзе аб прафесіяналізме, то ніхто нават не ўспамінае, што менавіта метад, якім зроблена гэтая стужка, пашырае жанравыя і псіхалагічныя магчымасці кінапубліцыстыкі. Вось бы і разабрацца, дзе захавана мастацкая мера, а дзе парушана.

Несумненна, што названыя работы сур'ёзна прэтэндуюць на аднаўленне страчанай нашым дакументальным кінематографам здольнасці да мастацкай вобразнасці. Хай даруюць творцы, але сёння мала хто з іх валодае на практыцы метадамі аналізу псіхалагічнага стану чалавека. «Скорбное бесчувствие» застою і тут адыграла сваю ракавую ролю. Слых на індывідуальны тон асобы, на душэўны лад рэальнага характару прытупіўся.

Аднак і ў наш кінематограф прыйшло, нарэшце, разуменне, што аднымі «радыёфільмамі» цяпер не пражывеш. Вось і малады У. Дашук спрабуе працаваць у кінастылістыцы сучаснай. Размаўляючы з пажылымі жыхарамі гомельскага Палесся, увайшоўшага ў чарнобыльскую зону адсялення, малады рэжысёр пільна ўглядаецца ў іх твары, услухоўваецца ў іх нетаропкую гаворку, каб узняцца над праслаўтымі «сацыяльнымі абставінамі» да вечных праблем жыцця і смерці, дабра і зла. Але пакуль што тут не хапае той дакладнай грані, за якой спроба абагульнення перарастае ў мастацкі вобраз.

Так, з цяжкасцю ідзе наша дакументалістыка да сапраўднай публіцыстычнасці, з цяжкасцю ўвага толькі да тэмы змяняецца ўвагай да чалавека. Але толькі рэальнае жыццё рэальнага чалавека — безумоўны прадмет дакументалістыкі, без якой няпоўнай застаецца духоўная культура сучаснага грамадства.

Нам застаецца толькі засмучацца, што прасвятленне ў нашым кінематографе адбываецца больш марудна, чым гэта неабходна для маральнага, духоўнага аздараўлення рэспублікі. Але яно ідзе, пласт за пластом пераварочваюць дагэтуль нявораны цаліну, выкідваючы на мяжу пустазелле, засеяныя застоем бясплодныя зярняты. Што чакае нас на гэтай ніве?

Відаць, як ніколі раней, велізарную дапамогу беларускаму дакументальнаму кіно прынёс бы доўгачаканы кантакт з гледачом, які і дагэтуль пазбаўлены магчымасці сістэматычна знаёміцца з прадукцыяй нашых дакументалістаў. На вырашэнне гэтай праблемы і варта было б накіраваць арганізацыйныя намаганні кінастудыі «Беларусьфільм» і Саюза кінематаграфістаў рэспублікі. Паказаныя шырока на вялікім і малым экране, нашы публіцыстычныя фільмы адразу выявілі б свае моцныя і слабыя бакі, а сама студыя мела б рэальны шанц адмовіць бяздарнасцям, кан'юнктуршчыкам, выпадковым людзям у кінематографе. Пазбаўленаму такога аб'ектыўнага ўспрымання, дакументальнаму кіно пагражае небяспека застацца ў вакууме абыякавасці.

Ніна **ФРАЛЬЦОВА.**

**ня, эмацыянальнасць выканання.**

**Найбольш яскравыя ўражанні канцэрта — народны танец «Мініта»—вынаходлівы, мажорны; дасціпная, гарэзная полька «Топ-топ» на музыку І. Дунаеўскага; тэмпераментны, імклівы танец баскаў з балета «Полымя Парыжа», які досыць рэдка выконваецца ў канцэртах, але перш за ўсё — кранальна-пяшчотная, пранікнёная «Перапёлачка», пастаўленая вядомым беларускім танцоўшчыкам С. Дрэчыным на музыку народнай песні і выкананая навучэнцамі старэйшых курсаў. Больш бы ў канцэртах такіх нумароў! У арганічным сплаве народнага і класічнага танца нараджаецца харэаграфічны вобраз узвышаны, рамантычны, унутрана значны. Вобраз прыроды, жанчыны, радзімы...**

**Так ужо атрымалася, што некалькі апошніх канцэртаў вучылішча былі не надта багатыя на яркія выступленні выпускнікоў і вучняў передвыпускных класаў. Сёлета ж — надзіва багаты «ўраджай» талентаў. Шэраг танцавальных мініяцюр і ўрыўкаў з класічных балетаў, выкананых будучымі балерынамі і танцоўшчыкамі, можна смела ўключаць у канцэртную праграму тэатра. Упэўнена, свабодна адчуваюць сябе ў стыхіі танца Д. Лапкоўская, А. Мартынкевіч і В. Пятроўскі, навучэнцы II курса, якія выконвалі па-дэ-труа з «Лебядзінага возера». Экспрэсіяй пластыкі ўразіў А. Іваноў у сучасным харэаграфічным нумары на музыку А. Анегера. Палётны танец А. Архіпава як нельга лепей адпавядаў харэаграфіі «Гапака» на музыку В. Салаўёва-Сядога. Вытанчанасцю карункавага танцавальнага малюнка, зладжанасцю прывабілі саліст тэатра А. Фурман і навучэнка II курса К. Петухова ў па-дэ-дэ Блакітнай птушкі і прынцэсы Фларыны, са «Спячай красуні».**



Танец «Беларускі сувенір» у выкананні выпускнікоў вучылішча.

**Шкада, але часам здаралася ў канцэрце і так, што знешнія, сцэнічныя дадзеныя будучага артыста — а ў балеце гэта важна, як нідзе! — «разбуралі» вобраз (да прыкладу, па-дэ-дэ з балета «Полымя Парыжа», нумар «Тры іспанкі» на музыку дэ Фальі). У такім выпадку пра стварэнне харэаграфічнага вобраза, выканаўчую адметнасць гаварыць не варта.**

**Сапраўдная эмацыянальная дамінанта сёлетняга канцэрта — па-дэ-дэ з «Вальпургіевай ночы» Ш. Гуно, выкананае салістам тэатра А. Карзянковым і выпускніцай Э. Рыбалтоўскай. Ужо некалькі сезонаў выступае А. Карзянкоў у трупе тэатра, таму зразумелая ўпэўненасць, з якой ён трымаецца на сцэне. Да таго ж, глядач пераканаўся, якім плённым бывае для артыста адпаведнасць партыі яго індывідуальнасці. Тэмперамент, экспрэсія, яскрава выяўленая характарнасць ролі надзвычай блізкія выканаўчай манеры А. Карзянкова. Пазбаўлены вучнёўскай скаванасці і танец Э. Рыбалтоўскай, яго партнёркі. На сцэне — сапраўдная Вакханка, па-жаночы прывабная, гарачая, «з сонцам у крыві»...**

**У наша трывожнае стагоддзе, у час ломкі стэрэатыпаў мыслення і ацэнак, ломкі, якая заўсёды суправаджае рэвалюцыйныя змены ў грамадстве, глядач нязменны ў любові і прыхільнасці да класічнага мастацтва. Сваёй гармоніяй, яснасцю, аптымізмам светаўспрымання яно дорыць гледачу адчуванне трываласці, непахіснасці быцця. І калі вучнёўскі канцэрт выклікае гэткія меркаванні, значыць, варты ён добрага слова і сур'ёзнай ацэнкі.**

**Т. МУШЫНСКАЯ.**
Фота Ул. КРУКА.

# БУДЗЕМ ПОМНІЦЬ...



**Да 100-годдзя з дня нараджэння народнага артыста БССР Генрыха ГРЫГОНІСА**

У 20-Я ГАДЫ газеты поўніліся такімі радкамі: «... Ну, у Грыгоніса ж талент, як і заўсёды, крыштальваў ігру...»; «... Даў добрую ігру Грыгоніс»; «Камедыйныя здольнасці яго бясспрэчныя»; «У наступны дзень білеты на «Машэку» браліся з бою, а к вечару быў аншлаг. Пасля кожнага акта зала грымела ад воплескаў. У канцы ж спектакля не сціхалі галасы: «Грыгоніс!», «Міровіча!»...

Дваццатыя гады падаюцца нам сёння такімі далёкімі, што многае з падзей тых часоў не дзіўна і забыць. Што-што, а забываць мы ўмеем. І таму, калі б не было традыцыі (хай сабе часам з адзнакай фармальнасці) адзначаць юбілейныя даты, яе патрэбна было б выдумаць. Бо менавіта ў такі дзень мы ўспамінаем пра нашых знакамітых мастацкіх, навуковых, культурных дзеячаў. Успамінаем і ганарымся, што маем глебу, карані, вытокі...

На календары нашай памяці —стагоддзе з дня нараджэння вядомага акцёра, аднаго з пачынальнікаў славутай кагорты купалаўцаў, Генрыха Юр'евіча Грыгоніса. Адмысловага мастака і надзвычай сціплага чалавека, інтэлігента—дэмакратычнага, душэўнага. Акрамя першага кіраўніка Беларускага тэатра Ф. П. Ждановіча, які меў спецыяльную падрыхтоўку (скончыў акцёрскую школу), толькі Генрых Юр'евіч быў на той час прафесіяналам. За яго плячыма шматгадовая праца ў вядомых тэатральных антрэпрызах І. Арнольдава, Е. Доліна, У. Барскага, якія выступалі ва Уладзівастоку, Хабараўску, Харбіне... Яго прафесійны статус быў відавочным. Г. Грыгоніс адразу стаў вядучым артыстам у Першым беларускім таварыстве драмы і камедыі, у Беларускім дзяржаўным тэатры, набыўшы вядомасць і глядацкую сімпатыю найперш у ролях камедыйных. Даніла («На Купалле» М. Чарота), Дораш і Каваль («Машэка», «Каваль-ваявода» Е. Міровіча) і асабліва Журдэн («Мешчанін у шляхецтве» Ж.-Б. Мальера) сталі тэатральнай класікай.

**Здавалася — акрэслена амплуа, раскрыта індывідуальнасць. Аднак акцёрскі лёс непрадказальны—прызначэнне Г. Грыгоніса на ролю генерала Мураўёва ў спектаклі «Кастусь Каліноўскі» Е. Міровіча (ён жа і пастаноўшчык) было нечаканым і для акцёра, і для тэатралаў. Прывяду словы Якуба Коласа, занатаваныя жонкай Г. Грыгоніса: «Далібог, Генрых Юр'евіч, спачатку проста не прызнаў вас. Не мог паверыць, што вы— Мураўёў. Дзяк, Даніла, Дораш— вось, здавалася, ваша стыхія». На запытанне акцёра— «Ну і як?»— адказаў: «Выключна. Праўдзіва. Уражвае». Шкада, што роля такога плана—амаль адзіная ў сцэнічнай біяграфіі артыста. Другія ролі—камедыйна-сатырычныя, лірычна-камедыйныя—замацавалі адметнае месца Г. Грыгоніса ў гісторыі тэатральнага мастацтва.**

Неяк Беларускае тэлебачанне зноў паказала даўні фільм «Хто смяецца апошнім» па п'есе К. Крапівы. Ён, вядома, дае прыблізнае ўяўленне аб класічнай пастаноўцы купалаўскага тэатра, у якой кожны сцэнічны вобраз—стварэнне таленавітага мастацкага духу. І ўсё ж, калі пачулася з экрана распеўна-ласкавае «Цю-лік, Цю-лік», а следам з'явіўся і сам дворнік Нічыпар—Грыгоніс, ускалыхнуліся хвалюючыя ўражанні ад таго далёкага і незабыўнага спектакля, што зіхацеў, паўтару, акцёрскімі знаходкамі. У агульным ансамблі дуэт дворніка Нічыпара— Г. Грыгоніса і цёці Каці—Л. Ржэцкай стварыў пласт народнай мудрасці, народнай філасофіі.

А былы земскі ўрач Цярэнцій Восіпавіч Бублік, які выслухаў дзевяноста тысяч пульсаў... Герой Г. Грыгоніса нібыта сышоў са старонак чэхаўскіх апавяданняў, гэткі старамодны, галантны дзівак з чулым сэрцам і душой.

Г. Грыгоніс надзяляў сваіх персанажаў адметнасцю, прычым не столькі жанравага парадку, колькі ў душэўнай характарыстыцы. Кожны спавядаў сваю філасофію, меў свой маральны кодэкс, свае сімпатыі і антыпатыі. Сцэнічныя героі Генрыха Грыгоніса ўражвалі надзвычайнай арганічнасцю. Акцёр умеў рабіць «сваім» і ўнутраны свет вобраза, і яго вонкавае аблічча. Цывільны гарнітур, генеральскі мундзір, сялянская світка—усё было ягоным, а не з чужога пляча. Унутраная інтэлігентнасць, дабрыня, светлы гумар, а калі трэба, і з'едлівая ўсмешка—афарбоўвалі сцэнічныя характары.

**Ён сыграў шмат. Адзін артыкул, прысвечаны артысту, нават так і называўся· «200 роляў Г. Грыгоніса». Ад першага выхаду— у ролі матроса — да апошняй—Дамініка Луцэвіча, бацькі Я. Купалы ў спектаклі «Шчасце паэта» В. Віткі—Г. Грыгоніс верна служыў Тэатру. Дарэчы, перш, чым выйсці на сцэну, ён зведаў службу карабельнага юнгі, зведаў, чаго варты хлеб марака. Багатая жыццёвая біяграфія потым неаднойчы ўзбагачала сцэнічную біяграфію вобразаў. Нагадаем некаторыя з іх: Старац («Раскіданае гняздо» Я. Купалы), Лука («На дне» М. Горкага), Чужакоў («Мост» Я. Рамановіча), дзед Анісім («Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка), Галушка («У стэпах Украіны» А. Карнейчука), Ладавіка («Сабака на сене» Лопэ дэ Вэгі), Эскал («Рамэа і Джульета» В. Шэкспіра), Сымон Верас («Пяюць жаваранкі» К. Крапівы)...**

Сезон 1951—52 гг. быў апошнім тэатральным сезонам Генрыха Юр'евіча Грыгоніса. Але для яго ён стаў вехай не толькі таму, што—апошні, а і таму, што акцёр сустрэўся з чэхаўскай драматургіяй — сыграў Фірса ў «Вішнёвым садзе». А. П. Чэхаву не шанцавала, ды і сёння не вельмі шанцуе на нашай сцэне. А вось Фірса ў выкананні Г. Грыгоніса тагачасная крытыка лічыла найбольш чэхаўскім вобразам у параўнанні з якімі іншымі. П'еса і спектакль заканчваліся словамі старога: «Зачынена. Паехалі... Пра мяне забыліся...» Нібыта сказаны гэтыя словы не толькі чэхаўскім героем: мо акцёр адчуваў, што не надта помніць будуць наступныя пакаленні тых, хто ладзіў іх тэатральны дом. Будзем спадзявацца, што не забудуць, успомняць не толькі ў юбілейную дату. Бо душэўны і духоўны ланцужок не рвецца, ён моцны. «Мастацкія творы неабходна складаць у памяць мёртвых і ў імя ненароджаных. Толькі такім чынам будзем замыкаць жыццёвае кола, прымаючы ўдзел у тым, што было, ёсць і будзе»,—пісаў А. Даўжэнка. Так рабіў Г. Грыгоніс са сваімі таварышамі. Будзем помніць пра гэта.

Клара **КУЗНЯЦОВА.**

## Віншуем!



**10 чэрвеня спаўняецца 70 год дзіцячаму пісьменніку Авяр'яну Дзержынскаму. З гэтай нагоды праўленне СП БССР накіравала яму прывітальны адрас з пажаданнем усяго самага добрага ў жыцці і творчай працы.**

Супрацоўнікі «ЛіМа» далучаюцца да гэтага віншавання.

## АБ'ЯДНАЛІСЯ Ў АСАЦЫЯЦЫЮ

**У рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтваў адбыўся ўстаноўчы сход Беларускай асацыяцыі тэатраў-студый.**

**Незадоўга перад гэтай падзеяй, у красавіку, прадстаўнікі тэатраў-студый з розных рэспублік абмяркоўвалі на нарадзе ў Маскве пытанні аб мэтазгоднасці стварэння такой асацыяцыі і прынцыпах яе дзейнасці. Было вырашана, што рэспубліканскія асацыяцыі будуць існаваць і дзейнічаць у рамках усесаюзнай, стварэнне якой плануецца ў кастрычніку гэтага года, на федэратыўнай аснове.**

**Галоўная мэта новай арганізацыі ў тым, каб усебакова дапамагаць студыйнаму руху, спрыяць нараджэнню і развіццю новых калектываў. У бліжэйшых планах асацыяцыі — стварэнне пры ёй савета фундатараў, які б аказваў дзейсную дапамогу студыям, а таксама выпуск інфармацыйнага бюлетэня.**

**Да правядзення ўстаноўчай канферэнцыі Усесаюзнай асацыяцыі тэатраў-студый неабходна распрацаваць статуты і палажэнні яе рэспубліканскіх падраздзяленняў. З гэтай мэтай беларуская асацыяцыя стварыла арганізацыйны камітэт у складзе рэжысёраў студый В. Баркоўскага, В. Грыгалюнаса, М. Варвашэвіча і загадчыка кабінета СТД БССР В. Тарнаўскайтэ.**

**НАШ КАР.**

# «БЕЛАРУСЬ ДЛЯ МЯНЕ — ЛЮБОЎ І БОЛЬ...»

Гэтае прызнанне, зробленае Марынай Новікавай у пісьме да «Белага і чорнага», у нейкай меры вытлумачвае першавыток, першапрычыну ўзнікнення твора. Але толькі—у нейкай. Есць і іншы пасыл. Ужо не столькі эмацыянальнага, колькі ідэйнага, установачнага плана. Пра яго я скажу ніжэй.

А зараз колькі слоў пра аўтара, у прыватнасці пра тое, адкуль у яе, жыхаркі далёкага Крыма, прафесара Сімферопальскага універсітэта, гэтыя «любоў і боль», гэтыя беларускія матывы, беларускі «адрас».

«Галіна маіх навуковых заняткаў — міжнацыянальныя літаратурныя сувязі, — так пачынала Марына Новікава свой артыкул «Служба памяці», змешчаны ў «ЛіМе» тры гады назад, летам 1986 года. — Але літаратурай міжнацыянальныя кантакты не абмяжоўваюцца, яны ахопліваюць усю культуру; таму ўсюды, куды ні прыедзеш з Украіны, у кожнай саюзнай рэспубліцы або сацыялістычнай краіне, пачынаеш са знаёмства з братняй культурай у яе праявах — у музейных экспанатах і археалагічных помніках, у пажоўклых пергаментах і сучасных творах мастацтва. Так «ужываюся» я і ў Беларусь, дзе асабліва люблю бываць...» А заканчвала Марына Аляксееўна свой артыкул наступнымі, ужо зусім лірычнымі па сваёй танальнасці словамі: «Хоць у нейкай ступені хацелася б гэтымі нататкамі адказаць на гасціннасць дарагіх майму сэрцу беларускіх сяброў, падзяліць іх думкі і клопаты... Шчаслівая буду, калі адгукнуцца на гэтыя мае радкі мае сябры, «прарабы духу», дзейныя ўдзельнікі сённяшняга культурнага будаўніцтва Беларусі».

У словах гэтых, гэтых прызнаннях — уся Марына Новікава з яе высакародным, дапытлівым розумам, яе шырокім колам інтарэсаў і сімпатый, яе вялікай, глыбока зацікаўленай у поспеху нашай агульнай справы душой. (Заўважу ў дужках, што менавіта М. Новікава адна з першых, калі не першая, адгукнулася ва ўсесаюзным друку на нашы лімаўскія дыскусіі, падтрымала нас).

Аўтар артыкула даволі сціпла гаворыць пра галіну сваіх галоўных заняткаў. Але яна — не толькі вучоны-літаратуразнаўца (мае, дарэчы, званне доктара навук). Яна — чалавек разнабакова таленавіты, яна — яшчэ і літаратурны крытык, і публіцыст, і педагог, і перакладчыца паэзіі. І, як мы зараз убачым, паэтэса.

Марына Аляксееўна прызнаецца, што з асаблівым пачуццём чакае публікацыі свайго «Белага і чорнага». Яе няцяжка зразумець.



Марына Новікава

# Белое и чёрное

### 1.

(За столом поэт. А сзади ширма:
там ощую — шустрый и плешивый,
одесную — худенький и русый).

— Странный вы народец, белорусы.

Кость мужичья, а умом узлисты.
Мало приноровленные к раю.
...Ты, слыхать, подался в беллетристы?
Поздравляю, братец, поздравляю.

Отыскал и время, и местечко,
и наречье не нашел другое.
Что — сгораешь, богова ты свечка?
Лучше бы работал кочергою.

Вон Купалу праздновали, Янку, —
все рубахи рвать и наизнанку.
Но для этих местных ликований
ты не вышел: молодой, да ранний.

Что ж ты всё на взводе и на взрыде?
Что в котле домашнем душу варишь?
...Говоришь: товарищи, сябры-де?
Шутишь! Лось экспрессу не товарищ.

Те из торфа, овсяное детство,
ты же, братец, из другого теста.
Иноходец — в том-то весь и перец.
Ты ведь, мой любезный, европеец.

●

— Готики смиренная гордыня
и барокко пышные кошмары —
что ты дашь им? Уголёк Хатыни.
Разве это, брат мой, так уж мало?

Этот уголь от зачатья дрожи
носишь ты в себе, не выбирая.
Ну, а время — время только дрожжи
в вечности огромном каравае.

Где холмами ходит месяц узкий,
где людей сжигали, как солому,
мёртвые молчат по-белорусски.
Как же им ответишь по-другому?

Душу на распыл не допустили.
И не позабудешь, как ни бейся:
европейцы шли на смерть в холстине.
С чем сравнится это европейство?

Всё больней, всё больше оттого-то
веку всемогущества и страха
чистый голос малого народа
нужен, как нательная рубаха.

Вас роднит не метрика, а проседь.
Вас в крови единой искупало.
...И опять из пекла вас выносит
Тот старик хатынский и Купала.

### 2.

— И что ты, братец, так недоверчив?
Небось, хоть в сексе космополит?
Я угощаю. Рагу из женщин:
подлива — Гретхен, мясо — Лилит.

Сначала ведьма: оно попроще.
Она потащит, подмяв под зад,
в такие пущи, в такие рощи,
где лишь удавленники висят.

А после Гретхен. О! это штучка.
Глаза, как небо. Навек твоя.
...А в горсаду, глядь, всплывает ручка
в пруду. Ребенка. Не скажешь, чья?

Пришёлся «Фауст» полезной школой,
в свой адрес критику я учёл.
Зачем катать вас на бабе голой?
Ты сам прокатишь. Ты — будешь гол.

Какой тут мыслить, строкою тренькать:
война, бессмертье, земля, родня?
На четвереньках! На четвереньках!
Одно призвание — простыня.

О чём и спорить с каким-то типом?
Что́ ему вечность? Что́ — Беларусь?
Ты не холопом, ты станешь хрипом.
...Куда докатишь — знать не берусь.

●

— Мои ноженьки, мои рученьки
переведены на золу.
...Научи: тебя кликать лучше как?
Я из прошлого позову.

Не бесовкою и не Гретою,
не желанушкой, не женой —
я оттуда иду раздетою
обгорелою головнёй.

Научи: опуститься рядом как?
Обнимать? Застонать? Уснуть?
Я землицей, сухою ладанкой
белорусу ложусь на грудь.

Мой невиденный, мой невенчанный,
на приданое постелю
для твоей ненаглядной женщины
мою белую простыню.

Будешь гнуться травой под бурею,
задыхаться: люблю, люблю.
...И тихонько беречь вас буду я
в чёрном — в красном моём углу.

Будешь плечи живые трогать ты —
проступлю из неё и я
богоматерью из-под копоти,
белорусочкой из огня.

### 3.

— Вы, белорусы, на женщине спятили.
Вам бы поверить, так все — богоматери.
Бог с нею, боговой. Лучше о собственной
поговори в обстановке удобственной.

Что-то ты разом осунулся на́ лицо?
Всё зарывается, всё заменяется.

Лёгкое пёрышко, маково зёрнышко,
матерь твоя умирала — ты помнишь, как?

Тут человек был разделан до досточек,
до узелка из дыханья и косточек.
...Кстати: не вспомнишь ли главное самое—
что тогда было с тобою, не с мамою?

Руку держал? Зарывался в колени ей?
...И написал о ней стихотворение.
Воздух заглатывал? Трясся плечами-то?
...Очень талантливо. И напечатано.

А чтобы стыд не царапал булавкою,
можешь добавить: вернётся-де травкою,
выглянет солнце, зазыблется тень её...
Смертные любят играть в возрождение.

Любят, миляги, запрашивать многого.
...Сыну, брат, сыново — богу, брат, богово.
Бог-то воскреснет, и солнце воротится.
Да не вернется твоя богородица.

●

— Как на поле моём сеян месяц и сон,
на подворье моём бродят чёрные павы,
На том свете моём не найдёшь испокон
ни лукавого зла, ни увёртливой славы.

Ты на мне повязал похоронный платок.
Думал: мама моя! Думал: боже мой, боже!
...Я на тыщу дождей стала старше, сынок,
на журавье перо теперь стала моложе.

Всё мне слышно теперь: чем печалится зверь,
что́ вздыхает земля, чего просит водица.
Отстарается смерть — отворяется дверь,
и уходит душа, чтобы снова трудиться.

У неё, у души, есть своя молотьба,
и засев, и покос, и родимая речь есть.
...Знал бы ты, мой сынок, как просторна судьба,
как пшеницей шумит-наливается вечность.

Да про то не горюй: всё узнается в срок.
И не плачь обо мне: я жива и здорова.
Только душу купай в нашей речке, сынок.
Только сына храни и выхаживай слово.

А ещё мне видать с той далёкой войны:
богоматерь бинты белорусу стирает.
...Распинают сынов — воскресают сыны,
потому что их матери — не умирают.

### 4.

— У тебя, брат, неувязка такова:
для бессмертья лучше пляска, не слова.
Вон как водят белой грудью — благодать! —
соплеменники, не склонные рыдать.

Ты весь потный, все тетради исписал:
мол, народ мой, мол, начало из начал.
А начало — ножкой двинь! Серёжкой дрынь!
После пляски хоть потоп, а хоть Хатынь.

Им бессмертье звать не надо — тут как тут.
Одних вырубят, другие нарастут.
Не картинка, умиленье: какова! —
пляшут, пляшут белорусские дрова.

**Як ужо паведамлялася ў «ЛіМе», створаны Арганізацыйны камітэт рэспубліканскага Таварыства беларускай мовы. У сувязі з публікацыяй на старонках штотыднёвіка праекта Статута будучага Таварыства мы папрасілі сказаць колькі слоў з гэтай нагоды старшыню Арганізацыйнага камітэта Ніла ГІЛЕВІЧА:**

**— Мэты і задачы Таварыства і самае галоўнае, што датычыць яго дзейнасці, выказаны ў праекце Статута, які публікуецца і будзе абмяркоўвацца і зацвярджацца на Устаноўчым з'ездзе Таварыства. Хацелася б яшчэ раз падкрэсліць, што Таварыства беларускай мовы арганізоўваецца на самай шырокай дэмакратычнай аснове, без якіх бы то ні было абмежаванняў: па нацыянальнасці, адукацыі і г.д. Удзельнічаць у яго працы і стаць яго сябрамі запрашаюцца ўсе, хто неабыякавы да нашай роднай мовы і зацікаўлены ў тым, каб яна набыла больш грамадзянскіх правоў, усё больш выкарыстоўвалася ў грамадскім ужытку ў рэспубліцы: усе, хто не толькі сам шануе, беражэ і любіць роднае слова, але і гатовы дапамагчы іншым пранікнуцца павагай да мовы беларускага народа, авалодаць ёю, каб праз гэта шчыльней далучыцца да скарбаў беларускай нацыянальнай культуры і каб больш упэўнена пачувацца гаспадаром на гэтай зямлі, грамадзянінам рэспублікі. Зазначу пры гэтым, што ў праекце Статута невыпадкова падкрэслена як адна з задач Таварыства — выхаванне павагі да рускай мовы, як мовы міжнацыянальных зносін, і да іншых моў, якімі карыстаюцца жыхары рэспублікі, таму што ў цэлым дзейнасць ТБМ будзе спрыяць як выхаванню нацыянальнай годнасці, патрыятызму, так і інтэрнацыяналізму.**

**Хацелася б, каб Устаноўчы з'езд, які пакладзе пачатак жыццядзейнасці Таварыства, прайшоў на добрым арганізацыйным узроўні і стаў прыкметнай падзеяй у культурным жыцці рэспублікі. Мяркуецца, што дэлегатамі з'езда будуць у першую чаргу таварышы, якія ўжо даўно праяўляюць клопат пра нашу родную мову, шчыра занепакоены яе лёсам. На з'ездзе, апрача таго, што будзе прыняты Статут, будзе выбрана кіраўніцтва ТБМ, якое далей будзе арганізоўваць усю штодзённую працу. Прадвызначаць зараз усё іншае ў дэталях няма патрэбы. Аргкамітэт прыняў рашэнне запрасіць дэлегатамі на з'езд па 1 прадстаўніку ад кожнага раёна рэспублікі, апрача таго, дэлегатамі з'езда будуць многія дзеячы асветы, навукі, культуры, літаратуры і мастацтва з абласных і іншых буйных гарадоў,і, вядома, з Мінска. Улічваючы тое, што ў рабоце з'езда прымуць удзел многія настаўнікі, выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры, аргкамітэт лічыць мэтазгодным правесці з'езд пасля завяршэння навучальнага года, а менавіта 27 чэрвеня, у аўторак.**

**Хочацца выказаць спадзяванне, што грамадскасць кожнага раёна паклапоціцца аб тым, каб на Устаноўчы з'езд ТБМ быў абраны невыпадковы чалавек.**

*ПРАЕКТ*

# СТАТУТ

## Таварыства беларускай мовы

НАЦЫЯНАЛЬНАЯ МОВА — неацэнны духоўны скарб, які жывой повяззю яднае пакаленні і навекі назапашваецца і адлюстроўваецца ва ўдзячнай памяці, свядомасці і нацыянальнай годнасці нашчадкаў. Страта нацыянальнай мовы народам ідзе поруч з заняпадам нацыянальнай культуры і вядзе за сабою паступовае знікненне народа як самабытнай этнакультурнай супольнасці. Узровень развіцця нацыянальнай мовы і яе становішча ў грамадстве сведчыць аб агульным стане ў ім культуры, дэмакратычных традыцый і народаўладдзя—таго, што складае важнейшы змест перабудовы, якая ажыццяўляецца ў краіне.

Аднаўленне ў грамадстве стаўлення да роднай мовы як да бацькоўскага дару і матчынай святыні, як да незаменнай, аднойчы і навек падараванай жыццём з'яўляецца найвышэйшай мэтай стварэння і сэнсам існавання Таварыства беларускай мовы.

### I. Агульныя прынцыпы

1. Таварыства беларускай мовы (далей ТБМ) — добраахвотная грамадская арганізацыя, якая дзейнічае адпаведна Канстытуцыі СССР і Канстытуцыі БССР, савецкага заканадаўства і дадзенага Статута.

2. Арганізацыямі-заснавальнікамі ТБМ з'яўляюцца Саюз пісьменнікаў БССР, Міністэрства народнай адукацыі БССР, Міністэрства культуры БССР, Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР, Інстытут літаратуры імя Я. Купалы АН БССР, Беларускае рэспубліканскае аддзяленне Савецкага фонду культуры, Дзяржкамвыд БССР, Дзяржтэлерадыё БССР, Таварыства «Радзіма», Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.

3. ТБМ—масавая арганізацыя, якая першаступеннай задачай мае адраджэнне ў духоўным жыцці народа беларускай мовы і праз яе ўсёй нацыянальнай культуры і выступае:

— за ўмацаванне дружбы паміж народамі нашай краіны, узаемаўзбагачэнне ўсіх нацыянальных культур і выхаванне сапраўднай культуры міжнацыянальных адносін;

— за аднаўленне і паслядоўнае правядзенне ў практыцы сацыялістычнага будаўніцтва ленінскай нацыянальнай палітыкі і найперш у галіне мовы, нацыянальнай культуры;

— за раўнапраўнае і ўсебаковае развіццё беларускай мовы і нацыянальнай культуры ў БССР;

— за вольнае, гарманічнае развіццё моў грамадзян іншых нацыянальнасцей, якія жывуць у БССР;

— за аказанне неабходнай падтрымкі ў сферы нацыянальна-культурнага развіцця беларусаў, што жывуць у іншых рэспубліках і за межамі СССР.

4. ТБМ падтрымлівае распачатую па ініцыятыве КПСС перабудову і арганізуе сваю работу на прынцыпах інтэрнацыяналізму, дэмакратызму, сацыялістычнага плюралізму, самакіравання, галоснасці, падтрымлівае і развівае творчую актыўнасць і ініцыятыву яго сяброў і дзейнічае супольна з партыйнымі, дзяржаўнымі, навуковымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі СССР і БССР.

### II. Мэты і задачы Таварыства

5. Кіруючыся прынцыпамі ленінскай нацыянальнай палітыкі, ТБМ мае на мэце пашырэнне ўжытку беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця БССР, усебаковае яе развіццё, захаванне яе чысціні і самабытнасці, зберажэнне і развіццё нацыянальнай культуры і народных традыцый, фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці, пераадоленне нацыянальнага нігілізму.

6. Адзначаючы, што беларусы, якія з'яўляюцца карэннай нацыяй БССР, тут і толькі тут могуць поўна і плённа рэалізаваць свой духоўны і культурны патэнцыял, лічыць абавязкам праводзіць грунтоўную растлумачальную і прапагандысцкую работу, настойліва фарміраваць грамадскую думку з тым, каб усе жыхары рэспублікі зразумелі жыццёвую неабходнасць надання беларускай мове статуса дзяржаўнай мовы БССР пры захаванні за рускай мовай статуса мовы міжнацыянальных зносін.

7. Таварыства лічыць, што справа сумлення і патрыятычнага абавязку кожнага беларуса, кожнага жыхара рэспублікі — свабодна валодаць беларускай і рускай мовамі, шанаваць і вывучаць беларускую мову, карыстацца ёю ў штодзённым жыцці.

Вітаючы і падтрымліваючы імкненне прадстаўнікоў усіх нацыянальнасцей, што жывуць у рэспубліцы, да захавання і развіцця іх мовы, Таварыства ўсяляк спрыяе і заахвочвае авалоданне імі мовай карэннай нацыі рэспублікі.

8. Таварыства ўдзельнічае ў распрацоўцы навуковай канцэпцыі двухмоўя, ужывання беларускай і рускай моў у рэспубліцы, зыходзячы з суверэнных правоў народа, найменне якога замацавана ў назве дзяржаўнага ўтварэння.

9. Таварыства разам з арганізацыямі-заснавальнікамі наладжвае кантакты з суайчыннікамі, культурна-асветніцкімі арганізацыямі і асобнымі грамадзянамі, якія садзейнічаюць развіццю і пашырэнню беларускай мовы і культуры як за межамі БССР, так і за межамі СССР, а таксама падтрымлівае сувязі з іншымі аналагічнымі фарміраваннямі.

10. Адной са сваіх галоўных мэт Таварыства лічыць адраджэнне ў Беларусі—сумесна з партыйнымі, дзяржаўнымі органамі, з усім грамадствам— нацыянальнай асветы і сістэмы нацыянальнай школы ўсіх тыпаў і забеспячэнне ўмоў для бесперапыннай адукацыі на беларускай мове.

11. Таварыства праяўляе клопат пра выкарыстанне беларускай мовы ў грамадскім жыцці, дае даведкі і кансультацыі па моўных пытаннях дзяржаўным органам, арганізацыям, установам, грамадскім аб'яднанням, а таксама асобным грамадзянам.

12. Таварыства клапоціцца пра ўдасканаленне правапісу беларускай літаратурнай мовы.

# ПА ЯКІХ ЗАКОНАХ ЖЫЦЬ?

**(Працяг. Пачатак на стар. 3).**

**«ЛіМ»: — Трэба гэта разумець так, што заканадаўчыя органы ў Літве, Латвіі і Эстоніі ўлічваюць волю сваіх народаў...**

**У. Кандрацьеў:** — Не трэба драматызаваць становішча ў нас.

**«ЛіМ»: — Я ўважліва прачытаў праект Асноў крымінальнага заканадаўства і прыйшоў да высновы, што мы рухаемся ў напрамку гуманізацыі некаторых нашых законаў. У адной з цэнтральных газет я нядаўна натрапіў на фотаінфармацыю з нечаканым загалоўкам — «Горка!» На здымку, на фоне стэнда з надпісам: «Асноўныя формы палітыка-выхаваўчай працы з асуджанымі» стаялі малады, коратка падстрыжаны хлопец у чорным бушлаце і дзяўчына ў белым вясельным убранні. Як апавядалася ў тэкстоўцы, у адной з папраўча-працоўных устаноў пачалі дазваляць рэгістрацыі шлюбаў асуджаных з, як там напісана, нявестамі-«завочніцамі». Гэта, папершае, гуманна, па-другое, спрыяе, як лічаць спецыялісты, хутчэйшаму выпраўленню асуджанага, якому вельмі важна ведаць, што яго чакаюць на волі.**

**Ведаеце, Уладзімір Кандратавіч, я, гледзячы на здымак, нават расчуліўся. Ды ці не ў тым жа нумары газеты прачытаў, што апошнія гады ў краіне хутка расце злачыннасць. Не з'яўляецца тут выключэннем і наша рэспубліка. Мне давялося паслухаць лекцыю міністра ўнутраных спраў БССР В. А. Піскарова, у якой прыводзіліся красамоўныя лічбы росту злачыннасці на Беларусі. Упару тут разгубіцца — з аднаго боку, ідзе гуманізацыя крымінальнага заканадаўства, з другога, нібы ў адказ, напладзілася немаведама колькі злачынцаў. Многім гэта незразумела...**

**У. Кандрацьеў:** — Рэформа існуючага заканадаўства (і не толькі крымінальнага) наспела даўно і пра гэта недвухсэнсоўна сказана ў рэзалюцыі XIX партыйнай канферэнцыі. Так, праект Асноў мае на ўвазе гуманізацыю нашых крымінальных законаў, што прадыктавана гуманізацыяй, дэмакратызацыяй усяго нашага грамадства.

**«ЛіМ»: — Гуманізацыя крымінальных законаў далёка не заўсёды знаходзіць падтрымку ў масавай свядомасці. На жаль, грамадская думка ў нас часцей скіравана на большую жорсткасць пакаранняў. Думаю, тут адыгрывае сваю ролю цяжкая спадчына тых, сталінскіх гадоў, калі ў чалавеку культываваліся страх і жорсткасць.**

**У. Кандрацьеў:** —Многія людзі зыходзяць з памылковай думкі, што ўзровень злачыннасці знаходзіцца ў прамой залежнасці ад карных мер. Між тым, як сведчыць вопыт, дарэчы, не толькі нашай краіны, доўгія тэрміны зняволення, напрыклад, самі па сабе не гарантуюць змяншэння злачыннасці. Барацьба са злачынствам эфектыўная толькі тады, калі прыведзены ў дзеянне ўсе эканамічныя, сацыяльныя і выхаваўчыя рычагі. Пераконванне і прымус павінны ўраўнаважваць адно аднае.

**«ЛіМ»: — У масавай свядомасці ў нас неяк абясцэнена чалавечае жыццё. Мне неаднойчы даводзілася быць сведкам прыкладна такога абмену рэплікамі сярод пажылой публікі, якая звычайна запаўняе залы судовых пасяджэнняў: «Дык колькі ўчора таму чалавеку далі?» — цікавіцца адзін. «Пяць гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму». — адказвае другі. «Так мала? Я б даў больш!»**

**У. Кандрацьеў:** — Гэта сведчыць перш за ўсё аб нізкай прававой культуры людзей. Наогул, злачынства ў пэўнай ступені — люстэрка нашых сацыяльных праблем, у рэшце рэшт, злачынцу нараджае грамадства. Але гэта, вядома, не знімае з яго адказнасці, бо ён парушыў закон і павінен адказваць за гэта ў поўнай меры. Я лічу, што трэба ўсім нам надаваць больш увагі выхаванню грамадскай свядомасці ў кірунку законапаслушэнства, павагі да закона.

**«ЛіМ»: — Законапаслушэнства бракуе не толькі нам, простым смяротным, а, часам, і тым, хто павінен стаяць на варце закона. Я маю на ўвазе гісторыю з мастаком С. Свістуновічам у Баранавічах.**

**У. Кандрацьеў:** — Скажам шчыра, для такога пытання ёсць падставы. Парушэнні законнасці, памылкі ў дзейнасці праваахоўных органаў назіраюцца і асабліва востра ўспрымаюцца працоўнымі.

Па факце прыгаданых вамі падзей у Баранавічах узбуджана крымінальная справа, расследаванне якой даручана старшаму следчаму абласной пракуратуры. Высновы аб віноўнасці ці невіноўнасці каго-небудзь рабіць рана. Вядома, мы за ўважлівае стаўленне да кожнага апублікаванага матэрыялу. Але я не ўхваляю пазіцыю тых газет, якія публікуюць негатыўныя артыкулы па справах, па якіх яшчэ не прыняты прадугледжаныя законам рашэнні. Гэта нярэдка нараджае ў чытачоў скажонае ўяўленне аб сапраўдным становішчы спраў, стварае атмасферу нявер'я ўвогуле ў сацыялістычную законнасць і справядлівасць, не садзейнічае выхаванню людзей у духу павагі да закона. Нельга паспяхова фарміраваць прававую дзяржаву, захоўваючы цяперашні ўзровень дысцыпліны і адказнасці.

**«ЛіМ»: — Калі могуць вось так без уважнай прычыны збіць выпадковага чалавека, дык можна толькі здагадвацца, што робіцца ў месцах зняволення, як там абыходзяцца з асуджанымі. Я, вядома, не ідэалізую іх, але не на пустым, відаць, месцы ўспыхнуў мяцеж зняволеных у папраўча-працоўнай калоніі на Ангарскай вуліцы ў Мінску. Давялося калонію гэту наогул расфарміраваць, а яе ўтаймаваных жыхароў разаслаць па іншых спецустановах краіны. Апошнім часам у шэрагу цэнтральных газет і часопісаў была зроблена спроба прыўзняць заслону над тайнае тайных нашых папраўча-працоўных калоній. Тут іншы свет, іншае вымярэнне чалавечых каштоўнасцей. Нармальны чалавечы мозг успрыняць гэта не ў сілах.**

**У. Кандрацьеў:** — Трэба сыходзіць з рэальнай абстаноўкі. У папраўча-працоўных калоніях адбываюць пакаранне вельмі небяспечныя злачынцы-рэцыдывісты. Дарэчы, зараз у той жа прэсе на гэты конт можна прачытаць дыяметральна процілеглыя думкі. Адны лічаць, што рэжым утрымання асуджаных у калоніях занадта суровы, другія, наадварот, што вельмі мяккі і не садзейнічае перавыхаванню злачынцаў. Асабіста я лічу, што нават пры існуючых абмежаваннях рэжымы ўтрымання асуджаных у калоніях і турмах забяспечваюць ім неблагое чалавечае існаванне. Няма падстаў гаварыць пра тое, што ў месцах зняволення зневажаецца іх чалавечая годнасць. Разам з тым, нельга не сказаць і пра тое, што многія асуджаныя за розныя злачынствы людзі не кідаюць у месцах зняволення сваіх шкодных звычак і схільнасцей да п'янства, наркаманіі, гомасексуалізма, дармаедства і г. д. Адным словам, гэта вельмі складаны чалавечы матэрыял. Каб быць аб'ектыўным да канца, трэба прызнаць, што і адміністрацыя папраўча-працоўных устаноў часта бывае не на вышыні — парушае правы зняволеных, груба, часам жорстка з імі абыходзіцца, дапускае злоўжыванні сваім службовым становішчам. Органы пракуратуры нямала робяць для таго, каб у месцах зняволення строга захоўваліся ўсе інструкцыі, заканадаўчыя акты, накіраваныя на выпраўленне, перавыхаванне асуджаных. Хачу падкрэсліць, што толькі 11 працэнтаў асоб, што адбылі тэрмін у месцах зняволення, ізноў становяцца на злачынную сцежку. Пераважная ж большасць былых асуджаных жыве сумленна.

**«ЛіМ»: — Стаць на сумленны шлях жыцця такім людзям, я ведаю, не проста. Нават не па нейкіх псіхалагічных прычынах — чыста жыццёвых. Паспрабуйце з даведкай калоніі ўладкавацца на працу. Як правіла, адміністрацыя прадпрыемстваў з такімі людзьмі справу не хоча мець. Мне ў свой час даводзілася пісаць пра гэтую няпростую праблему.**

**У. Кандрацьеў.** — Вы маеце рацыю, такіх выпадкаў нямала. Сістэма сацыяльнай адаптацыі асоб, якія вярнуліся з месц пазбаўлення волі, пакуль не адладжана. Найбольш слабым звяном у гэтай сістэме з'яўляецца іх працаўладкаванне і замацаванне ў працоўных калектывах.

## Старонкі ўспамінаў

# ДАБРАТА

Звычайна ўспаміны пішуцца да юбілеяў. А я рашыў не шукаць нагоды, каб расказаць пра чалавека, якому я бязмежна ўдзячны за тое, што ён вызначыў мой лёс. Хачу ўспомніць пра Аляксея Мікалаевіча Кулакоўскага.

Недзе ў самым пачатку трыццатых гадоў я перавёўся з Мілаславіцкай школы калгаснай моладзі ў 1-ю Клімавіцкую сямігодку, у шосты клас. У той час я быў ужо сельноравам клімавіцкай раённай газеты «Камуна». Рэгулярна пісаў допісы пра свой калгас «Рабочы» — і станоўчыя, і крытычныя. Цяпер самому смешна: вучань чацвёртага-пятага класа, а ўжо селькор. Але тады я лічыў сябе селькорам і пісаў многа. І што заахвочвала: друкавалі!

А як перавёўся ў Клімавічы, то стаў частым наведвальнікам рэдакцыі. Для мяне яна была не проста ўстановай, а нейкім цудоўным храмам, дзе звычайнае, напісанае алоўкам ці пяром слова магічна ператвараецца ў друкаванае, што значыла для мяне — святое, незвычайнае. Пах друкарскай фарбы здаваўся самым цудоўным з усіх пахаў, якія мне давялося чуць.

Як толькі выдаваўся вольны ад заняткаў час, я спяшаўся ў рэдакцыю. Проста так не пойдзеш, патрэбна прычына, бо там жа людзі занятыя. Я кожны раз меў прычыну: чарговы допіс. Заносіў сам. Зайду, бывала, ціхенька, сарамліва. І адразу чую:

— А-а, Яначка, давай. давай смялей! Што прынёс? Давай прачытаем.

Чыталі, задавалі пытанні, удакладнялі.

— Ну, малайчына, пішы яшчэ. А гэта надрукуем. Паправім і на газетную старонку.

Правілі, часам занава перапісвалі, а друкавалі. Для мяне дарагой была такая ласка рэдакцыйных работнікаў.

Асабліва ласкавым быў са мной Аляксей Кулакоўскі. Помню яго маладым, статным, прыгожым хлопцам. Ён гаварыў заўжды ціха, спакойна, разважліва, рухі яго былі павольныя. На мае вочы ён быў нейкі не такі, як усе, надзелены асаблівым талентам — дабрынёй.

Між іншым. не толькі я вылучаў яго сярод другіх людзей. Такое ж уражанне зрабіў ён і на маю маму Ефрасінню Васільеўну. Яна была непісьменная. Працавітая, старанная і ўмелая ў гаспадарцы, заслужыла у вяскоўцаў павагу, і яе аднойчы накіравалі на раённы злёт калгаснікаў-ударнікаў. Сядзела яна там, уважліва слухала прамоўцаў і не вытрывала, папрасіла слова. Гаварыла горача пра добрае, што рабілася ў калгасе, і пра недахопы, недаробкі, безгаспадарчасць. Прамова яе атрымалася адной з самых цікавых на злёце, вобразная, з прымаўкамі, прыказкамі.

— Іду, — расказвала мне, — з трыбуны, а мяне як на крыллях нясе, таму што пад воплескі. І тут да мяне падыходзіць малады, прыгожы хлопец і пачынае распытваць, што магу яшчэ расказаць пра свой калгас. Распытваў так пачціва, паважліва, што мая душа сама перад ім раскрылася. Са мной яшчэ ніхто так хораша не гаварыў. Назваўся Аляксеем Кулакоўскім.

— Дык я ж яго добра ведаю! — узрадаваўся я тады. — Ён жа ў рэдакцыі працуе...

Мне было прыемна даведацца, што я не памыліўся, так высока ставячы старэйшага таварыша. Бо мама рэдка памылялася ў людзях.

— Няўжо?! — здзівілася і абрадавалася яна. — Вось гэта чалавек. Ты, сынок, трымайся яго, такі благому не навучыць. І вучыся ў яго паважаць людзей.

Праз некальні дзён у раённай газеце была надрукавана старонка, прысвечаная злёту, і там скарочаная прамова маёй мамы. Запісаная, вядома, Кулакоўскім. Мама спачатку не паверыла, што сказанае ёю надрукавана ў газеце. Некалькі разоў прасіла прачытаць ёй напісанае, і кожны раз добрым словам успаміналі Аляксея Мікалаевіча.

Ужо як скончылася вайна і я пачаў працаваць у Мінску, мама неяк спытала:

— А ці жывы Аляксей Кулакоўскі? Ці сустракаеш ты яго?

Вунь колькі часу прайшло, колькі бед душыла, таптала жыццё, а не забыла прозвішча чалавека, які ўсяго адзін раз цёпла, паважліва пагаварыў з ёю! Які след у душы можа пакінуць добрае слова! І як не хапае нам той душэўнасці, якую шчодра дарыў людзям Аляксей Кулакоўскі.

Самай адметнай рысай яго характару, на маю думку, была дабрата. Не толькі ў творах, але і ў жыцці, у надзённасці. Аляксей Кулакоўскі быў з усімі роўны — і са старым, і з малым. Бо бачыў у кожным перш-наперш чалавечую душу.

Успамінаецца такі выпадак. Неяк надвячоркам, падрыхтаваўшы ўрокі, я панёс у рэдакцыю чарговы допіс. Рабочы дзень скончыўся, усе супрацоўнікі разышліся дамоў, аставаўся адзін Кулакоўскі. Ён нешта пісаў. Калі я зайшоў, ён падняў галаву, убачыў мяне і запрасіў:

— Праходзь, Іванка, сядай... Пасядзі крышку, я закончу думку...

Я прыткнуўся да крэсла і замёр, з захапленнем сочачы, як піша сапраўдны журналіст. А ён то пісаў, то закрэсліваў і зноў пісаў. Прайшло, можа, з паўгадзіны зусім сцямнела, і ён уключыў святло. Потым адарваўся ад паперы, спытаў:

— Не спяшаешся нікуды?

— Не! — адказаў я.

— Тады пагаворым. Але спачатку паслухай, што я табе прачытаю. Гэта толькі пачатак нарыса. Над ім яшчэ доўга трэба працаваць. Але мне хочацца ведаць, ці атрымліваецца.

Ён пачаў чытаць мне, як дарослаому, цікавіўся, як я ўспрымаю. Такога павароту гутаркі я не чакаў. Каб такі журналіст улічваў маю думку? Ды што я магу сказаць яму?

Гэта была першая ў маім жыцці школа літаратурнага пісьма.

Пасля я не раз стараўся застаць Аляксея Мікалаевіча аднаго ў рэдакцыі, і кожны раз ён так ці інакш вучыў мяне, як трэба старанна падбіраць словы, вобразна маляваць бачанае.

Прайшлі два гады. Я скончыў сямігодку. Жылі мы бедна, аднойчы бацька сказаў мне:

— Што ж, сынок, тваёй навукі хопіць для працы ў калгасе. Сродкаў, каб вучыць цябе далей, у мяне няма. Цяпер ты — калгаснік.

Працай у калгасе я не пагарджаў, быў пастушком з сямі гадоў. Праца мяне не палохала. Іншае развярэдзіла душу: вельмі хацелася вучыцца. Але бацька быў няўмольны і нічога добрага мне не абяцаў:

— Для работы ў полі хопіць сямігодкі. У мяне толькі тры класы, і то нічога. неяк жывём. Калі б былі ў нас грошы, хіба пашкадаваў бы?

Як на тое, з Ленінграда прыехаў у адпачынак аднавясковец і прапанаваў:

— Давай свае дакументы, адвязу ў Ленінградскі тэхнікум грамадскага харчавання. Спецыяльнасць атрымаеш такую, што ніколі галадаць не будзеш...

А было тое ў галодным 1933 годзе. У тым годзе. калі часцей за ўсё сніліся смачныя стравы, якія еў і ніколі не наядаўся. Хіба можна было ўстаяць перад спакусай стаць кухарам і самому наядацца да адвалу і людзей добра накарміць? Я не ўстаяў і аддаў свае дакументы... Мой добразычлівец згубіў іх, а мне прыслаў паперку нават без штампа, нібыта з тэхнікума, што мне адмовілі ў прыёме. І ўсё. І скончыліся мае мары пра сытную ежу.

Я зміўрыўся было са сваім нешчаслівым лёсам. Сапраўды, не проста мужыку выбіцца ў людзі. Трэба мець капейку, тады нечага дасягнеш...

З такім настроем аднойчы пайшоў у Клімавічы. Не помню, па якой справе. Абысці рэдакцыю не змог, не было сілы. Цягнула туды як магнітам, хоць разок дыхнуць рэдакцыйным паветрам!

На маё вялікае шчасце на месцы застаў Аляксея Мікалаевіча. Вось дзіва: і ён мне абрадаваўся! Здаецца, што я яму: хлапчанё зялёнае, а глядзі ты, і для мяне ў яго душы знайшлося цёпленькае месца.

— Іванка, як доўга цябе не было! — усклікнуў ён. — Дзе ты дзеўся? Як жывеш?

— Звычайна, працую ў калгасе.

— З вучобай як?

Давялося паспавядацца, як на духу. Ён слухаў уважліва, не зводзячы з мяне вачэй.

— І ты што, здаўся?

— А што мне рабіць? Што я магу?

— Змагацца. За свой лёс трэба змагацца.

— Навучыце, як.

— Не навучу, а памагу. Дзе твае дакументы?

Давялося прызнацца пра сваю кухарскую няўдачу. Ён пасмяяўся і кажа:

— Лічы, што табе пашанцавала. Які з цябе кухар? Ты будзеш газетчыкам. Вучыся на газетчыка.

— Хіба такія школы ёсць? — здзівіўся я.

— Ёсцека. Газетны тэхнікум. Абвешчаны набор навучэнцаў. Табе пашанцавала, абвясцілі са спазненнем, ты яшчэ паспееш паступіць. Гэта ў Магілёве. Ты камсамолец, вядома?

А ў тыя гады чамусьці быў спынены прыём у камсамол. Аляксей Мікалаевіч успомніў пра гэта, спахапіўся:

— Нічога, я памагу. Я ж член бюро райкома камсамола. Напішу характарыстыку-рэкамендацыю сумесную ад рэдакцыі і райкома камсамола, сакратар райкома падпіша... Сёння ж ідзі да дырэктара школы і папрасі дублікат атэстата, а замест метрыкі папрасі ў сельсавеце даведку аб нараджэнні. Можа, там адважацца годзік прыпісаць, бо па ўзросце ты можаш не падысці...

Вось так з ходу ўсё і вырашыў. Ну, што я яму? — зноў вярнулася думка. — Вясковы хлопец, якіх яму давялося бачыць на кожным кроку, з якімі жыў побач. Словам, чужы чалавек. А паклапаціўся, як пра роднага.

Я сам яшчэ як след не мог ацаніць тады, што значыла для мяне тая яго падтрымка. А ён ведаў, не мог не ведаць, бо быў ужо сталым, вопытным чалавекам.

Не адкладаючы, пры мне сеў пісаць характарыстыку. Пісаў, задумваўся і зноў пісаў. Атрымалася даволі вялікая.

Пры мне прадыктаваў машыністцы. Я слухаў і не верыў сваім вушам: ці пра мяне гэта? Так расхваліў, аж стала сорамна. А ён убачыў, што я чырванею, паблажліва паляпаў па плячы і кажа:

— Не чырваней, не саромейся. Я так напісаў, каб цябе прынялі. Бо тэхнікум камуністычны, а ты нават не камсамолец. Ёсць закавыка. Гэта я авансам, спадзяюся, што не падвядзеш.

Узяў надрукаваную паперу, спачатку занёс падпісаць рэдактару газеты Меляшкевічу, потым схадзіў у райком камсамола. Вярнуўся задаволены:

— Трымай, будучы студэнт і журналіст! Усё ў парадку. Заўтра ж каб былі астатнія дакументы і гайда ў Магілёў. Вось табе адрас... — Напісаў на паперцы адрас, дадаў:

— Дакументы ўручай самому дырэктару. Я яго ведаю, чалавек з выгляду строгі, але ты не палохайся. Сапраўды ён добры, чулы...

Паставіў мяне на дарогу, блаславіў, значыць. І пайшоў я па той ягонай дарозе шчаслівы і бясконца ўдзячны за тое, што дапамог знайсці самога сябе.

Іван НОВІКАЎ.




З 12 ПА 18 ЧЭРВЕНЯ

12 чэрвеня, 19.55

**КАНЦЭРТ КАМЕРНАЙ МУЗЫКІ**

Гучаць творы Баха, Гайдна, Моцарта ў выкананні артыстаў Белдзяржфілармоніі.

12 чэрвеня, 21.50

**«ХТО СЁННЯ АДСУТНІЧАЕ?»**

Прэм'ера мастацкага фільма Беларускага тэлебачання.

13 чэрвеня, 21.40

**«ЛІРА»**

Мастацка-публіцыстычная праграма.

У чарговым выпуску пойдзе размова аб кнізе «Памяць», якую стварае калектыў «БелСЭ».

Вядучы — У. Сцепаненка.

14 чэрвеня, 20.10

**«БАЦЬКАЎ ДАР»**

100 беларускіх песень са збору Р. Р. Шырмы. Вы пачуеце песні савецкага часу. Выконвае хор Беларускага тэлебачання і радыё пад кіраўніцтвам народнага артыста БССР прафесара В. Роўды.

Уступнае слова музыказнаўцы Л. Макаранкі.

17 чэрвеня, 11.35

**ТЭЛЕВІЗІЙНЫ КЛУБ САМАДЗЕЙНАЙ МАСТАЦКАЙ ТВОРЧАСЦІ**

Слонімскі тэатр-студыя: людзі і ролі.

17 чэрвеня, 16.30

**«ДЗЕНЬ ДОБРЫ, МУЗЫКА»**

Выступае ўзорны аркестр баяністаў і акардэаністаў Палаца культуры Мінскага аўтамабільнага завода.

17 чэрвеня, 22.55

**«МІНСК МУЗЫЧНЫ»**

С. Губайдуліна. «Час душы».

Выконвае Дзяржаўны сімфанічны аркестр БССР. Дырыжор — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Ю. Яфімаў.

18 чэрвеня, 11.25

III Усесаюзны фестываль народнай творчасці. Канцэрт лаўрэатаў і дыпламантаў агляду-конкурсу народных і ўзорных калектываў самадзейнай творчасці г. Мінска.

18 чэрвеня, 13.50

**«ЛІДЭР»**

Музычнае шоу-конкурс з удзелам груп і салістаў Беларусі, Прыбалтыкі і Ленінграда, а таксама моладзі Гродна.

18 чэрвеня, 19.30

**«ПАЭЗІІ РАДОК ЧАРОЎНЫ...»**

Вершы В. Аколавай чытае артыст М. Кірычэнка.

18 чэрвеня, 19.35

Бенефіс І. Багачовай.

Прагучаць творы Сен-Санса, Маснэ, Чылеа, Бізэ, Гаўрыліна.

Уступнае слова музычнага каментатара Э. Язерскай.

18 чэрвеня, 23.10

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ»**

Інфармацыйна-музычная праграма.

## У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»

МАСТАЦКІ АЛЬБОМ. Алесь Адамовіч. На беларускай і рускай мовах, складальнік У. Бойка. Мн., «Беларусь», 1989. — 1 р. 30 к.

А. ГЛОБУС. Адзінота на стадыёне. Апавяданні. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989. — 40 к.

У. ПАУЛАЎ. Радзімкі. Апавяданні. Мн., «Юнацтва», 1989. — 40 к.

А. СЫС. Пан Лес. Вершы. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989. — 30 к.

У. ШЭКСПІР. Тры камедыі. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989. — 3 р. 20 к.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АТ 17637 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.